БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. ЯК ШТОМЕСЯЧНІК. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ БГФ «НАША НІВА»

СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

*ЯНА...*

*Яна гэта робіць з жарсьцю*
*белай арыйскай жанчыны,*
*калі цьвітуць гіяцынты,*
*калі выпадае сьнег,*
*так, што ў варожай крыві*
*стынуць эрытрацыты*
*і ў сьлёзы ператвараецца*
*нахабны варожы сьмех.*
*Яна заходзіць у храмы*
*акупаванай Краіны,*
*дзеліць хлеб прычашчэньня*
*і прыгубляе кагор*
*за вольнае перамяшчэньне,*
*за сонца зь вяршыняў гор.*
*Яна заходзіць у храмы,*
*убраныя ў золата восені,*
*кладзе на камені капішчаў*
*сьвяты крывіцкі агонь*
*і просіць за нашы правіны,*
*у нашага просіць Бога,*
*маленькую ўзьняўшы далонь.*



# ВОСТРАЯ БРАМА

*беларускі культурны кантэкст XX ст.*

**Новы супольны праект «Нашай Нівы» і беларускай рэдакцыі Радыё Свабода: рэпартажы, рэфлексіі, гутаркі — кожную нядзелю на зьмененых хвалях Свабоды. Кожную сераду — паўтор перадачы.**

Адсутнасьць кантэксту культуры — гэта адсутнасьць глябальных арыенціраў нацыі. Яна нявечыць нашае жыцьцё і на вялікім, і на малым узроўні. Беларусь нібыта сьцьвярджае сябе як незалежная дзяржава, але дзеля чаго гэта робіцца, дзеля чаго тая незалежнасьць — разумее ня кожны. Людзі не задумваюцца над тым, што сувэрэнітэт патрэбны для самабытнага існаваньня нацыі, бо менавіта ў самабытным існаваньні нацыя найлепшым чынам рэалізуе свой патэнцыял, уладкоўвае жыцьцё ў адпаведнасьці са сваімі прыроднымі рысамі характару. Калі народ існуе ў культурным кантэксьце, яму не прыходзяць у галаву розныя самаедзкія, дзікунскія ідэі, ён не азлоблены, а прагны да творчасьці і працы.

**Зь пятага кастрычніка кожны тыдзень на хвалях Свабоды.** **Новы расклад перадачаў Беларускай службы — на старонцы 12.**

НАША НІВА

№ 31 (92) 20 кастрычніка 1997 г.



# СТАЯНЬНЕ СУПРАЦЬ РЭЖЫМУ

Шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч, вучань 95-й менскай сярэдняй школы, старэйшы сын Ядзьвігі Лабковіч, другі месяц знаходзіцца за кратамі. У камэры-«малалетцы» жодзінскай турмы яго трымаюць толькі за тое, што ён беларус і мае сьмеласьць любіць сваю Бацькаўшчыну. Любіць яе сёньня, як вядома, — справа палітычная, апазыцыйная, крымінальная.

**МАЦІ**

Яна нарадзілася на хутары, што блізу вёскі Сьвіршчына Астравецкага раёну. Чацьвертая ў сям'і. Дзявочае прозьвішча Пацэвіч. Каталічка. Скончыла ўлікова-плянавы тэхнікум у Маладэчне. Працавала на правінцыі. Выйшла замуж і зьехала ў Менск. Жыве ў двухпакаёвай кватэры дома-«хрушчоўкі», што на вуліцы Гая. Прыгожая беларуская жанчына. Ядзя, Ядзьвіга Лабковіч. Маці двох сыноў: Валеркі і Вадзіма.

Магчыма, што вера продкаў і месца нараджэньня маці дапамаглі яе старэйшаму сыну Вадзіму ў свае шаснаццаць стаць на шлях актыўнай барацьбы з антыбеларускім рэжымам. Магчыма, гэтыя акалічнасьці дапамагаюць сёньня самой Ядзьвізе Язэпаўне выхоўваць меншага сына Валерку й чакаць з турмы свайго першынца.

Сёньня на кватэру да Ядзьвігі Лабковіч заходзяць родныя, старыя й новыя знаёмыя, каб падтрымаць беларускую маці ў ейным стаяньні за свайго сына. Калі мы вызнаем беларускую ідэю як ідэю салідарнасьці, ідэю адзінай беларускай сям'і, як патрэбу ўзгадоўваць у сабе адзіны беларускі esprit de corps (карпаратыўны дух), тады лёс маці й сына Лабковічаваў ёсьць наш лёс, наша праблема.

Яшчэ ўчора Ядзьвіга Лабковіч над многімі рэчамі не задумвалася. А калі іншы раз і пачынала рымець у душы памяць продкаў, дык тымчасовыя клопаты хутка зьбівалі хвалю роздумаў і вярталі ў рэчаіснасьць. Адзінокай маці трэба было думаць, як паставіць на ногі двох сыноў. Пра тое, пра што не пасьпявала дадумваць маці, стаў задумвацца яе старэйшы.

I вось турма. I маці Ядзьвіга Лабковіч чакае сына не зь сяброўскай вечарынкі.

А пачыналася ўсё так.

28 жніўня 1997 году старэйшы сьледчы па асабліва важных справах (у дужках заўважым: усе сьледчыя — «сьледчыя па асабліва важных справах»)... Дык вось, паўторымся, што 28.08.97 году ст. сьледчы па АВС сьледчай управы ўнутраных справаў Менскага абласнога выканаўчага камітэту капітан міліцыі Кухцік А.Н. (так у пратаколе, складзеным на расейскай мове) на падставе пастановы ад 28 жніўня 1997 году ў прысутнасьці панятых і кіруючыся артыкуламі крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ, правёў вобшук у кватэры Лабковіча Вадзіма Дзьмітрыевіча. Адзначым, што капітан Кухцік і ягоны напарнік, пра ўдзел якога ў вобшуку ў пратаколе нічога не сказана, прапанавалі Ядзьвізе Язэпаўне дабраахвотна выдаць рэчы, дакумэнты, прадметы, якія могуць мець значэньне ў справе. Пры вобшуку знайшлі (цытую паводле арыгіналу): «флаг матерчатый с символикой красно-белого цвета, 2 шт. в шкафу в детской комнате». Вобшук праводзілі з 14 г. 20 хвілін да 15 г. дня 28 жніўня.

Вобшуку ў кватэры Лабковічаваў папярэднічала затрыманьне Вадзіма, а таксама Алеся Шыдлоўскага органамі стаўбцоўскай міліцыі, якое мела месца 27-га жніўня ў г. Стоўбцы. Хлопцаў абвінавацілі ў злосным хуліганстве й зьнявазе лукашэнкаўскай сымболікі. У той дзень Ядзьвіга Язэпаўна так і не дачакалася сына, які, дарэчы, ніколі пазьней адзінаццаці гадзінаў дамоў не прыходзіў. На наступны дзень да абеду маці абзвоньвала менскія бальніцы й райаддзелы міліцыі. Сына нідзе не было. I тады празьвінеў званок ад жонкі Алеся Шыдлоўскага, якая й паведаміла, што Вадзіма затрымалі па справе яе мужа. Хутка пасьля тэлефанаваньня ў кватэру заявіліся з вобшукам.

Працяг на старонцы 3

# Час Чэ

Як вызначыць, ў якім стане перабывае нашае грамадзтва? Рэвалюцыя? Рэстаўрацыя? Дэпрэсія? Стагнацыя? Станаўленьне дзяржаўнасьці, альбо яе разбурэньне?..

Вакол усё спялося. Круціцца. Часам выплываючы зусім нечаканым бокам. Але адно адчуваецца выразна — трывога, няпэўнасьць. Адчуваньне зьвезненага мэханізму, якому не даюць аслабіць спружыну.

Рукой, што накручвае гэтую спружыну, ёсьць улада. Паўзы паміж заводамі, і раней малыя, сёньня амаль зьніклі. Грамадзтва заводзіцца, трымаецца ў тонусе, які пакрысе набліжаецца да сутаргі.

Калі раней, тры гады назад, заводка грамадзтва давалася лёгка (напрыклад, рэфэрэндумам), то цяпер утрымліваць спружыну складана. Грамадзтву мулка, няўтульна стала знаходзіцца ўвесь час на ўзводзе. Няўтульна сябе пачувае і ўлада. Спрабуючы засьцерагчыся і папярэдзіць магчымыя праявы нелаяльнасьці, яна выдае новыя ўказы, па-ранейшаму вяюе з прэсай, закранае прафсаюзы і нават сваіх паплечнікаў ва ўладзе. Спружыну працягваюць накручваць.

Нашыя людзі сёньня ўжо ведаюць, што такое тэрарызм. Тэрарызм ня недзе на Блізкім Усходзе, а тут, у нас. Бледныя твары судзьдзяў узарванага суда, скручаныя і парваныя трубы газаправодаў, забіты Мікалуцкі... Калі за Шушкевічам і Кебічам здараліся акты замоўных забойстваў, усё тлумачылася грашыма і перадзелам уласнасьці. Цяпер жа, калі ўвесь буйны бізнэс і ўся буйная ўласнасьць знаходзяцца ў сфэры дзяржаўнай улады, тэракты можна растлумачыць толькі разборкамі ўнутры гэтай самай улады.

Любая праява тэрарызму — гэта сыгнал, што ў грамадзтве нешта ня так, што пачынаюцца некантраляваныя працэсы. Спружына вырываецца з-пад кантролю. Няхай забойствы дзяржаўнага чыноўніка і падрыў суда — справы розных сілаў і мелі розныя мэты, ядна іх тое, што гэта мэты палітычныя.

Рэакцыя ўладаў на гэтыя выпадкі дазваляе меркаваць, што яны, улады, не абцяжарваюць сябе аналізам падобных зьяваў, ці даўна ўжо ўсё для сябе вырашылі. У любым выпадку, наша краіна, якая пазьбегла кафліктаў з ужываньнем зброі з часоў распаду Саюзу, павольна ўвайшла ў новы для сябе кантэкст, дзе ёсьць месца палітычнаму тэрору і героям-тэрарыстам кшталту Чэ Гевары, які перажывае сёньня чарговую хвалю сваёй папулярнасьці і прыхільнасьць да справаў якога не хавае прэзыдэнт электарату.

Алег Дашкевіч

# «Справа №182»: судовы перасьлед спынены

14 кастрычніка Вярхоўны Суд Рэспублікі разгледзеў касацыйныя скаргі асуджаных грамадзянаў Адамовіча, Плешчанкі і Хамайды, а таксама іх адвакатаў, на прысуд Віцебскага абласнога суда.

Вышэйшая судовая інстанцыя пакінула ў сіле галоўныя высновы прысуду, падпісанага віцебскім судзьдзём Леанідам Гурко, але скасавала найбольш адыёзныя патрабаваньні. Цяпер паводле вэрдыкту Вярхоўнага Суда асуджаныя вызваляюцца ад сплочваньня судовых выдаткаў за пераклад на працэсе з расейскай мовы на беларускую, а таксама за праведзеную на папярэднім сьледзтве псыхіятрычную экспэртызу. У той жа час Вярхоўны Суд пакінуў без увагі патрабаваньне суда ніжэйшай інстанцыі апляцыць судовыя выдаткі за правядзеньне крыміналістычнай экспэртызы ў сувязі з абвінавачваньнем Адамовіча С. па артыкуле 213 КК РБ (незаконнае нашэньне халоднай зброі), адносна якога паэт цалкам апраўданы. Варта таксама нагадаць, што артыкул 67 Крымінальнага Кодэксу (заклік да тэракту), паводле якога й была ўзбуджаная крымінальная справа №182, «ператлумачаны» віцебскім аблсудом на артыкул 188 (зьнявага вышэйшай службовай асобы). Гэтая дыспазыцыя Вярхоўным Судом таксама пакінутая бязь зьменаў.

Такім чынам, касацыйныя скаргі асуджаных Адамовіча, Плешчанкі і Хамайды, у якіх яны патрабуюць адмены прысуду па ўсіх пунктах абвінавачаньня, Вярхоўны Суд разглядаў цэлыя чатыры месяцы, але станоўчага рашэньня так і не прыняў. 14 кастрычніка 1997 году прысуд Віцебскага аблсуда па справе №182 з папраўкамі Вярхоўнага Суда ўступіў у законную сілу. Цяпер асуджаныя могуць свабодна перамяшчацца па тэрыторыі Краіны, а С.Адамовічу застаецца прычакаць адпаведнага распараджэньня, каб забраць у сьледчага Сакольчыка «рэчавыя доказы»: друкавальны апарат «Любава», «халодную зброю» (нож, дзягу, нунчакі), уласныя зборнікі вершаў і дакумэнты...

Раман Гарт

# «Расейскай царквы тут не павінна быць»

*Гутарка карэспандэнта «НН» зь Пятром Гушчам*

Гэты чалавек абʼявіў аб сабе і адразу выклікаў бурлівую рэакцыю — ад захапленьня да нянавісьці. «Высновымі» падзеямі 1996-97 году шмат беларусаў бачыла яго на чале шматлікіх шэсьцяў, жалобных і сьвяточных. Гэтага чалавека пазнаюць на вуліцах, але ня пэўна ўяўляюць, хто ён.

Два гады таму ён пачаў ствараць БЕЛАРУСКУЮ праваслаўную царкву. Сёньня гэтая царква — рэальнасьць.

**«НН»: Сёньня шмат хто называе Вашую царкву сэктанцкай.**

Пятро Гушча: Беларуская Народная (Аўтакефальная) Праваслаўная Царква зьяўляецца япіскапствам Сусьветнага Амэрыканскага Патрыярхату, утворанага архіяпіскапам Уладзіславам Рыжым-Рыскім у 1949 годзе ў Амэрыцы, і прызнанага старэйшымі Патрыярхатамі сьвету.

Беларускі Сьвятар Уладзіслаў Рыжы-Рыскі быў асьвечаны ў сан япіскапа ярэем Вальтэрам М.Прафетам у 1965 годзе. У 1967 годзе япіскап Уладзіслаў быў уведзены ў сан архіяпіскапа архіяпіскапам Сьвятой Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы Пітэрам А.Журавецкім. Праз гэта Уладзіслаў распачаў актыўную дзейнасьць па пашырэньні Сусьветнага Амэрыканскага Патрыярхату. На сёньня япіскапствы Патрыярхату, апрача Беларусі, існуюць у ЗША, Нарвэгіі, Швэцыі, Нямеччыне, Пуэрта-Рыка, Калюмбіі, Гаіці, Дамініканскай Рэспубліцы, Бразыліі, Пэру, Аргентыне, Сальвадоры, Нігерыі, Індыі й інш.

Структура Сусьветнага Патрыярхату вельмі дэмакратычная. Яна дазваляе сьвятарам і вернікам пераход ці вяртаньне пад юрысдыкцыю іншых архіяпіскапаў. Дзеля павышэньня адукацыйнага ўзроўню й пашырэньня кола сьвятароў Сусьветнага Патрыярхату патрыярх Уладзіслаў стварыў у Нью-Ёрку Унівэрсытэт Народаў Амэрыкі.

Пасьля сьмерці патрыярха Ўладзіслава Рыжага-Рыскага ў 1978 годзе Першаерархам Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы стаў ягоны брат архіяпіскап Юры (Рыжы-Рыскі), які адначасова зьяўляецца Апостальскім Адміністратарам Патрыярхату.

Мяркую, весьці размову аб неканaнічнасьці нашай царквы абсурдна.

**«НН»: Але, Беларуская Народная Праваслаўная Царква — зьявішча мала вядомае на беларускіх землях.**

П.Г.: Сваю дзейнасьць Беларуская Народная Праваслаўная Царква на тэрыторыі Беларусі пачала ў 1995 годзе. Але мы лічым сябе пераемнікамі Беларускай Аўтакефальнай Царквы, створанай у 1924 годзе, таму лягічна, што ў саманазьве апрача слова «народная» мы ўжываем слова «аўтакефальная». Да нас ёсьць прэтэнзіі з боку амэрыканскай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў сувязі з тым, што мы нібыта дублюем, «крадзем» у яе назву. Але гэта няпраўда. Заходняя БАПЦ мусіць зрабіць гэтаксама, як падобныя да яе ўкраінская й расейская праваслаўныя цэрквы, якія існуюць на Захадзе — дадаць да сваёй назвы слова «замежная».



П.Гушча (зьлева) на мітынгу каля Менскай Опэры.

Зрэшты, мы не жадаем варагаваць з замежнай БАПЦ, якую ўзначальвае яго міласьць мітрапаліт Ізяслаў. Я паважаю Ізяслава. Рэч у тым, што мне ЯК БЕЛАРУСУ выгадна, каб ён быў япіскапам. Да любой справы ўвогуле, якая ідзе на карысьць нашай нацыянальнай справе, я стаўлюся прыхільна. Тым больш, гэта датычыць адраджэньня беларускага праваслаўя.

**«НН»: Вядома, што на пачатку вашай дзейнасьці ў Беларусі вы зьвярнуліся да Мітрапаліта Ізяслава з прапановай ачоліць БАПЦ у Беларусі.**

П.Г.: Але, на жаль, ён адмовіўся. Ізяслаў не прызнае Ўладзіслава Рыжага-Рыскага, бо лічыць ягоны Патрыярхат неканaнічным. Але што ёсьць канaнічным? Кананічнасьць — гэта тое, што склалася гістарычна. Тобок, царква лічыцца канaнічнай, калі яе прызнаў хаця б адзін з існых Патрыярхатаў. Нашу царкву прызналі два з найстаражытных Патрыярхатаў —Анціяхійскі й Александрыйскі. Што да замежнай БАПЦ, як вы ведаеце, яе не прызнаў пакуль ні адзін з Патрыярхатаў, гэтаксама як не прызнаным застаецца Кіеўскі Патрыярхат Усёй Русі-Украіны.

**«НН»: На нядаўняй кіеўскай сустрэчы Мітрапаліта Ізяслава з ініцыятыўнай групай па вяртаньні замежнай БАПЦ у Беларусь вельмі шмат ўвагі надавалася Вашай дзейнасьці. Мяркуецца, што Вы чыніце перашкоду адраджэньню беларускага праваслаўя праз сваю раскольніцкую дзейнасьць...**

П.Г.: Гэта няправільны падыход. Мяркую, Ізяславу варта было б запрасіць мяне на сустрэчу падчас ягонага апошняга візыту ў Кіеў. Ён бы змог атрымаць інфармацыю аб нашых пазыцыях, аб нашым імкненьні да едначасьці зь першых рук.

Але я згодны, у беларускім праваслаўным жыцьці дамінуе тэндэнцыя да падробленасьці. Прыкра гэта адзначаць, але мне падаецца, што гэтая тэндэнцыя вынікае з пэўнай нацыянальнай традыцыі беларусаў.

Мяркуйце, замежная БАПЦ наважылася разгарнуць сваю дзейнасьць толькі неўзабаве пасьля пачатку нашай дзейнасьці. Але, калі б хто пачаў рабіць гэтую справу перада мной, я б не замінаў, а дапамагаў. Мне патрэбная беларуская еднасьць.

Я добра ведаю, што ў прыходах Ізяслава вельмі мала прыхаджанаў, і ў асноўным гэта людзі досыць сталага веку. У замежнай БАПЦ пэрспэктывы няма. Але памыляецца Ізяслаў, калі лічыць, што вярнуўшыся ў Беларусь, яна атрымае прыток сьвятароў, якія пажадаюць пакінуць Расейскую Праваслаўную Царкву. Амаль усе бажніцы, уся маёмасьць належыць РПЦ. А каб будаваць сваё, у БАПЦ няма сродкаў... Сьвятары не наважацца пазбавіцца даху над галавой.

**«НН»: Тым ня менш, царква, якую ачольваеце Вы, існуе.**

П.Г.: Больш за тое, я сьцьвярджаю, што акрамя тых трох дзясяткаў тысяч рэальных прыхаджанаў, мы маем дужа багата патэнцыйных прыхільнікаў. Але й зноў жа, усё ўпіраецца ў фінансы. Да прыкладу, у Менску. Пабудуй царкву на тысячу чалавек — прыйдзе тысяча, на дзесяць тысяч — будзе дзесяць тысяч прыхаджанаў... Пакуль мы ня маем аніводнае ўласнае царквы.

**«НН»: Але ж трыццаць тысяч вернікаў — гэта сіла.**

П.Г.: Рацыя, але ізноў жа мы сутыкаемся з традыцыйнай беларускай падробленасьцю... Хаця, ня ўсё так фатальна. Напрыклад, у Лідзе, дзе мы маем самы вялікі прыход, ідзе будаўніцтва нашай царквы. Нягледзячы на тое, што з боку мясцовых уладаў пачаўся шалёны ціск і чыненьне перашкодаў, гэты храм будзе пабудаваны. І гэта будзе самы вялікі праваслаўны храм у акрузе. Я ўпэўнены, што лідзкія прыхільнікі РПЦ з часам далучацца да нас...

Адзіныя, каго мы ніколі не дапусьцім да нашай царквы, — былыя сьвятары РПЦ. Агентаў нам ня трэба.

**«НН»: Вашую царкву абвінавачваюць у прыхільнасьці да пратэстантаў. У свой час асабіста Вы зь імі кантактавалі. Кажуць аб спрашчэньні Вашай багаслужбы на ўзор пратэстантаў...**

П.Г.: Сапраўды, наша царква кантактуе зь некаторымі пратэстанцкімі суполкамі. Але толькі з тымі, якія ў прынцыпе гатовыя да вяртаньня ва ўлоньне праваслаўя. На жаль, такіх ня шмат. А ўвогуле, пратэстантызм, і, асабліва, нэапратэстантызм жывучы толькі датуль, дакуль у грамады звонку ўліваюцца грошы. Нэапратэстантызм — рэчыва нестабільнае. Адсутнічае канон. Адсутнічае традыцыя. Адсюль іхны сёньняшні посьпех у нашых людзей.

Натуральна, нашая царква вонкава адрозьніваецца ад Расейскай Праваслаўнай Царквы, але не вядзецца аб адступленьні ад канонаў. Проста, нашым людзям навязаны стэрэатып расейскага праваслаўя як адзінага вернага. Насамрэч праваслаўе дынамічнае й шматбаковае, варта параўнаць грэцкае й, напрыклад, сэрбскае.

Але не вядзецца аб адыходзе ад праваслаўнага канону багаслужбы на карысьць спрашчэньня, як у нэапратэстантаў. Зразумеце, вельмі складана правесьці службу на двары. Такое ў нас часта здаралася ў Сёмкавым Гарадку, калі апантаныя расейскія шавіністы перашкаджалі нам увайсьці ў храм.

**«НН»: Наколькі нам вядома, у Сёмкавым Гарадку вы ладзіце службы ў будынку касьцёла.**

П.Г.: Рацыя. Але фармальна будынак належыць РПЦ. Але памыляюцца тыя, хто мяркуе, што мы «забралі», альбо што нам «падарылі» гэты будынак. Рэч у тым, што ён знаходзіцца ў аварыйным стане. Мы маем перасьцярогу, што калі храм будзе адбудаваны нашымі рукамі, РПЦ «узгадае» аб сваіх «правах» на яго.

У гэтай сытуацыі вельмі паказальныя нашыя адносіны з каталіцкай грамадой Сёмкавага Гарадка, якая, натуральна, мае найбольшыя правы на будынак касьцёла, і тым самым зьяўляецца гарантам-абаронцам будынка ад пасягальніцтваў РПЦ. Мы паразумеліся з каталікамі Сёмкавага Гарадка ў тым, што яны ня будуць забіраць у нас свой касьцёл, пакуль ён будзе нашым —беларускім.

Я — праваслаўны — талерантна стаўлюся да ўсіх канфэсіяў, якія ня дзейнічаюць супраць Беларусі. Беларусь традыцыйна шматканфэсійная краіна. Гэта наш лёс, гэта наш знак. Але адзінае я ведаю дакладна — расейскае царквы тут не павінна быць.

**«НН»: Айцец Пятро, вашае імя набывае вядомасьць і прыхільнасьць у вялікай колькасьці людзей. Але аб вашым жыцьці амаль нічога не вядома.**

П.Г.: У мяне такі складаны лёс, якіх, бадай няма ні ў кага ў Беларусі. Я мяркую, што пакуль яшчэ ня ўсе з прыхільнікаў БАПЦ гатовыя ўспрыняць маю біяграфію. Адзінае, у чым ні ў кага ні можа быць сумневаў — я стары антысавецтчык, я ў БЕЛАРУСКАЙ справе вельмі даўно, і я ня кіну гэтую справу. Мае продкі на гэтай зямлі пакінулі вельмі шмат сьлядоў.

Севярын Квяткоўскі

# Стаяньне супраць рэжыму

Працяг са старонкі 1.



На трэці дзень па затрыманьні Вадзіма Лабковіча маці паехала ў Стоўбцы, каб даведацца, у чым жа абвінавачваюць ейнага сына. Сьледчы міліцыі Алег Іванавіч Яскевіч акрамя таго, што, маўляў, дні праз тры хлапца адпусьцяць, нічога больш канкрэтнага не сказаў. 30 жніўня Ядзьвіга Язэпаўна ізноў выправілася ў дарогу: павезла сыну прадуктовую перадачу й вопратку. У гэты ж дзень яна выпадкова ўбачыла Вадзіма, калі адчыніла дзьверы ў кабінэт сьледчага. Аднак і гэтым разам ёй не далі перамовіцца з сынам нават некалькі хвілінаў. А вось дапытаць сынаву маці сьледчы паспрабаваў, пры гэтым «забыўшыся» сьпярша ў ясных і дакладных фразах папярэдзіць сьведку, што яна мае права адмовіцца ад паказаньняў. Пачатак допыту быў насычаны прыкладна такімі пытаньнямі: «Я вас дапрашу, вы дасьцё Вадзіму характарыстыку: як вучыўся й паводзіў сябе ў школе? чым займаўся? куды хадзіў? ці затрымліваўся міліцыяй?..» Ядзьвіга Язэпаўна адмовілася гаварыць пра сына, а фактычна закладаць яго органам сьледзтва.

На наступныя звароты Ядзьвігі Язэпаўны з просьбамі даць дазвол на спатканьне з сынам ёй адказвалі, што ў стаўбцоўскім ізалятары часовага ўтрыманьня няма ўмоваў для падобных сустрэчаў. На дзясяты дзень знаходжаньня ў ізалятары г. Стоўбцы Вадзіму Лабковічу ў прысутнасьці дзяржаўнага адваката Лімантава Актавія Міхайлавіча аб'явілі абвінавачвальныя артыкулы. Маці пры гэтым не прысутнічала, паколькі не была папярэджаная. Не паведамілі ёй і тады, калі сын аб'явіў галадоўку, патрабуючы адваката. Пракурор Стоўбцаў Сяргей Мяцельскі, як ён сам паведаміў, на другі дзень пасьля абвешчанай галадоўкі знайшоў Вадзіму абаронцу — названага ўжо грамадзяніна Лімантава. Гэты апошні затэлефанаваў спадарыні Лабковіч і сказаў літаральна наступнае: «Раз трэба, то я буду яго (Вадзіма — С.А.) абараняць. Але падабаецца вам ці не, у мяне камуністычныя погляды на жыцьцё». Ад гэтага абаронцы з поглядамі маці даведалася, што Вадзім скардзіцца на галавакрут (галавакружэньне). Гэты сымптом сярод іншых прычынаў можа мець і адну з самых распаўсюджаных у турме: пашкоджаньне галавы ў выніку моцных удараў.

Справу Лабковіча-Шыдлоўскага зь міліцыі пасьпяшаліся перадаць у гарпракуратуру, але сьледчы Папін Васіль Сьцяпанавіч зь першага заходу не прыняў яе да вытворчасьці з прычыны недастатковай азнаёмленасьці з дакумэнтамі. Праз некалькі дзён Папін усё ж прыняў справу. Цяпер маці мусіла ў яго прасіць дазволу на спатканьне з сынам. Сьледчы пракуратуры як бы й хацеў дазволіць, але пры ўмове, што й міліцыя будзе згодная.

А ў міліцыі адказвалі, што калі Папін дазваляе спатканьне, то няхай пакліча арыштаванага ў свой кабінэт, а ў іх умоваў няма.

Асаблівае грамадзянскае «замілаваньне» выклікае тлумачэньне пракурора Сяргея Мяцельскага, якое ён даў маці Вадзіма Лабковіча на пытаньне, чаму ёй не дазваляюць спаткацца з непаўналетнім сынам: «У сувязі з тым, што вы, маці, адмовіліся ад паказаньняў. А раз так, то й сына вам няма чаго бачыць».

23-га верасьня Вадзіма й Алеся Шыдлоўскага прывезьлі з Жодзіна назад у Стоўбцы. Сьледчы Папін выклікаў па тэлефоне адвакатаў і родных, выказаўшы спадзяваньне, што хлопцаў, магчыма, адпусьцяць. Прыкладна гадзіне аб 11-ай дня 23-га ў Стоўбцах зьявіўся «прадстаўнік зь Менску», які, хутчэй за ўсё, і перашкодзіў плянам мясцовых законьнікаў выпусьціць падсьледных на ўмовах падпіскі аб нявыезьдзе. Адвакаты й родныя чакалі рашэньня ўвесь дзень. За гэты час абаронца Лабковіча спадар Іван Ігаравіч Дудараў сустрэўся з Вадзімам і даведаўся, што юнак два разы аб'яўляў галадоўку, а ўвогуле — трымаецца як належыць.

Усё, што 23-га верасьня сьледчы Папін змог паведаміць маці Вадзіма Лабковіча, дык гэта паабяцаць, што сына адпусьцяць у пятніцу, 26-га. Аднак яшчэ 25-га юнакоў вярнулі ў жодзінскую турму. Ядзьвіга Язэпаўна лічыць, што іхных дзяцей прывозілі ў Стоўбцы на допыты, а выпускаць іх ніхто не зьбіраўся.

1-га кастрычніка маці ізноў затэлефанавала сьледчаму, ізноў прасіла дазволу на спатканьне з сынам. «Да, приезжайте,» — сказаў Папін. Маці прыехала. Але пракурор Мяцельскі не дазволіў сустрэчу і прапанаваў маці чакаць суда.

**СЫН**

Вадзім Лабковіч мае ўсяго шаснаццаць. Нарадзіўся пры Брэжневе, пачаў гаварыць пры Андропаве, пайшоў у школу пры Гарбачове... У 1991-м, калі адбыўся крах Савецкага Саюзу, Вадзімавы аднаклясьнікі яшчэ насілі чырвоныя піянэрскія гальштукі. Ён жа так і не павязаў. Вучыўся ў школе добра, на «4» й «5», хоць і не выдатнік. Урокі фізкультуры толькі даваліся з пэўнымі цяжкасьцямі. Кожнае лета езьдзіў да бабулі на хутар, на волю.

Вуліцы Менску 90-х і вольніца хутару як радавога гнязда прадкаў, трэба думаць, і сталі грунтам ягонага характару, які сёньня Вадзім гартуе на жодзінскай «малалетцы».

Маці кажа, што Вадзім зь дзяцінства праяўляў волю, а то і ўпартасьць у паводзінах. Але заставаўся добрым сынам і не пераступаў мяжу паміж добрым і дрэнным. Як і меншы брат Валерка, Вадзім — фанат футболу.

Пасьля першага затрыманьня міліцыяй на адным зь мітынгаў Вадзіма пацягнулі на камісію па справах непаўналетніх. Адна чыноўная дама аж заходзілася ад крыку, пагражаючы выключыць падлетка са школы. Вадзіма істэрыка бязроднай душы не спужала, не пахіснула ў ягоным веданьні, што ён, як беларус, павінен сёньня рабіць.

Цяпер, калі Вадзім знаходзіцца за кратамі рэжыму, істэрычная ліхаманка праймае другога Вадзімавага «душапрыказчыка» — дырэктара 95-й менскай сярэдняй школы Канзаса Юрыя Эдуардавіча. Гэты «сеятель разумного и вечного», які пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі пасьпяшаўся закрыць у школе першыя беларускія клясы, сёньня пагражае Вадзіму, што ня дасьць яму давучыцца. Гэты няшчасны дазваляе сабе падымаць голас на маці Вадзіма, якая выхавала, дзякуй Богу, не малалетняга урвіса, а патрыёта новай Беларусі. На жаль, гісторык Канзас Ю.Э. гэтага не зразумеў. На шчасьце, ёсьць людзі, якія ганарацца Вадзімам і не пакідаюць без увагі ягоную маці.

Калі табе шаснаццаць, жыцьцё і сьвет успрымаюцца бясконцымі, і душа, істота юначая, ірвецца ў прастору, не абмежаваную гарызонтамі й вэртыкалямі... Вадзім пачаў сваё сталеньне па-мужчынску, мужна. І ніякія краты не абмяжоўваюць ягонай волі да барацьбы.

Цяжка сказаць, якую прафэсію абярэ Вадзім Лабковіч пасьля заканчэньня школы, але ўжо сёньня відавочна, што грамадзянінам ён стаў. А вось роднаму дзядзьку, якому ўсё не падабаліся паводзіны юнака, і роднаму бацьку, які на момант напісаньня так ні разу й не пацікавіўся лёсам сына, кажу: мужчыкі, павучыцеся ў малалеткі й ягонае маці, як трэба жыць наша такое кароткае жыцьцё.

Пакідаю тэлефоны тых, хто сьпяшаецца судзіць нас: 2-69-35-64 (СШ N 95, дырэктарат); 2-59-14-94 (тэлефон, паказаны на пратаколе вобшуку ў кватэры Лабковічаў).

Славамір Адамовіч

# Складу злачынства няма

***Гутарка з карэспандэнтам расейскай тэлекампаніі ОРТ Паўлам Шараметам пасьля ягонага выхаду з-за кратаў***

**— Павал, у турме ў цябе быў час падумаць. Як ты ставісься да падзеяў, якія адбыліся з табой?**

— Папраўдзе кажучы, ў турме цяжка думаць. Умовы так прыгнятаюць, што думаеш толькі пра адно: як выйсьці. Нешта плянаваць на будучыню за кратамі вельмі цяжка. Я імкнуўся сам сабе адказаць на жыцьцёва важныя пытаньні, на якія ў мяне раней то часу не было, то акалічнасьці не дазвалялі, але гэта было немагчыма. Мабыць, калі б я пасядзеў з годзік, то прызвычаіўся б да абставінаў...

Мой арышт — гэта ў чыстым выглядзе расправа ўладаў зь непажаданым журналістам. Я думаю, што гэта была асабістая помста Аляксандра Лукашэнкі. Ён ня можа дараваць, што я, які некалі быў ягоным любімым журналістам, не ацаніў гэтай любові, а дазволіў ставіцца да яго як да прэзыдэнта, які дапускае памылкі. А ён жа меркаваў, што калі прэзыдэнт некага ашчасьлівіць, то чалавек ні на што іншае, акрамя лісьлівасьці, права ня мае. У адваротным выпадку знойдуцца прычыны пазбавіць журналіста акрэдытацыі, пасадзіць у турму, аддаць пад суд.

**— Ці давялося табе перажыць пачуцьцё страху?**

— Першыя тры дні я сядзеў у ізалятары, але там было ня столькі страшна, колькі цяжка. Маленькі пакой без вакна й сьвятла, у якім, акрамя дзьвюх шклянак з вадой і туалета, не было нічога. І кармілі раз на суткі. А вось калі прывезьлі ў турму, стала страшнавата, але ў камэры, калі я зразумеў, што ў камэры сядзяць звычайныя зьняволеныя, страх мінуў. А ціску з боку наглядчыкаў, якія маглі ўзяць самыя жорсткія захады, я не баяўся, бо разумеў, што пачалася барацьба з сыстэмай. Была толькі вялікая напруга, асабліва калі да мяне дайшла інфармацыя, што ўзялі групу Адамчука.

**Павал ня стаў асуджаць калегу за тое, што той падаў прашэньне прэзыдэнту. Ён лічыць некарэктным абмяркоўваць учынак Адамчука не таму, што іх злучае праца ў адной кампаніі. Проста, хто не сядзеў у гэтай турме, хай ня судзіць пра другіх людзей, а яму вядома, як там. У Расеі, на яго погляд, з журналістамі так не абыходзяцца. Сам жа рыхтаваўся да самага страшнага: сустрэчы з гомасэксуалістамі. На гэты выпадак Павал прызапасіў кавалачак ляза, прымацаваўшы яго да чаравіка гумкай. Пакідаючы гарадзенскую турму, ён усе свае асабістыя рэчы паразадаваў сукамэрнікам, толькі гэты сталёвы аскепак у якасьці сувэніру забраў на волю.**

**— Усё ж такі, ты зрабіў грамадзянскі ўчынак ці выконваў прафэсійны абавязак?**

— Ня думаю, што зьдзейсьніў нешта гераічнае. Я зрабіў нармальны сюжэт, калі яго прааналізаваць, то вывіціца, што ён вельмі просты, безь ніякай ашаламляльнай інфармацыі. Я ніколі ня вёў палітычны барацьбы, проста займаўся журналістыкай, інфармаваў насельніцтва.

**— Як з табой абыходзіліся ў турме?**

— Па-рознаму, але ўсё ж лягчэй, чым з іншымі зьняволенымі. Мяне ні разу ня білі, хоць атрымаць дубінай у турме — звычайная справа. Безумоўна, турэмшчыкаў стрымлівала мая вядомасьць; сьледчыя й наглядчыкі — першае, што яны мне гаварылі, што яны радыя нарэшце пазнаёміцца са мною асабіста. Разумелі яны й тое, што калі я адсюль выйду, то распавяду ўсю праўду пра гэтую турму. Адзін з выхавальнікаў так і сказаў, што старэцца менш заходзіць у нашую камэру, бо не жадае трапіць у мэмуары Шарамета. А калі я прастыў, мяне закалолі ўколамі. Відаць, хацелі выратаваць (жартуе).



**У першы ж дзень пасьля вызваленьня Павал прыступіў да працы. Перамовы з кіраўніцтвам ОРТ пра будучыню карпункту ў Беларусі, перагонка відэаматэрыялаў на Маскву, асабіста зьезьдзіў у МЗС па акрэдытацыю для здымачнай групы, чым зьбянтэжыў клеркаў гэтай важнай установы. І бясконцыя інтэрвію калегам. Пасьля доўгага сядзеньня ў чатырох сьценах, і безумоўна, у выніку перанесенага стрэсу, ён умудрыўся заблукаць у родным горадзе. Калі выйшаў з машыны, зразумеў, што толькі сьляпы, глухі альбо лянівы ня ведае, хто ён такі. Часам здараецца так, што выпадковыя мінакі на вуліцы маўкліва паціскаюць ягоную руку й рушаць далей.**

**— У свой час Вацлаў Гавэл прыйшоў да высновы, што дзеля таго, каб стаць палітыкам, неабходна адседзець. Ты — жывы прыклад ягонай тэзы: тваё імя ў трэцім радку сьпісу самых папулярных палітыкаў краіны. Ці можна ўжо гаварыць, што Шарамет сыходзіць у палітыку? Што з тваёй справы ў Беларусі пачынаецца новая дысыдэнцкая хваля?**

— Гэта, безумоўна, сур'ёзная прапанова, а таму й вельмі сур'ёзны крок, які патрабуе асэнсаваньня. У мяне не было часу й сілаў сур'ёзна пра гэта падумаць, але выбар паміж журналістыкай і палітыкай будзе скрайне цяжкім. Я ніколі ня ставіў перад сабой такой мэты, я не зьяўляюся членам аніякай партыі, не ўваходжу ў ніякі палітычны рух. А дысыдэнтам ў Беларусі зараз можна назваць кожнага, таму што праўда альбо барацьба за правы чалавека зьяўляюцца злачынствам.

**— Павал, чым скончыліся твае перамовы з кіраўніцтвам ОРТ?**

— В.а. генэральнага дырэктара ОРТ Ксенія Панамарова, калі была ў Менску, аднавначна заявіла, што я па-ранейшаму зьяўляюся дырэктарам беларускага бюро й карэспандэнтам ОРТ. Зараз вядуцца перамовы зь беларускімі ўладамі наконт аднаўленьня майго статус кво, у адваротным выпадку я буду працаваць у адной з суседніх краінаў.

**Цяжка ўявіць, што Павал Шарамет у бліжэйшым час зможа працягнуць сваю журналісцкую кар'еру на радзіме. Зараз для ОРТ галоўнае — пагасіць канфлікт зь беларускім ўладамі, якія, акрэдытаваўшы здымачную групу Фашэнкі, паўрад ці згадзяцца пераакрэдытаваць апальнага журналіста. Але пра гэта праз некалькі тыдняў, пасьля суда, які можа й не адбыцца, бо гэтую крымінальную справу сьледзтва можа закрыць да пачатку працэсу, таму што, на думку спэцыялістаў, складу злачынства няма.**

Алена Лукашэвіч

ДАВЕДКА «НН»:

Павал Шарамет. У лістападзе 1997 году яму споўніцца 26 гадоў. Ураджэнец Менску, выпускнік Эканамічнага Ўнівэрсытэту, адзіны сын у сям'і. Маці — карэнная мянчанка, кандыдат хімічных навук, працуе ў НДІ. Бацька нарадзіўся ў Магілёўскай вобласьці, кіруе трэстам «Паліва». Жонка Натальля — скончыла БДУ, факультэт вышэйшай матэматыкі. Сын — 4 гады, дачка — 1 год.

# Каралеўства Беларусь

*Посткаляніяльная культура*



Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» супольна з польскімі сябрамі з Асяродку культуры «Koło Podkowy», што знаходзіцца ў мястэчку Падкова Лесьна пад Варшавою, задумалі зладзіць гэты фэст даўно. Але... З-за спыненьня дзейнасьці Фонду Сораса ў Беларусі, давялося перанесьці задуманае на восень. Пасьля перашкодзілі... выбары ў польскі Сэйм. І нарэшце ў ноч з 4 на 5 кастрычніка ціхае дачнае мястэчка загуло па-беларуску. Над комплексам «Кола Падковы» (нямецкія кашары часоў першае сусьветнае вайны), побач са сьцягамі вольнага Тыбету залуналі сьцягі Беларусі. Тыбетцы правялі тут свой фэст літаральна за пару дзён перад намі.

Годлам сьвята стаў назоў аўтабіяграфічнае аповесьці Мар'яна Брандыса, якую мы друкавалі. Каралеўства Беларусь... Няясная дзяржава, народжаная ў залатым шумавіньні нашае культуры, нібы Афрадыта з шумавіньня мора. Новая культура, што народжаная ў паняволеным краі, рэпрэзэнтуе краіну, якая ўжо ёсьць на даляглядзе нашае сьвядомасьці.

Фэст стаў нябачаным да гэтага экспэрымэнтам — стварэньнем паўнавартаснай татальнай прасторы беларускае культуры. У ім прынялі ўдзел дзясяткі творцаў — мастакоў, паэтаў, сьпевакоў. Каралеўства Беларусь на цэлую ноч ажыло ў скульптуры, жывапісе, танцы, кіно, сьпевах...

**Сяргей Харэўскі**

На здымках: дзея Самусёнка «Матыў Шагала» (зьлева; пэрфоманс Пятрова-Хруцкага «Новая Рэч Паспалітая» (уверсе); гледачы ў анфіладзе галерэі, хор «Унія» пасьля выступу ў кавярні, Алена Адамчык (здымкі справа).

*Здымкі Алены Адамчык*

**P.S.** Больш падрабязна пра фэст «Каралеўства Беларусь» і ягоны працяг у Варшаве, куды ён пераедзе на гэтым тыдні, — у наступным нумары «НН»...













# Разьвітаньне

*9-11 кастрычніка ў Познані адбываўся Міжнародны артыстычны фэстываль «Рэзкае вяртаньне дэкадансу». Удзельнікі й госьці зьехаліся з Сэрбіі, Македоніі, Нямеччыны, Расеі, Славакіі, але ж галоўнае прадстаўніцтва на фэстывалі мелі ўсё тыя ж Польшча, Беларусь, Украіна, Літва. Рэпрэзэнтаваліся наступныя віды творчасьці — літаратура, выяўленчае мастацтва, музыка.*

«Наша Ніва» атрымала на гэтым фэстывалі зусім асобны статус — госьця легендарнага польскага тэатру Ósmego dnia. Наш партнэр гатовы быў запрасіць практычна ўсю рэдакцыю, але выбраліся «толькі» тры чалавекі.

Я нават не ўяўляў, што Познань — такое файнае места. Старыя ўнівэрсытэцкія традыцыі, цыклапічная гатычна-рэнэсансовая ратуша, прускія спаруды мінулага стагодзьдзя, трубачысты на роварах...

Увогуле беларускае прадстаўніцтва было вельмі значным і давала разуменьне самабытнасьці гэтае культуры. Што яскрава праявілася ўжо на першай літарацкай вечарыне.

Першым рэпрэзэнтавалі пецярбурца (ці, дакладней, ленінградца) Уладзімера Шынкарова — заснавальніка руху «міцькоў». Безь перабольшаньня, уся сюжэтнасьць ягонай прозы зводзіцца да наступнага — з кім, калі, дзе й як піў. Між іншым, Уладзімер Шынкароў — адзіны зь «міцькоў», хто застаўся на плыву, бо адмовіўся ад алькаголю. Усе астатнія — або памерлі, або ў лякарнях. І вось пра такую стылістыку спачатку паслухаць парасейску, але потым яшчэ слухаць польскі пераклад... Падобна, Шынкароў на ўсім фэстывалі праз сваю эстэтызацыю распаду быў адзіным сапраўдным дэкадэнтам.

Наступным выступаў Ігар Бабкоў, якога рэпрэзэнтавалі, у тым ліку й праз свае пераклады, знакаміты аўтар беларускага «Улісу» Ян Максімюк. Чыталася апавяданьне «Матэрыялы да біяграфіі Адама Клакоцкага». Магчыма, частцы публікі падалося, што гэтае апавяданьне прасякнутае новым рамантызмам. Некаторыя гатовыя былі аднесьці гэты твор да інтэлектуальнае прозы. Але мы выдаем, што маем справу з новай урбаністычнай культурай. Ва ўсялякім выпадку Бабкову пашэнціла ў тым ліку і з выступам пасьля Шынкарова — розьніца паміж стылістыкамі й настроем думак была калясальнаю.

# ТЭКСТЫ



*Ці можа тэкст, створаны мастаком, сам сябе адкрыць, адбыцца па-за дазвольным жаданьнем дапытлівага эрудыта-чытача?*

*Міхал Баразна «ТЭКСТЫ»*

*Тэкст — гэта істота, якая жыве сама па сабе.*

*Артур Клінаў, «ТЭКСТЫ»*

Тэкст — гэта сама культура. Мы ўсе жывем у бясконцай прасторы тэксту, часам блукаючы ў ёй, як у лябірынце, часам адкрываючы новыя пэрспэктывы, новыя гарызонты інфармацыйнага сусьвету. Мастак — гэта заўжды шукальнік, адкрывальнік, першапраходца і творца тэксту. Часам ён будуе новыя лябірынты, новыя муры ці наадварот праломвае старыя сьцены. Але гэта заўсёды экспэрымэнт, гульня, бо там, дзе пачынаецца абсалютная сур'ёзнасьць, сканчаецца мастацтва.

*Кажуць, што праз моц аскезы некаторыя будысты здольныя ўбачыць у адным бабовым зерні цэлы краявід. Гэта якраз тое, да чаго імкнуліся першыя дасьледнікі наратыўных тэкстаў —*

*Ралян Барт, сэміёляг*

*Сёньня можна сьмела гаварыць, што мы зьяўляемся сьведкамі даўно чаканага й неабходнага народам нашых краін дыялёгу ў розных сфэрах культуры.*

*Уладзімер Рылатка, першы намесьнік міністра культуры РБ*

Тэксты — тэма выставачнага праекту, які стварылі трынаццаць мастакоў зь Беларусі і Нямеччыны. Гэта зь беларускага боку Артур Клінаў, Ігар Кашкурэвіч, Юры Дарашкевіч, Ігар Саўчанка, Андрэй Басалыга, Вольга Сазыкіна, Аляксандра Дзятлава. Імёны нямецкіх мастакоў: Стэфан Голекамп, Гайнрых фон дэн Дрыш, Сабінэ Свобода ды іншыя, — пакуль мала што гавораць менскай публіцы, але магчыма, пакуль... Дапамаглі ў ажыцьцяўленьні праекту Гётэ-Інстытут у Менску, Культурфорум горада Райнэ і Беларуская Акадэмія Мастацтваў. Чатырнаццатага кастрычніка ў музэйнай залі БелАМ адкрылася выстава трынаццаці. Затым — працяг акцыі ў Нямеччыне.

*Як мы жывем у шчасьлівай краіне, дык і мастакі ў нас сапраўдныя.*

*Міхал Баразна, «ТЭКСТЫ»*

*Я вельмі хачу быць кан'юнктурным мастаком у асяродзьдзі культурных, адукаваных людзей.*

*Юры Дарашкевіч, «ТЭКСТЫ»*

Але «Тэксты» — гэта ня толькі выстава. Гэта й дыскусійны Круглы стол, які зацягнуўся на некалькі гадзінаў. Гэта — міні-выставы і акцыі студэнтаў Беларускай Акадэміі на гэтую ж тэму. Можа самае важнае — сустрэчы й кантакты паміж мастакамі — у сумеснай працы, за адным сталом, твар у твар. Сустрэчы з аўдыторыяй, з тымі, хто зацікаўлены, з навучэнцамі, з прафэсіяналамі.

*Беларуская Акадэмія Мастацтваў падтрымлівае партнэрскія сувязі з вышэйшымі мастацкімі школамі эўрапейскіх краінаў, сярод якіх і Мастацкая Акадэмія Мюнстэра.*

*Леанід Дзягілеў, прарэктар БелАМ*

# З ДЭКАДАНСАМ

Адам Клакоцкі калекцыянаваў і дасьледаваў сны. У аднаго з познаньскіх букіністаў Вацлаў Арэшка набыў «Энцыкляпэдыю сноў», каб падарыць яе Ігару Бабкову. Паводле ўсіх канонаў жанру праз адну ноч кніга зьнікла. Мне здаецца, Бабкоў так і не дапіша біяграфію Клакоцкага, спыніўшыся на Матэрыялах да біяграфіі. Але яркі пазнаньскі эпізод застанецца ў нашай калектыўнай памяці.

Яшчэ адна важная заўвага з нагоды літарацкай вечарыны — вялізарная папулярнасьць у Польшчы ўкраінскага празаіка Юрыя Андруховіча. Мала таго, што тут выходзяць ягоныя кніжкі, яго проста ведаюць.

Гармідар наступнага дня таксама



Пэрфоманс Віталя Калгіна

наладзілі беларусы. У галерэі «У езуітаў» адкрывалася выстава. На інаўгурацыі афіцыйныя прамовы перакладаліся на ўсе жывыя мовы — украінскую, беларускую, літоўскую, бо рэпрэзэнтаваліся творы мастакоў менавіта гэтых краінаў. Украінцы прывезьлі праекты грошаў — гэткія кампазыцыі на ўсю сьцяну зь «мікенскіх» плітак. У Беларусі падобны праект ужо быў ажыцьцёўлены раней Цімохам Ізотавым — можа нават у больш жорсткай стылістыцы, пра што пісала «НН». Літоўскія мастакі прадэманстравалі нэаакадэмізм у сваіх ахайна выкананых невялічкіх плястычных рэчах. Беларускае



мастацтва было збольшага мізантрапічным: Ігар Кашкурэвіч, Віктар Пятроў-Хруцкі, Віталь Калгін. І толькі беларусы здолелі наладзіць пэрфомансы — Віталь Калгін выступіў у ролі прускага камэнданта Познані; Віктар Пятроў-Хруцкі зрабіў хірургічную апэрацыю й выратаваў Рэч Паспалітую. Менавіта пад час адкрыцьця гэтае выставы мы даведаліся, што нашыя польскія партнэры хочуць перавезьці выставу «Каралеўства Беларусь», якую ў Падкове Лесьнэй наладзіла «Наша Ніва» і дзе адным з галоўных удзельнікаў быў Віктар Пятроў-Хруцкі, у галерэю ў цэнтры Варшавы.

Мне здаецца, што назва фэстывалю была абраная самаіранічна. Уварваньне новых гігантаў — сучасных культураў Беларусі і Ўкраіны толькі падкрэсьлівае старую іронію.

**Алег Дзярновіч**


Познаньскія трубачысты

# МАГІЛА ПРЫГОЖАГА МІТУ



— Ну й чаго ты так пакутуеш? — супакойваў мяне сябра, — Калі б твая Адэса сапраўды існавала, то яна б за гэтыя чатыры дні абавязкова б вылезла.

А я ўсё ніяк ня мог супакоіцца. Усё ніяк ня мог звыкнуцца з думкаю, што сьвята скончылася, а я яго быццам бы й не заўважыў. Ды й Бацькаўшчына яшчэ, нібы адмыслова, сустрэла фірмовым менскім дажджом.

Калі з фонду IREX прыйшло запрашэньне на сэмінар, што мае адбыцца ў Адэсе (на Францускім на бульвары), я да самага цягніка ня мог адчуваць сябе спакойна. Занадта доўга я туды зьбіраўся. Занадта шмат чуў пра яе зь дзяцінства, каб прыехаць туды толькі дзеля адпачынку. І, як звычайна, занадта даў волі сваёй фантазіі.

Павінна ж нас нешта зьвязваць зь мясьцінамі продкаў, зьвесткі аб якіх даходзяць да нас. Я зь дзяцінства ведаў, што мой дзед-адэсіт у 43-м адбіў у штабнога генэрала жонку. Спачатку закахаўшы яе ў сябе пры дапамозе гітары й гумару, а пасьля заявіўшыся да генэрала «на кавёр», каб паставіць апошнюю кропку. Генэрал мог яго расстраляць на месцы, але чамусьці ён гэтага не зрабіў. Можа таму, што ён быў штабны? А хутчэй за ўсё ён таксама любіў Адэсу й прыгожыя жэсты. Таму адбітая краля праз гады стала маёю бабкаю. А трохі пазьней я даведаўся, што мой прадзед Франц гандляваў на Прывозе рыбаю. Ад адных толькі назваў абуджалася фантазія. Ну, хто ня чуў хоць аднойчы у сваім жыцьці пра Малдаванку й Пярэсып, Ланжэрон і Аркадыю, ня кажучы ўжо пра «Дерибасовскую, угол Ришельевской». Хто ж з нас хоць аднойчы не сьпяваў блатных адэскіх песень? Таму вобраз вольнага гораду маляваўся вельмі выразна. Там усе гавораць выключна па-адэску, там з кожнага рэстараннага вакна нясецца «Мурка», там кожны вор выглядае як герой апэрэты, там кожны таксіст — найлепшы гід, а кожны грузчык у піўной — гатовы літаратурны пэрсанаж. А якой прыгажосьці там павінны быць жанчыны!

Хто гэта прыдумаў, што Адэса — горад вясёлы? Чаго мне зусім не хацелася ў гэтыя дні, — сьмяяцца. Хутчэй наадварот. Дзікая неадпаведнасьць дамоў сваім абітальнікам нараджае зусім іншыя эмоцыі. Францускі бульвар аказаўся пыльнай абшарпанаю вуліцай. Патроху дажываюць некалі раскошныя асабнякі адэскіх нэгацыянтаў, кожны зь якіх намагаўся пераўзысьці свайго суседа выкшталцонасьцю фасаду. Чаму такой дзіўнае тугі я не адчуваў у Вільні? Там таксама засталіся неабжытыя дэкарацыі. Можа таму, што Вільня — сцэна драматычная, ад яе не чакаеш апэрэтачных рэпрызаў. А сьмяшыць, як вядома, заўсёды больш складана, чым расчуліць. Я так і не пачуў ні знакамітага «Ша», ні, хоць якога, адэскага куплету. І няма нікога больш маўклівага і сумнага за адэскіх таксістаў. Прыгожай жанчыны я не заўважыў. Канчатковай кропкаю стала піўная «Гамбринус», дзе маленькі жыд (ці не апошні) сьпяваў пад скрыпачку новую папсу. У памяці засталося «Я склонюсь над твоими коленьями». Паўсюль была ўсё тая ж «наша» публіка, якую я знайду і ў Менску. Толькі ў Менску ёй няма нагоды камплексаваць у сваім родным антуражы. Тым больш прыгажуняў на квадратовы мэтар у нас сапраўды больш. Наш міт толькі пачынаецца... Колькі трэба напісаць песень ды навэляў, каб міт ажыў?..

Бабеля я заўсёды адкладваў на пасьля, да Адэсы. Толькі са спэктакляў ды экранізацыяў ведаючы пра Фроіма Грача ды выслоўі Бені Крыка. Таму ўвесь твор мне маляваўся ня менш як вялікім эпасам. Памеры напісанага сапраўды ўразілі. Усяго некалькі адэскіх апавяданьняў! Зь іх можа менш за дзясятак прысьвечаных непасрэдна абітальнікам Малдаванкі. І кожная навэля абуджае нясьцерпны імпэт аказацца на тым самым месцы, дзе разгортваліся падзеі вясёлага й крывавага сюжэту. У чым тут сакрэт? У горадзе, што, дзякуючы нечаканасьці й нярускасьці свайго зьяўленьня, стаў прыдумляць і культываваць легенды аб сабе? Ці можа ў пісьменьніцкім майстэрстве, якое засяліла брудныя вуліцы вобразамі-дыямэнтамі? Ня трэба толькі бегчы ў пошуках адказу на Малдаванку. Я стаяў на скрыжаваньні Дальніцкае й Балкаўскай вуліцаў, дзе некалі знаходзіўся пастаялы двор Любкі Козак і як дурань пытаўся ў мінакоў — а дзе дом Бабеля. Мяне альбо не разумелі, альбо разумелі занадта наўпростава. Як, напрыклад, афіцыянтка ў рэстарацыі «На Мясоедовской», якая шчыра адказала, што такога тут яна ня ведае. Напэўна, даўненька не заяўляўся — супакоіў я яе.

Адзінае, што ўразіла напоўніцу — гэта Адэская опэра. Тое, што ў нас няма мора, падалося мне менш сумным фактам, чым тое, што нам няма куды апрануць фрак.

І ўсё ж Адэса — горад небясьпечны. Ніводнае места я яшчэ не пакідаў з такім моцным пачуцьцём уласнае падарожніцкае бяздарнасьці. Я проста быў ня там, глядзеў не туды і ўвогуле думаў не аб тым. Таму сюды трэба вяртацца пры першай магчамасьці. Можа, дзеля таго каб самому браць гітару, станавіцца на рагу Дэрыбасаўскай ды Рышэльеўскай і апраўдваць міт, які няма ўжо каму ажывіць. Толькі ці варта? Цяжка ўявіць, чым стане некалі вольны порт вялікай імпэрыі заўтра. Пры новай уладзе, зь якой у Адэсы ніколі не было раману.

Адно не магу зразумець — чаму мая бабка так часта параўноўвала Адэсу з Гомелем?..

**Зьміцер Бартосік**

*Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду.*

Аляксандар Лукашэнка, першы прэзыдэнт РБ

Адным са стваральнікаў, ідэолягаў, можна казаць «рухавіком» праекту быў Міхал Баразна, фотамастак, графік, мастацтвазнаўца, выкладчык БелАМ, адзін з аўтараў «Нашай Нівы». У нашай размове пра «Тэксты» ён кажа:

**— Адзін такі момант, які вельмі патрэбны нашай культуры, гэта бачыць мастака ў рэальнасьці, паглядзець яму ў вочы. Вось гэтага нам вельмі не хапае. У нас няма відэа-, аўдыё- запісаў, не надрукавана ўспамінаў нашых мастакоў-авангардыстаў дваццатых гадоў. І цяпер гэта, на жаль, адбываецца з нашымі сучасьнікамі. Пакуль што існуе такая традыцыя, што мастак, які не малюе фігуратыўна, — гэта клясычны прыклад, узор для падручніка псыхіятрыі. Асабліва моладзі вельмі важна убачыць, што гэта абсалютна нармальныя людзі, у іх нармальныя твары, усьмешкі..**

*Дзьве адначасовыя дзіцячыя хваробы мастакоў — пачуцьцё ўласнай важнасьці і пачуцьцё ўласнай непаўнавартаснасьці.*

Андрэй Басалыга, «ТЭКСТЫ»

*Мастак — гэта маргінал, юродзівы, які грамадзтву малацікавы.*

Артур Клінаў, «ТЭКСТЫ»

**Міхал Баразна: Клінаў — гэта вельмі інтэлектуальная асоба з калясальным талентам, ён робіць рэчы на якія адгукаецца шырокая аўдыторыя. Многія мастакі фігуратыўнага, так званага зразумелага ўсім мастацтва, могуць яму пазайздросьціць, бо да іх, да іх выставаў няма такой зацікаўленасьці, як да працаў Клінава.**

Пытаньне да Артура Клінава: А чаму менавіта такія тэксты — Ніцшэ, Ленін, Кант сталі «героямі» тваіх апошніх працаў?

**Адказ Клінава: Большасьць гэтых тэкстаў у свой час зрабілі на мяне моцнае ўражаньне. Цяпер гэта спроба прачытаць іх яшчэ раз, гульня на гэтую тэму. Момант гульні для мяне вельмі важны...**

**Міхал Баразна: Для саміх мастакоў была вельмі важнай магчымасьць дыялёгу, кантакту зь іхнымі калегамі, менавіта гэта можа быць самае важнае — ня проста з працамі, а зь людзьмі, з асобамі.**

Пытаньне да М.Баразны: А як успрынялі ўсё, што адбылося, нямецкія мастакі?

**Адказ: Яны былі вельмі зьдзіўленыя такой шырокай зацікаўленасьцю аўдыторыі нашай выставай. Зацікаўленасьцю грамадзтва мастацтвам ўвогуле. Мы, магчыма, і самі ў гэта ня верым і пра гэта часам трэба запытвацца ў іншых, у суседзяў —што мы ўсё ж жывем у Эўропе, у сярэдзіне Эўропы. Мы не знаходзімся на пэрыфэрыі культурных працэсаў, вэктараў і для нямецкіх мастакоў было гонарам выстаўляцца тут, для публікі, якая неабыякавая і разумее сучаснае мастацтва.**

Пытаньне да М.Баразны: Амаль адначасова з «Тэкстамі» адбылася акцыя «Нашай Нівы» у Польшчы — «Каралеўства Беларусь», у якой ты таксама ўдзельнічаў. На тваю думку, гэтыя падзеі як-небудзь маглі паўплываць адна на адну?

**Адказ. Па-першае склад удзельнікаў падобны. Гэта не выпадкова, гэта падкрэсьлівае, што яны мастакі высокага кшталту, якія не зьяўляюцца нейкімі аматарамі, дзівакамі. У іх багатая творчая біяграфія і гэтыя людзі, напэўна, адны зь цікавейшых, пэрспэктыўных мастакоў нашай краіны. Мастакі аднachасова працавалі над абедзьвюма тэмамі — «Тэксты» і «Каралеўства Беларусь» і, хоць выставы вельмі розныя, адчуваецца нейкая «роўнасьць», адпаведнасьць гэтых акцыяў. Значыць яны знайшлі той тэкст, які зьнітаваў дзьве выставы.**

*Мы лічым, што мастацтва й культура зьяўляюцца лепшымі амбасадарамі праз усе межы, і ня толькі таму, што яны гавораць на ўнівэрсальнай мове, але й таму, што яны ў стане бескарысьліва ствараць дыялёг паміж людзьмі.*

Гюнтэр Тум, бургамістар места Райнэ, доктар Марцін Гэзынг, Хэльга Ванке, Марцін Рэкап

*Усе мастакі маглі працаваць незалежна адзін ад аднаго й маглі вольна выбіраць матэрыял і тэхніку.*

Вера Багальянц, дырэктар Нямецкага Культурнага Цэнтру імя Гётэ

Такія сур'ёзныя падзеі, увага аўдыторыі, прэса дапамагаюць мастакам адчуць упэўненасьць у сабе. Так у нашай беларускай мастацкай культуры выяўляецца ядро моцных майстроў, аб'яднаных ня ўзростам, не агульнымі дэкларацыямі, а незалежнасьцю — незалежнасьцю ад ціску сучаснага афіцыёзу, ад чаканьня падачак «зьверху», ад групавых ідэалягічных забабонаў. А ў першую чаргу аб'яднаных тым, што яны маюць талент...

**Міхал Баразна: Той надпіс, які быў напісаны на беразе, даўно змыўся, яго ўжо даўно не існуе — застаўся вобраз. Гэты тэкст застаўся ў нашай сьвядомасьці. Ён матэрыялізаваўся на аркушы фотапаперы. Ідэя засталася, увасобілася ў нашай акцыі. Яна як бы запісаная нязмыўнымі фарбамі...**

**Вацлаў Арэшка**

# Усебеларускі Зьезд 1917 г.

*(Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.)*

*У апэратыўнай зводцы №55 ад 5 лістапада 1939 году Народны камісар унутраных справаў БССР Лаўрэнці Цанава паведамляў сакратару ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймону Панамарэнку пра арыштаванага ў Вільні й падсьледнага Краўцова Макара (Косьцевіча), які абвінавачваўся ў «контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай дзейнасьці». Аўтару гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» прыпомнілі й сакавік 1917 году, калі ён у Менску далучыўся да толькі што створанага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, і сяброўства ў Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе, і службу ў Беларускай Вайсковай Камісіі, і ўдзел у працы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і ў «Змаганьні». Прыпомнілі Краўцову Макару й сьнежань 1917 году, калі ён быў дэлегатам «Усебеларускага эсэраўскага кулацка-нацдэмаўскага зьезду».*

*... У будучым зборы дакумэнтаў і матэрыялаў пра Ўсебеларускі зьезд 1917 году сярод успамінаў, публіцыстычных і навуковых працаў удзельнікаў — Т.Грыба, К.Езавітава, П.Крэчэўскага, А.Гаруна, В.Гадлеўскага, К.Аляксеяўскага, В.Захаркі, Я.Гладкага, Я.Канчара, А.Вазілы, З.Жылуновіча, Э. Будзькі, —асобнае месца зойме й спадчына Краўцова Макара. Гісторык і архівіст Аляксандра Гесь ужо надрукавала ягоныя ўспаміны «Разгон» і «20 гадоў назад» («Спадчына», 1996, № 1).*

*Прапануем увазе чытача тэкст рэфэрату, зьмешчаны ў віленскім «Беларускім звоне» (1921, 9-30 верасьня, №11-14). Рэфэрат вылучаецца спробай адказаць на пытаньне пра «карэньні ідэі самога Ўсебеларускага Зьезду», апісаньнем першых беларускіх мітынгаў у Менску у сакавіку 1917 году, зьвесткамі пра лідэраў і дзейнасьць «левого течения», у якое уваходзіў і сам аўтар.*

*Апошнія дні зямнога жыцьця Краўцова Макара невядомыя. Біябібліяграфічны даведнік «Беларускія пісьменьнікі» паведамляе, што паэт у 1939 годзе быў вывезены ў Беласток, дзе загінуў у турме ад катаваньняў, але дакладная дата сьмерці не прыведзеная. Спробы ўдакладніць гэтую інфармацыю былі марнымі.*

*Прывядзем некаторыя новыя зьвесткі пра асобаў, што ўспамінаюцца ў рэфэраце.*

*Фабіян Шантыр, сын Гіляра, арыштаваны 17 красавіка 1920 году асобым аддзелам 16-й арміі і расстраляны 29 траўня 1920 году ў Навазыбкаве. Рэабілітаваны 23 сакавіка 1992 году.*

*Усевалад Фальскі, сын Сьцяпана, арыштоўваўся ў 1919 і 1921 гадох, у 20-я гады працаваў ва Ўкраіне дырэктарам драматычнага тэатру імя М.Занькавецкай. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 6 жніўня 1996 году.*

*Аляксандар Вазіла, сын Цімафея, арыштаваны ў 1932 годзе й высланы ў Казахстан; зноў арыштаваны ў 1937 годзе, засуджаны ў жніўні 1937 году на 8 гадоў. Ва Ўладзімірскай турме «за распаўсюджваньне к/р паклёпніцкіх выдумак і арганізацыю к/р групы са зьняволеных турмы» прысуджаны 2.12.1937 г. тройкай НКВД Іванаўскай вобласьці да расстрэлу. Прысуд прыведзены ў выкананьне 3.12.1937 г. Па справе 1932 г. часткова рэабілітаваны ў 1959 г., цалкам — у 1989 годзе. Па жнівеньскай справе 1937 году рэабілітаваны ў 1957 годзе. Зьвесткі аб рэабілітацыі па сьнежаньскай справе 1937 году не выяўленыя.*

*Яўсей Канчар, сын Сьцяпана, арыштаваны УНКВД па Ленінградзкай вобласьці 5.11.1938 г. Абвінавачваўся ў тым, што зьяўляўся «ўдзельнікам беларускай антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі». 31.03.1939 году сьледзтва спыненае і Канчар з-пад варты вызвалены. Ягоная перапіска, забраная пры арышце, зьнішчаная.*

*Мікалай Крывашэін, сын Івана, 1885 году нараджэньня. У 1936 годзе у Маскве арыштаваны й расстраляны.*

**Віталь Скалабан**

*Ад Рэдакцыі. Тэкст друкуецца зь нязначнымі скарачэньнямі, пазначанымі знакам (...). Цалкам рэфэрат мы мяркуем зьмясьціць у «Шуфлядзе» — альманаху Архіву Найноўшае Гісторыі.*

*Публікацыя ажыцьцёўленая ў рамках праекту «Адна зямля — Усходняя Эўропа». © Архіў Найноўшае Гісторыі*

Адзін малады наш гісторык дзеліць гісторыю Беларусі на чатыры пэрыяды: Полацкі, Літоўскі-Беларускі, Польскі й Рускі.

Да гэтых чатырох пэрыядаў сучасныя нам дні дапісваюць ужо пяты пэрыяд роднай гісторыі — пэрыяд барацьбы за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Тэмаю нашаю зьяўляецца пачатак гэтага пятага пэрыяду беларускай гісторыі — тая крыніца, адкуль ён пачаўся й мы пастараемся падзяліцца тымі асабістымі ўспамінамі, якія ёсьць у памяці, бо ў поўнай меры ахапіць гэтае заданьне няма ніякай магчымасьці тут, на чужыне, ня маючы ўсіх, патрэбных дакумэнтальных і іншых пісаных даных.

***

І вось дзіўная рэч: калі кінемся думкаю ў сівую нашу мінуўшчыну, калі ад сказанага намі пятага пэрыяду Беларускай гісторыі перакінемся да першага — Полацкага пэрыяду, дык пабачым, што ў абодвых гэтых страшэнна далёкіх адзін ад аднаго, пэрыядах ёсьць нешта агульнае, аднолькавае. Аднолькавасьць гэтая — нішто іншае, як *усенароднасьць* улады; у Полацкі пэрыяд улада Беларускага Народу спачывала ў яго самога, у асобе *Ўсенароднага Веча*. Зямля Полацкая кіравалася гэтым Усенародным Вечам, або Сходам, на Сход гэты зьбіралася досіць вялікая грамада людзей і агулам рашала ўсе дзяржаўныя справы. Полацкага гарадзкога веча слухаліся, так званыя «прыгарады», альбо выколіцы, ясьней кажучы, вечы ваколічныя, прыгарадныя, провінцыяльныя.

Сьмешна было-б гаварыць аб *усенародным* вечы Беларускага шматмільённага Народу ў нашыя дні, бо часы зьмяніліся, мільёнаў людзей ня можна склікаць на адзін агульны сход — на ўсенароднае веча — бо людзі размножыліся, засялілі вялізныя абшары, набудавалі моц гарадоў, мястэчак і вёсак.

Усе культурныя народы выказваюць сваю законадаўчую волю, сваю ўладу ў нашыя дні праз сваіх выбарных, што засядаюць у Соймах, або парлямэнтах, а грунтоўныя законы (або дзяржаўная канстытуцыя) выпрацоўваюцца Ўстаноўчымі Соймамі, зложанымі, гэтак сама, з выбраных усяго народу.

Гэткім чынам, у нашыя часы захоўваецца, ўсё-ж такі, *усенародны* характар устаноўчае і законадаўчае ўлады.

Не закінуў гэтага прынцыпу й наш Беларускі Народ, пачынаючы пяты пэрыяд сваее гісторыі, калі, дзякуючы вясьнянай расейскай рэвалюцыі 1917 году, пачуў волю й патрэбу самому каваць сваю долю і сабраўся, як яго полацкія продкі, у асобе сваіх выбарных на *Ўсебеларускім Конгрэсе*, або *Зьезьдзе* 5 сьнежня (ст. стылю) таго самага 1917 году.

***

Адкуль-жа йдуць карэньні ідэі самога Ўсебеларускага Зьезду? Якія арганізацыі згуртаваліся ў гэтым Вялікім Сходзе Беларускага Народу, як нарасталі сьвядомыя нацыянальныя сілы, якія выклікалі самую патрэбу Зьезду і якое значэньне мае гэты Зьезд у нашай гісторыі?

На гэтыя пытаньні пачнём адказваць, азірнуўшыся далёка назад на тыя часы, калі па ўсёй быўшай Расеі загарэўся вызваленчы рух, або рэвалюцыйная работа, якая падточвала, як чарвяк, шматвекавы застой расейскага царызму.

Чацьвёрты, — рускі, — пэрыяд Беларускай гісторыі ёсьць самаўладнае панаваньне расейскіх цароў над Беларусьсю; край наш падзелены на такія самыя губэрні, як і чыста-велікарускія землі; усюды йдзе гвалтоўнае выцісканьне ўсяго беларускага ў нашым краі, усё перакручваецца на маскоўскі лад; цэрква, школа, адміністрацыя носіць звычайны расейскі характар, беларускаю застаецца толькі цёмная сялянская, хлебаробная маса, сыны якой, прайшоўшы ў расейскіх школах маскоўскую вырабу, робяцца «панамі» ў вачох простага народу, гавораць маскоўскаю моваю й адшчапляюцца ад роднага народу, яго быту, звычаяў, інтарэсаў.

Але ня ўсіх можа назаўсёды адарваць ад свайго народу чужацкая выраба.

Ужо ў 90-я гады мінулага сталецьця гуртуецца грамадка сьвядомых беларускіх людзей, якія ясна зразумелі, што, ня гледзячы на расейскую, ці іншую вырабу, яны былі й застаюцца дзецьмі таго народу, зямля якога зьяўляецца іх роднаю зямлёю, а народ, іх спарадзіўшы — іх родны народ. Завязваецца гурток «Беларуская Рэвалюцыйная Грамада», які, павялічыўшы свае сілы за ня надта доўгі час, у 1902-3 годзе прымае назву «Беларускае Соцыялістычнае Грамады».

Грамада гэта разумела ясна, што толькі праз рэвалюцыю ў Расеі, праз поўнае разьбіцьцё сілы чужацкага царызму, Беларусь выйдзе на вольны шлях свайго адраджэньня.

Рэвалюцыйна-Соцыялістычная Грамада раскідала шмат адозваў на беларускай мове ў вялікіх местах і ў самых глухіх куточках Беларусі ў часе першае расейскае рэвалюцыі ў 1905-1906 г.г., пабуджаючы народ да адкрытага выступленьня проці тагочаснага царскага рэжыму.

Але рэвалюцыя 1905-6 г.г. не ўдалася. Паўстаньне на Беларусі, як і ўва ўсёй Расеі, былі крывава патушаны. Аднак нейкая здабыча ад гэтай няўдачнай рэвалюцыі мусела дастацца й на нашу долю. Зьявілася ўсё-ж такі, да тых часаў забароненая, магчымасьць пачаць беларускі друк і сілы «Соцыялістычнай Грамады» былі скіраваны на культурную працу.

Пачала выходзіць у Вільні першая беларуская газэта «Наша Доля», хаця, пасьля першых (...) нумароў, яна была закрыта ўсясільнаю ўладаю верных царскіх слугаў. «Нашу Долю» замяніла ўсім вядомая «Наша Ніва», якая выходзіла аж да 1915 г. і зьбірала вакол сябе ўсё новыя й новыя сьвядомыя беларускія сілы.

***

На ўвесь сьвет разьлёгся магутны гром Вялікай Вайны ў 1914 годзе.

Усе ведалі, якія страшэнныя ахвяры нясе кожнаму народу вайна і загадзя пачалі рыхтавацца да падмогі гэтым ахвярам.

Заснаваўся ў Вільні й «Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны».

А вайна рабіла сваё. Хутка яна перакінулася сваім цяжарам на зямлю беларускую і ўвосень 1915 г. дакаціліся нямецкія войскі да Вільні. У пачатку верасьня расейцы пакінулі Вільню. Беларускі камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны частку сваіх сяброў — пакінуў у Вільні, другая частка (найбольш вайсковыя) перакінулася ў Менск.

Ня вельмі вялікі гурток — гэты «Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны» быў, немаль што, адзінаю беларускаю арганізацыяй, якую застала ў сакавіку 1917 г. у Менску Вялікая Расейская Рэвалюцыя.

Урачысты дзень 6 сакавіка 1917 г., у які адбылася агульная, нябывалая дасюль, маніфэстацыя ў Менску, быў адсьвяткованы й беларусамі, аб'яднанымі ў «камітэце помачы ахвярам вайны». Беларускі штандар, тады яшчэ чыста белы, відаць было сярод чырвонага мора рэвалюцыйных штандараў нелічаных арганізацыяў, што паўсталі дзякуючы рэвалюцыі. На беларускім штандары з аднаго боку былі толькі два моцныя, многазначныя словы «Жыве Беларусь» (грамадзянкаю) і з другога боку — «Witajma Wolu narodu» (лацінкаю).

Гэтымі двама, ня надта громкімі, лёзунгамі быў зазначаны пачатак новага — на наш лік — пятага пэрыяду гісторыі Беларускага народу.

Ясна, што Камітэт помачы ахвярам вайны, як арганізацыя, заложаная, дзеля спэцыяльных, філёнтропічных мэтаў, ня мог далей іграць якую-небудзь палітычную ролю, але ён воляю лёсу стаў тым цэнтрам на Бацькаўшчыне, вакол якога пачалі складацца й беларускія палітычныя думкі; сьвядомыя сілы беларускія расьлі не днямі а гадзінамі і ўсім стала ясным, што трэба, не чакаючы заснаваць паважную палітычную нацыянальную арганізацыю.

Па старой традыцыі пачала зьбірацца й набываць новай сілы «Беларуская Соцыялістычная Грамада», якой праз год суджана было ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі сказаць адважна новае, стаўшае лёзунгам нашых дзён, слова — «незалежнасьць Беларусі».

Не марудзячы, у сакавіку месяцы 1917 г. пасьля конфэрэнцыі сьвядомых беларусаў, паўстае «Беларускі Нацыянальны Камітэт» у Менску з вялікім абшарнікам Раманам Скірмунтам на чале.

Ці падходзіла, ці не асоба Скірмунта да яго ролі — старшыні Нацыянальнага Камітэту аб гэтым кожны судзіць пасвойму.

На нашае зданьне — Скірмунт ніякае шкоды беларускаму руху тады прынесьці ня мог, а наадварот: яго імя, як вялікага земляўласьніка, можа й без яго на гэта жаданьня, зрабілася страшэнна популярным, хаця популярнасьць гэту кругом талкавалі не на карысьць беларускага руху.

«Дазвольце, — чуваць было ўсюды, — як можа вялікі абшарнік вясьці за сабою сярмяжны беларускі народ, як можа пан быць мужыцкім павадыром?» (...)

Першыя мітынгі, скліканыя ў Менску Нацыянальным Камітэтам, ня гледзячы на гэткага «буржуазнага» старшыню яго, набіралі поўныя салі народу. Вялізарны сход у кіно-тэатры «Гігант» на Захараўскай вуліцы вынес аднагалосна рэзалюцыю аб поўнай аўтаноміі Беларусі. Цікава, што на гэтым мітынгу яшчэ зьліваліся, калі так можна сказаць, абодва полюсы Камітэту: старшынёй мітынгу быў сам Скірмунт і тут-жа гарачыя прамовы запушчаў будучы бальшавік — Фабіян Шантыр.

Калі Скірмунт, быўшы сябар, калі не памыляюся, 1-е Гасударсьцьвенае Думы, у кожнае слова стараўся ўлажыць праграму, дык Шантыр сыпяваў гымны рэвалюцыі проста за тое, што яна ўжо сталася, што яна ёсьць. Абодва яны былі тады разам, за адным столікам прэзыдыуму.

Праца Нацыянальнага Камітэту не магла абмяжоўвацца толькі аднымі менскімі мітынгамі. Як і Камітэт Помачы, Нацыянальны Камітэт хутка скончыў сваю ролю, даўшы месца болей моцнай і шырокай арганізацыі.

За вельмі кароткі час Нацыянальны Камітэт зрабіў вялікую справу тым, што вёў самую шырокую рэестрацыю ўсіх беларускіх арганізацыяў, якія толькі дзе засноўваліся на вялізных прасторах быўшае Расеі. Арганізацыі гэтыя закладаліся ўсюды, дзе толькі былі, закінутыя лёсам, беларусы. Самы моцны рух быў сярод войска. На ўсіх тагочасных расейскіх фронтах, апрача Каўказкага, былі беларускія арганізацыі, якія давялі справу ў канцы 1917 году да франтавых беларускіх зьездаў. У Маскве ўтварылася моцная арганізацыя «Беларуская Народная Грамада», у Петраградзе — цэнтр «Соцыялістычнае Грамады», існавала там старая арганізацыя «Загляне сонца і ў наша ваконца» і розныя беларускія рабочыя арганізацыі.

Менш, як праз месяц працы Нацыянальнага Камітэту ў Менску, выявілася, што яго рамкі надта вузкія дзеля таго, каб ахапіць і сцэнтраваць у сабе тагочасны беларускі рух. Насьпела гарачая патрэба скліканьня конфэрэнцыі ўсіх зарэестрованых у Нацыянальным Камітэце арганізацыяў.

Конфэрэнцыя гэта зьбіраецца й выбірае «Цэнтральную Раду Беларускіх арганізацыяў». Улетку 1917 году адбываюцца *дзьве сэсіі* Цэнтральнай Рады, на 3-яй, апошняй яе сэсіі ў кастрычніку прымаецца пастанова аб патрэбе ўтварэньня *нацыянальнай дзяржаўнай інстытуцыі*.

Гэта прынцыпіяльная пастанова знайшла магутны одгук і падтрыманьне сярод усіх беларускіх арганізацыяў і асабліва гэткіх вялізных сходаў, як вайсковыя беларускія зьезды быўшых расейскіх фронтаў.

Франтавыя беларускія зьезды адбыліся:

1) Заходняга фронту ў Менску з 5-11/XI-1917 г.

2) Паўночнага фронту ў Віцебску з 2-7/XI-1917 г.

3) Румынскага фронту ў Адэсе з 3-8/XII-1917 г.

і 4) Паўднёвага фронту ў Кіеве з 3-8/XII-1917 г.

Як бачым, апошнія два зьезды, адбываліся ў адзін і той самы час з 3-8/XII 1917 г. Гэта лішні раз сьведчыць аб сіле і росьце нашага руху, калі ўзяць пад увагу, што на кожны з гэтых зьездаў Цэнтральная Рада выдэлегоўвала сваіх сяброў, каб быць на месцы і ўзаемна інформавацца.

Падтрымаў пастанову Цэнтральнай Рады й вялікі, скліканы ў Маскве Народнаю Грамадою зьезд беларускіх бежанскіх арганізацыяў, а так сама шмат зьездаў настаўніцкіх, коопэратарскіх і інш. прылучыліся да насьпеўшае думкі стварыць свой беларускі нацыянальна-дзяржаўны орган.

Нарэшце, думка гэта прыняла зусім рэальныя формы. На месца Цэнтр. Рады беларускіх арганізацыяў паўстае «Вялікая Беларуская Рада», зложаная з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў, як грамадзкіх, так і вайсковых. Вайсковая частка «Вялікай Рады» працуе аўтаномна, як «Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада», стараючыся стварыць нацыянальную аружную сілу, для наданьня «Вялікай Радзе» патрэбнай рэальнай вагі і моцы.

Вялікая Беларуская Рада, напярэдадні скана짜ньня Часовага Расейскага Ўраду Керэнскага, уходзіць з ім у зносіны, выдзяліўшы з сябе «гэнэральных камісараў» на розныя галіны адміністрацыі. Але зносіны гэтыя нічога ня былі вартыя праз тое, што сапраўды *часовы* ўрад Керэнскага быў ужо скінуты бальшавіцкай рэвалюцыяй уночы з 25 на 26 кастрычніка (ст. стылю) 1917 году.

Яшчэ Нацыянальны Менскі Камітэт прабаваў завязаць адносіны з першым рэвалюцыйным расейскім урадам князя Львова, але там панаваў дух цэнтралізму і дэлегацыя беларуская князем Львовым была ўсё-ж такі выслухана, але й толькі таго.

Самі капрызы расейскае рэвалюцыі давалі ясна зразумець згуртаванаму беларускаму грамадзянству, што яно можа рахаваць толькі на ўласныя сілы свайго Народу, будзячы яго да сувэрэннага жыцьця. (...)

Вялікая Рада, доўга не чакаючы, паклікала на «Ўсебеларускі Зьезд» усе арганізованыя сілы свайго Народу.

Покліч гэты быў недарэмны. (...)

На Ўсебеларускі Зьезд сабраліся прадстаўнікі ўсіх земстваў: губэрнскіх, павятовых і валасных, прадстаўнікі культурна-прасьветных беларускіх арганізацыяў, палітычных партыяў, бежанскіх, вайсковых і іншых беларускіх арганізацыяў, агулам 1167 дэлегатаў з пастанаўляючым голасам. Да гэтага трэба дадаць 705 дэлегатаў з дарадчым голасам і, такім чынам, цэлы зьезд даходзіў амаль што да 2000 дэлегатаў.

Дарэмна мы шукалі-б, сярод гэтае масы народных выбарных, прадстаўнікоў буржуазнае клясы — іх тут *ня было аніводнага*. Шэрыя фігуры выбарных адпавядалі тэй шэрай рабочай, сялянскай і салдацкай масе беларускай, якая іх на зьезд паслала. Адарваная ад Народу, чужая клясавым і нацыянальным інтарэсам Яго, *буржуазія Беларусі* не падала ў гэты гістарычны момэнт ніводнага голасу. Сам гаротны Народ, як умеў, так і рашаў сваю ролю.

Ня гледзячы, аднак, на такі магутны рух, на вялізную арганізацыйную работу Вялікай Беларускай Рады, сама Рада гэтая *ня была фактычнаю ўладаю* Беларусі.

Незабаўна пасьля 25 кастрычніка — пасьля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе, — у Менску адбыўся, калі так можна назваць, *краёвы, мясцовы бальшавіцкі* пераварот. Бальшавікамі Заходняга фронту і Менскага гарнізону быў утвораны гэтак званы «Совет Народных Комиссаров Западной области и фронта» на чале з нейкім Ляндэрам, быўшым вураднікам Усерасейскага Земскага Саюзу.

Як-жа адносілася гэтая фактычная, усё-ж такі, улада, гэтая «Рада Народных Камісараў» да Вялікай Беларускай Рады, да нацыянальнага беларускага органу, які зьбіраў Усебеларускі Зьезд?

Трэба сказаць праўду, што адносіны бальшавікоў да Вялікай Беларускай Рады ня былі, у кожным разе, абсолютна варожымі.

Менскія народныя камісары сядзелі ня надта моцна на сваіх крэслах, бо бальшавікі наагул былі вельмі слабымі; яны мелі за сабою ані нязначны процэнт грамадзянства, немаль што нікога й нічога, апрача разбэшчанага, здэмаралізованага фронту. І дзеля гэтага толькі яны глядзелі на Вялікую Раду надта нявыразна, хаця і стараліся быць, як кажуць, у курсе ўсяго, што яна тварыла.

Трэба ад'значыць, як цікавае зьявішча, тое, што бальшавікі, стаўшы ўладаю, былі спачатку вельмі мягкімі й ня надта хутка дадумаліся да сучасных нечалавечых формаў чырвонага тэрору.

Пад носам менскіх народных камісараў доўгі час існаваў падгалосак керэншчыны менскі камітэт расейскае партыі соцыялістых-рэвалюцыянэраў і выробляў штучкі іншы раз ня вельмі смачныя для бальшавікоў. Камітэт расейскіх эс-эраў меў сваю газэту, якую бальшавікі пачалі закрываць толькі пасьля разгону Ўсебеларускага Зьезду.

Пабеларуску тады выходзіла ў Менску толькі часопісь «Вольная Беларусь», на якую наложана была народным камісарам латышом Рэзаускім яго асабістая цэнзура.

Апрача «Вольнай Беларусі» выходзіла парасейску «Беларуская Рада» — орган Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

Расейскія эс-эры ўвесь час дзяўблі ў сваёй газэце, што ўся ўлада ў Расеі павінна належаць Гаспадару Зямлі Рускай — Устаноўчаму Сойму і ў гэтым самым духу выпушчалі на вялізных аркушох адозвы, якія часта спрытна наклейваліся на дзьверы кабінэту самога Мясьнікова бальшавіцкага камандзера Заходняга фронту, быўшага прапаршчыка.

Прыхільнасьць расейскіх эс-эраў да беларускага руху, якую яны стараліся паказваць у гэты час, можна вытлумачыць толькі страшэннай нянавісьцю іх да бальшавікоў.

Аднак, нянавісьць гэту бальшавікі досіць доўга і цярпліва зносілі.

Адносячыся гэтак да эс-эраў, якіх панаваньне Керэнскага намножыла бяз ліку, бальшавікі не маглі горш адносіцца й да беларускага нацыянальнага цэнтру — Вялікай Беларускай Рады.

Наадварот, у адным прыказе бальшавіцкага камэнданта аб ваенным палажэньні ў горадзе, ясна была зазначана, што з пропускамі Вялікай Беларускай Рады, гэтак сама, як і з бальшавіцкімі, можна зьяўляцца на вуліцы і пасьля забароненага часу.

Яшчэ цікавей, што ўсялякія зьезды былі бальшавікамі забаронены, а Вялікая Беларуская Рада, ігноруючы гэтую забарону, склікала Ўсебеларускі Зьезд ды годзі.

З гэтым бальшавікі ўжо нічога не маглі парадзіць. Хаця з дакумэнтаў, надрукованых у адзіным (першым) нумары газэты «Белорусская Земля», выпушчанай у сьвет Старшынёю Першага Беларускага Ўраду (Народнага Сэкрэтарыяту) Язэпам Варонкаю, відаць ясна, што бальшавікі стараліся панасылаць на Зьезду сваіх агентаў, каб зрабіць там «переворот умов». Але нічога з гэтага ня выйшла.

***

5-га (на новы стыль 18-га) сьнежня 1917 году Веча Беларусі — Першы Ўсебеларускі Зьезд урачыста быў адчынены ў будынку Менскага Гарадзкога Тэатру.

Пачаліся нялічаныя прывітаньні, з якіх найгарачэйшым было слова старшыні менскае ўкраінскае грамады.

«Наша гора — ваша гора
Наша сьвята — ваша сьвята»...

раздаліся братэрскія, шчырыя словы ўкраінца, выклікаўшы неапісальны гром аплёдысмэнтаў і воклікаў: «Хай жыве вольна Украіна», «Гэть насільнікаў»... і г.д.

Працяг на старонцы 11.

# ІНФАРМАТАР

## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Вырабім значкі, распрацуем арыгінал-макеты. Тэл.: (017) 249-08-88

Усіх, хто любіць Беларусь і прагне Змаганьня, запрашаем на паседжаньні «Маладога фронту» штачацьвера. Варвашэні, 8, а 18.00

Куплю альманах «Ксэракс беларускі №1», або абмяняю на паэтычныя зборнікі С.Адамовіча, С.Сокалава-Воюша, А.Сыса, А.Мінкіна. Алесь Аркуш, 211413, Полацак, вул. М.Багдановіча, 9-17. Тэл.: (02144) 367-52

Шукаем кантакт зь сем'ямі, якія маюць дзяцей дашкольнага ўзросту. Алена, Уладзімір. Тэл.: 246-55-59

Слухайце беларускамоўныя выпускі Летувіскага радыё на сярэдніх хвалях а 21.05 штодня. Юрась Сьцяпанаў

Усім, каму сумна й не. Хто мае ад 13 да 16 гадоў. Пішыце Ірыне. Абяцаю адказ. 230023, г. Горадня, вул. Карбышава, д. 7а, кв. 3. Тэл.: 72-07-71

Рэдакцыі «Нашае Нівы». Вашую газэту я ўсё роўна буду паважаць, хоць і не надрукуеце майго ліста, але навошта абяцаць, як ня хочаш друкаваць?! А можа, вы проста забыліся ці згубілі мой ліст? Усяго найлепшага. Ваш чытач Казакоў Ігар Яўгенавіч

Кампутар, часткі да яго. Тэл.: 237-56-12. Пасьля 18.00

Рэклямна-інфармацыйная праца. $70 на тыдзень, дома. 2 капэрты, 1 са зваротным адрасам + купон б/а. 220082, Менск, а/с 53

Прадаю тэксты гурта «Камэлот» з акордамі. Кошт 10.000 руб. Менск-85, а/с 5. Тэл.: 231-04-08. Віталь

Прадаю кнігі «Менская вясна-96», Н.Арсеньневай «Яшчэ адна вясна», «Аршанская шляхта», «Наваградзкі Гербоўнік»; паштоўкі, значкі беларускіх гуртоў, з гістарычнай тэматыкай і інш. 220085, Менск, а/с 5. Тэл.: 231-04-08, 249-08-88. Віталь

Вы ня маеце патрэбнай беларускай кнігі? Давайце тварыць беларускую бібліятэку разам. «Малады фронт» з падзякай прыйме кнігі, часопісы, газэты й запрашае ў бібліятэку. Віталь, тэл.: 240-78-01, з 15 да 21

Запісы беларускіх гуртоў можна замовіць у Менску праз тэл.: 31-04-08, Віталь; у Маладэчне праз тэл.: 5-37-69, Алесь; у Пухавічах праз тэл.: 44-3-57, Алесь; у Магілёве праз тэл.: 41-36-56, Ала

Ангельская, баўгарская, беларуская, польская мовы: пераклады якой заўгодна складанасьці, індывідуальныя заняткі. Тэл.: 221-24-81. Юры Гайдук

Славамір Адамовіч! Паведайце, калі ласка, дзьвюм беларускім дзяўчынам, дзе можна набыць Ваш зборнік. Ганна й Эма. Тэл.: 241-80-29

Тыя, хто шануе старажытных Багоў, калі вы адчуваеце неабходнасьць стварэньня суполкі, або проста размовы з аднадумцам, пішыце. 220093, Менск, пр. Пушкіна, 83-98. Аляксей

Пасябрую з прыхільнікамі творчасьці Язэпа Драздовіча. Юры Малаш. Тэл.: 246-58-98, пасьля 21.00

Шчыра віншуем сынка Кірылку зь 7-годзьдзем. Жадаем самага-самага найлепшага й зычым вырасьці сапраўдным беларусам. Татуля й Матуля

Здам аднапакаёвую кватэру з тэлефонам да 80 даляраў на доўгі час. Тэл.: 235-41-97. Таня

Набуду збор твораў Ул.Караткевіча ў 8-мі тамах (альбо асобныя тамы). 212001, Магілёў, Бялінскага, 22-13. Тэл.:(0222) 21-30-35. Аляксей

Супрацоўнік «НН» Зьміцер Бартосік здыме пакой у Менску. Тэл. (0232) 56-94-36

Ангельская мова: пераклады, кантрольныя, індывідуальныя заняткі. Тэл.: 248-89-45. Аліна

**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220[illegible]23, Менск, а/с 71

## Беларускі патрыятычны сьпеўнік

*«Наша Ніва» супольна з камэрным мужчынскім хорам «Унія» працягвае стварэньне сучаснага Беларускага патрыятычнага сьпеўніка. Сёньня — яшчэ адна маршавая песьня:*

Сьвет - лым по-лем я ня - су, Аг - ня - ву - ю па - ла - су:
Як ма - лан - ка на - да мной Зі - ха - ціць над га - ла - вой
сьцяг мой воль - ны, сьцяг мой сьмелы, сьцяг мой бел-чыр - во - на - бе - лы
сьцяг мой воль - ны, сьцяг мой сьмелы, сьцяг мой бел-чыр - во - на - бе - лы

### СЬЦЯГ

*Мэл. традыцыйная маршоўка*
*Сл. Сяргея Панізьніка*

Сьветлым полем я нясу,
Агнявую паласу:
Як маланка нада мной
Зіхаціць над галавой
СЬЦЯГ МОЙ ВОЛЬНЫ,
СЬЦЯГ МОЙ СЬМЕЛЫ,
СЬЦЯГ МОЙ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ *(двойчы)*

Быў адважны продак мой
У Пагоні баявой.
Той Пагоні чую звон:
Хай нясецца наўздагон
СЬЦЯГ МОЙ ВОЛЬНЫ,
СЬЦЯГ МОЙ СЬМЕЛЫ,
СЬЦЯГ МОЙ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ *(двойчы)*

Залунай на ўвесь прасьцяг,
Агнявых вякоў працяг:
Ёсьць Дзяржава, ёсьць Народ!
Разьвівайся — і ў палёт
СЬЦЯГ МОЙ ВОЛЬНЫ,
СЬЦЯГ МОЙ СЬМЕЛЫ,
СЬЦЯГ МОЙ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ *(двойчы)*.

Урад Злучаных Штатаў Амэрыкі пры садзеяньні Інфармацыйнага Агенцтва ЗША абвяшчае пра пачатак адкрытага конкурсу на атрыманьне стыпэндыяў па

**«РЭГІЯНАЛЬНАЙ ПРАГРАМЕ АБМЕНУ ДЛЯ НАВУКОЎЦАЎ-ГУМАНІТАРЫЯЎ»**
(Regional Scholar Exchange Program)

і праграме

**«АКТУАЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ СУЧАСНАСЬЦІ Ў РАМКАХ АКТУ Ў ПАДТРЫМКУ СВАБОДЫ»**
(Freedom Support Act Fellowschips in Contemporary Issues).

Абедзьве праграмы праводзяцца амэрыканскай Радай міжнародных дасьледаваньняў і абменаў (IREX). IREX фінансуе пералёт у абодва бакі, стыпэндыю, а таксама бярэ на сябе афармленьне й аплату візавых дакумэнтаў і разьмеркаваньне ў адным з унівэрсытэтаў ЗША. Заяўкі падаюцца на ўдзел толькі ў адной зь дзьвюх пералічаных праграмаў.

Тэрмін падачы заявак на ўдзел у праграме да 31 кастрычніка 1997 году.

Блянкі заявак можна атрымаць/запытаць у офісе Прадстаўніцтва Рады міжнародных дасьледаваньняў і абменаў альбо ў Інфармацыйных цэнтрах па пытаньнях адукацыі ў ЗША (EIC), разьмешчаных у многіх гарадах СНГ.

IREX/Minsk:
220005, Менск-5, п/с 90,
Тэл/факс:(375) 17 227 1572
E-mail: taisa@open.minsk.by

IREX/Moscow
119842, Масква, вул.Валхонка, 14, будынак 5, 5 паверх
Тэл:(095) 203 98 89, 203 96 96
Факс:(095) 203 59 66
E-mail:irexmos@irex.ru

### АБ'ЯВА

*Урад Злучаных Штатаў Амэрыкі пры садзеяньні Інфармацыйнага Агенцтва ЗША абвяшчае пра пачатак адкрытага конкурсу на атрыманьне стыпэндыяў па «Рэгіянальнай праграме абмену для навукоўцаў-гуманітарыяў» (Regional Scholar Exchange Program).*

*Праграма праводзіцца амэрыканскай Радай міжнародных навуковых дасьледаваньняў і абмену IREX (АЙРЭКС). Працягласьць праграмы — ад трох да шасьці месяцаў.*

*Кандыдаты «Рэгіянальнай праграмы абмену для навукоўцаў-гуманітарыяў» павінны:*

*Быць грамадзянамі Арменіі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Казахстану, Кіргізстану, Малдовы, Расейскай Фэдэрацыі, Таджыкістану, Украіны, Узбэкістану й мусяць знаходзіцца ў сваёй краіне падчас падачы заявы й інтэрвію.

*Быць не маладзей за 25 і не старэй за 55 гадоў на момант падачы заявак (31 кастрычніка 1997 году).

*Быць выкладчыкамі вышэйшых навуковых установаў, навукоўцамі-гуманітарыямі й асьпірантамі, якія ня мелі ніякіх магчымасьцяў праводзіць навуковыя дасьледаваньні ў інстытутах ЗША.

*Мець кандыдацкую (альбо доктарскую) вучоную ступень альбо рыхтавацца да атрыманьня яе на час падачы заявы для ўдзелу ў праграме.

*Падаць заяўку на дасьледаваньне па адной з дысцыплінаў:
-Амэрыканістыка (American Studies)
-Спраўнае адміністраваньне (Business Administration)
-Гарадзкое плянаваньне й урбаністыка (City Planning and Urban Studies)
-Грамадзкая адукацыя (Civic Education)
-Вырашэньне канфліктаў (Conflict Resolution)
-Крыміналістыка (Criminal Justice)
-Дэмаграфія (Demography)
-Эканоміка (уключаючы гандаль, фінансы й інвэстыцыі) (Economics (including trade, finance, and investment))
-Адукацыя (Education)
-Этыка й філязофія (Ethics and Philosophy)
-Зьнешняя палітыка й міжнародныя зносіны (Foreign Policy and International Relations)
-Дзяржаўны лад (Government)
-Гісторыя (History)
-Вытворчыя працоўныя дачыненьні (Industrial Labour Relations)
-Міжнародная эканоміка (International Economics)
-Журналістыка (Journalism)
-Права (Law)
-Бібліятэчная справа й інфармацыйныя навукі (Library and Information Science)
-Мэнэджмэнт і маркетынг (Management and Marketing)
-Паліталёгія (Political Science)
-Грамадзкае адміністраваньне (Public Administration)
-Грамадзкая дзейнасьць (Social Work)
-Сацыялёгія (Sociology)
-Выкладаньне ангельскай мовы як замежнай (Teaching English as a Foreign Language (TEFL))
-Дасьледаваньне праблемаў жанчын (Womens Studies)

*Прадэманстраваць неабходнасьць правядзеньня дасьледаваньняў у краіне, якая прымае.

*Свабодна валодаць пісьмовай і вуснай ангельскай мовай.

*Мець публікацыі (асьпіранты могуць пералічыць даклады на навуковых канфэрэнцыях) у сваёй галіне.

*Ня мець абмежаваньняў для атрыманьня візы J-1.

*Ня мусілі былі ўдзельнічаць у іншай навуковай праграме, якую спансаруе USIA (Fulbright Senior Scholar Program, Regional Scholar Exchange Program, FSA Fellowships in Contemporary Issues, Junior Faculty Development Program, Muskie/FSA Graduate Fellowship Programs, і т.д.), працягласьцю болей за шэсьць тыдняў пасьля сакавіка 1996 году.

*Ня мець перашкодаў для пачатку правядзеньня дасьледаваньняў па Рэгіянальнай праграме абмену для навукоўцаў-гуманітарыяў ў ЗША зь сярэдзіны жніўня 1998 году.

### АБ'ЯВА

*Урад Злучаных Штатаў Амэрыкі пры спрыяньні Інфармацыйнага Агенцтва ЗША абвяшчае аб пачатку адкрытага конкурсу на атрыманьне стыпэндыяў па праграме «Актуальныя пытаньні сучаснасьці ў рамках Акту ў падтрымку свабоды» (Freedom Support Act Fellowships in Contemporary Issues)*

*Праграма праводзіцца амэрыканскай Радай міжнародных навуковых дасьледаваньняў і абменаў IREX (АЙРЭКС). Тэрмін праграмы тры-шэсьць месяцаў.*

Кандыдаты праграмы павінны:

* Быць грамадзянамі Арменіі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Казахстану, Кіргізстану, Малдовы, Расейскай Фэдэрацыі, Таджыкістану, Туркмэністану, Украіны альбо Узбэкістану й мусяць знаходзіцца ў сваёй краіне падчас падачы заявы й інтэрвію.

* Быць не маладзейшымі за 25 і не старэйшымі за 55 гадоў на момант падачы заявак (31 кастрычніка 1997 году).

* Быць палітычнымі дзеячамі альбо дзяржаўнымі службоўцамі агульнадзяржаўнага, рэгіянальнага ці мясцовага ўзроўняў, супрацоўнікамі недзяржаўных арганізацыяў і іншымі дзеячамі, уключаючы журналістаў, юрыстаў, мэнэджэраў, судзьдзяў, службоўцаў аховы правапарадку і г.д., якія ня маюць аніякіх магчымасьцяў праводзіць навуковыя дасьледаваньні ў інстытутах ЗША.

* Мець дыплём аб вышэйшай адукацыі (альбо навуковую ступень), роўную (альбо вышэйшую) амэрыканскім Master of Arts альбо Master of Sciences на час падачы заявы на ўдзел у праграме.

* Мець прынамсі тры гады прафэсійнага досьведу працы ў заяўленай галіне досьледаў.

* Падаць заяўку на дасьледаваньне актуальных пытаньняў сучаснасьці, якія стаяць перад СНГ, у тэме, што належыць да адной зь пяці асноўных галінаў:
- Дэмакратызацыя, правы чалавека й законакіраваньне (Democratisation, Human Rights and the Rule of Law);
- Палітычныя й вайсковыя пытаньні, пытаньні бясьпекі й грамадзкай палітыкі (Political, Military, Security and Public Policy Issues);
- Умацаваньне грамадзянскае супольнасьці (Strengthening Civil Society);
- Рэвалюцыя сувязі й доступ да інфармацыі (Communications Revolution and Access to Information);

* Прадэманстраваць неабходнасьць правядзеньня досьледаў у краіне, якая прыймае.

* Свабодна валодаць пісьмовай і вуснай ангельскай мовай для вядзеньня незалежных дасьледаваньняў.

* Мець публікацыі альбо даклады, рэпрэзэнтаваныя на навуковых канфэрэнцыях ці сэмінарах.

* Ня мець абмежаваньняў для атрыманьня візы J-I.

* Не павінны былі ўдзельнічаць у іншай навуковай праграме, якая спансаруецца USIA (Fulbright Senior Scholar Program, Regional Scholar Exchange Program, FSA Fellowships in Contemporary Issues, Junior Faculty Development Program, Muscie/FSA Graduate Fellowship Programs, і т.д.) працягласьцю больш за шэсьць тыдняў пасьля сакавіка 1996 году.

* Ня мець перашкоды для пачатку правядзеньня дасьледаваньняў па праграме Актуальныя пытаньні сучаснасьці ў ЗША зь сярэдзіны сакавіка 1998 году.

## Дакумэнты ТБМ

### ПАСТАНОВА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ АД 26 ВЕРАСЬНЯ 1997 Г.

Заслухаўшы і абмеркаваўшы інфармацыю аб рабоце сакратарыяту, Рэспубліканская Рада пастанаўляе:

1. Усім рэгіянальным арганізацыям ТБМ — абласным, раённым, гарадзкім — правесьці перарэгістрацыю да 1 студзеня 1998 г. Ажывіць работу дзеля прыёму ў шэрагі ТБМ новых сяброў.

2. Арганізаваць працу маладзёвых суполак ТБМ. Сакратарыяту распрацаваць маладзёвую праграму да 1 лістапада 1997 г.

3. Рэгіянальным арганізацыям ТБМ актывізаваць працу дзеля фінансавай падтрымкі Таварыства.

4. Прадоўжыць збор подпісаў за адкрыцьцё нацыянальнага ўнівэрсытэту. Рэгіянальным структурам здаваць справаздачу разам з падпіснымі лістамі ў Рэспубліканскую Раду адзін раз у тры месяцы.

5. Прыняць удзел у распрацоўцы праекту Закону «Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Закон аб мовах». Рэгіянальным арганізацыям унесьці прапановы да 10 кастрычніка 1997 г., сакратарыяту — да 20 кастрычніка.

6. Прыступіць да складаньня рэестру напісаных беларускамоўных падручнікаў для сярэдніх, сярэдне-спэцыяльных і вышэйшых навучальных установаў.

7. Увесьці ў склад сакратарыяту сп.сп. Уладзіміра Бордака, Міколу Кійку, старшыню менскай гарадзкой арганізацыі — на пасадзе — Аляксея Саламонава.

### ПАСТАНОВА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ АД 26 ВЕРАСЬНЯ 1997 Г.

1. Аднавіць выпуск газэты «Наша слова» з кастрычніка 1997 г. Даручыць выданьне газэты Лідзкай Радзе ТБМ імя Ф.Скарыны.

2. Прызначыць в. а. рэдактара газэты «Наша слова» сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ, намесьніка старшыні Гарадзенскай абласной Рады ТБМ Станіслава Судніка.

3. Даручыць фінансаваньне, распаўсюджваньне і рэалізацыю газэты «Наша слова» МП «Прагрэс» і МП «Шлях» г. Ліда.

4. Ухваліць склад рэдакцыйнай Рады:

*Генадзь Бураўкін — старшыня*
*Людміла Дзіцэвіч*
*Сяргей Запрудзкі*
*Аляксей Пяткевіч*
*Аляксей Рагуля*
*Аляксей Саламонаў*
*Павал Сьцяцко*
*Алег Трусаў*

*ПАДПІСКА*

Васіль Быкаў

# Сьцяна

Каб падпісацца на новую кнігу прозы Васіля Быкава «Сьцяна», трэба 68.000 (кошт выданьня) + 20.000 (паштовыя выдаткі) пералічыць на рахунак: БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

Аляксандар Лукашук

# «За кіпучай чэкісцкай работай»

*Сцэны з жыцьця катаў*

Новы кніжны праект «НН» — вынік шматгадовага архіўнага пошуку, на падставе дакумэнтаў дасьледуюцца ўнутранае жыцьцё НКВД і норавы чэкістаў-курапатчыкаў, мэханізмы цэнзуры і драма сучаснага маральнага выбару, адкрываюцца невядомыя старонкі нацыянальнай трагедыі.

Кніга «За кіпучай чэкісцкай работай» стане чарговым ілюстраваным выданьнем пад грыфам Архіву Найноўшае Гісторыі сьледам за ўжо вядомымі нашаму чытачу «Менскай вясной — 96», «Гартам» і «Філістовічам». Мяркуецца, што новая кніга ўбачыць сьвет у кастрычніку.

Папярэдняя падпіска (сабекошт + кошт перасылкі) складае 44.000 + 15.000 БРБ.

**Каб замовіць, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

***Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч. Тэлефон для кантакту (8-017)-2-31-04-08 у працоўны час.***

## КНІГІ – ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч. Тэлефон для кантакту (8-017)-2-31-04-08 у працоўны час.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 58.000 | 16.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 12.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 16.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 10.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 12.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 16.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 10.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 12.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 12.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 12.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 12.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 16.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 12.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 12.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 16.000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 10.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 20.000 |
| 18 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №1(96) | 30.000 | 12.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 20.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 12.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 12.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 16.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 10.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 6.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 16.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 6.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 12.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 6.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 6.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 12.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 20.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 16.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 24.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 12.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 6.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 10.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 12.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 6.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 10.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 10.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўнічак. | 10.000 | 6.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 6.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 6.000 |
| 44 | Тэрміналягічны СЛОЎНІК па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. | 20.000 | 10.000 |
| 45 | И.Хозеров. Белорусское и смоленское зодчество 10-13 вв. | 30.000 | 12.000 |
| 46 | Ул.Арлоў. Адкуль наш род. | 85.000 | 15.000 |
| 47 | Я.Запруднік. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. | 55.000 | 16.000 |
| 48 | Новы Запавет. | 65.000 | 16.000 |

**ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Кася ў школцы. | 9.000 | 14.000 |
| 2 | Шарль Пэро. Чарадзейныя казкі. | 20.000 | 26.000 |
| 3 | Лагодны Цмок. | 15.000 | 21.000 |
| 4 | Гарасьо Кірога. Казкі трапічнага лесу. | 15.000 | 21.000 |
| 5 | Графіня дэ Сэгюр. Зачараваная хатка. | 20.000 | 26.000 |
| 6 | Марві Яла. Дзівосная Ноч. | 15.000 | 21.000 |




## ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА

Выйшла з друку чарговая кніга Мэтрыкі — том 11 (Кніга запісаў). Папярэдне выходзілі тамы 5, 6, 7, 8, 10. Просьба ахвотным дасылаць свае заяўкі пісьмова на адрас: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч. Калі Вы маеце тэлефон, пазначце яго.

Даведкі праз тэл.: 249-08-88 да 10 гадзінаў раніцы; 231-04-08 у працоўны час.

# Новыя кнігі, дасланыя у рэдакцыю

Браты Львінае Сэрца: Аповесьць-казка, апавяданьні: для мал. шк. узросту. / Пер. са швэд. С.Лузгіной, Т.Лукша; Маст. А.Кажаноўскі. — Менск: Юнацтва, 1997 — 254 с., іл. — (Школьная бібліятэка) — Наклад 12.000 ас. ISBN 985-05-0093-Х

Вечназялёнае дрэва рамёстваў: Альбом-каталёг / Аўтар-складальнік Яўген Сахута — Менск: Чатыры чвэрці, 1997 — 56 с. — Наклад 1.500 ас. ISBN 985-6089-26-3

Клімовіч У. Той, хто будуе горад: Апавяданьні, трагедыя, прыпавесьць. — Менск: Маст. літаратура, 1996 — 221 с. — (Першая кніга празаіка)

Ластоўскі Вацлаў. Выбраныя творы: / Уклад., прадмова й камэнтары Язэпа Янушкевіча — Менск: Беларускі кнігазбор, 1997. — 512 с., іл. — Наклад 6.000 ас. ISBN 985-6318-13-0

Ленэ Маер-Скуманц, Марцін Эгле. Гутаркі пра веру / Перакл. зь ням. Ірэна Пашкевіч. Рэдактар Алесь Бяляцкі — Менск: БКГ, 1997. — 115 с. — Наклад 8.500 ас. ISBN 985-6340-01-4

Луканскі Э. Госьць з Чырвонай кнігі. Апавяданьні.: для сярэд. шк. узросту / Маст. У.Сачанка. — Менск: Юнацтва, 1997 —96 с. Наклад 3.000 ас. ISBN 985-05-0036-0

Мінск: Альбом / Склад. і аўтар тэксту В.Анікін; на бел., рас. і анг. мовах — Менск: Беларусь, 1997 — 7.000 ас. ISBN 985-01-0207-1

Пташнікаў І. Найдорф. Лонва: Аповесьці: Для ст. шк. узросту. — Менск: Маст. літаратура, 1996 — 430 с., іл. (Школьная бібліятэка) — Наклад 20.000 ас. ISBN 985-02-0258-0

Пташнікаў І. Тартак: Аповесьць і апавяданьні. Для ст. шк. узросту / Прадм. С.Андраюка. — Менск: Маст. літаратура, 1997 — 414 с.,іл. (Школьная бібліятэка). — Наклад 11.000 ас. ISBN 985-02-0391-9

Скарыніч: Літ.-навук. гадавік. Вып. 3 / Уклад. А.Каўка. Масква —Менск — Смаленск: Тэхналёгія, 1997. — 204 с. — Наклад 500 ас.

Уэлс Г. Вайна сусьветаў: Раман. Чалавек-невідзімка: Раман. С.Лагерлёф. Пярсьцёнак Лёвэншольдаў: Для ст. шк. узросту / Маст. Л.Мележ — Менск: Юнацтва, 1997 — 366 с. — (Школьная бібліятэка) — Наклад 12.000 ас. ISBN 985-05-0135-9

Чапэк К. Казкі і вясёлыя гісторыі. для мал. шк. узросту. — Менск: Полымя, 1997 — 237 с., іл. Наклад 7.000 ас. ISBN 985-07-0139-0

Алпеева Т. Введение в культурологию. Уч. пособие. — Менск: ЗАО «Веды», 1997 — 88 с. ISBN 985-6390-06-0

Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne. — 1997, z. 8, red.E.Mironowicz. — 187 s. ISSN 1232-7468.

Защита населения и обьектов народного хозяйства в чрезвычайных ситуациях: Учебник для вузов. /А.Г.Богданов, С.В.Бондарев, В.Н. Колобков, М. Постник; Под ред. М.Постника — Менск: Унівэрсытэцкае, 1997 — 278 с., іл. ISBN 985-09-01330-0

Кудреватых Н. Риторика. Уч. пособие — Менск: ТЭИИ ЗАО «Веды», 1997 — 56 с. ISBN 985-63-90-12-5

От Гродно и Каменца до Мстиславля: Белорусская старина —Менск: «Минскпроект», 1997 — 176 с. — Наклад 5.000 ас. — ISBN 985-6324-10-6

## КАСЭТЫ – ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 35.000 + 7.000 БРБ)***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. LaLaLaLa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Тарнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Тарнада. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндам. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Голуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)

**КОШТ КАСЭТАЎ 40.000 + 7.000 ПОШТА**

Gods Tower. The Eerie.
Gods Tower. Canticles.
Plastic Hardcore. Ultra.
Chemical Warfare. Demolition Tape.
Headcleaner. Hash. Hash. Resistance.
Insania Trivium. Candle of Fire.

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

## НАВІНКА!

*Вацлаў Ластоўскі. Выбраныя творы / Уклад., прадмова й камэнтары Я.Янушкевіча — Менск: Беларускі кнігазбор, 1997. — 512 с., іл. — Наклад 6.000 ас. ISBN 985-6318-13-0*



Гэтая кніжка — трэці па ліку том «Беларускага кнігазбору». «Выбраныя творы» ўнікальныя тым, што гэта самае поўнае выданьне прозы, паэзіі, публіцыстыкі, крытыкі й карэспандэнцыі Вацлава Ластоўскага.




*Скарыніч: Літ.-навук. гадавік. Вып. 3 / Уклад. А.Каўка. —Масква-Менск-Смаленск: Тэхналёгія, 1997.— 204 с. — Наклад 500 ас.*

Выданьне прысьвечанае постацям — Вацлаву Ластоўскаму, Язэпу Лёсіку, Усеваладу Ігнатоўскаму, Мікалаю Ўлашчыку. Публікуюцца дакумэнты, лісты, успаміны. Аўтарскі почырк укладальніка Аляксея Каўкі прачытваецца ў тым, што ён ня бачыць патрэбы «ў спэцыяльным тлумачальна-ацэначным артыкуле да гэтых тэкстаў».

*Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997, z.8. Red. E.Mironowicz. — Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 1997. — 187 s. ISSN 1232-7468*

Працягваецца пасьпяховая рэалізацыя беластоцкага беларускага праекту «Беларускага гістарычнага зборніку». Усё часьцей там публікуюцца грунтоўныя матэрыялы дасьледчыкаў з Горадні й Менску.

## ХІТ-ПАРАД «НН»

Хіт-парад сфармаваны па выніках продажу касэтаў сыстэмай «Касэты — поштай», у камэрцыйнай краме «D-Shop» (В.Харужай, крама «Трыкатаж»).

У жніўні — верасьні альбомы разьмясьціліся ў наступным парадку: KRIWI — KRIWI (Каўчэг), Мроя — Найлепшыя песьні (Каўчэг), Жыгімонт Ваза — Стан галюцынацыі (Kunst Records), Новае Неба — Выбранае («УШИ»), Андрэй Мельнікаў — Шлях. 2 часткі (Літаратурна-мастацкая суполка), Белы сон — Белы Сон (Беласток), KRAMA — Хворы на rock-n-roll (VIGMA), NRM — Made in NRM («УШИ»), Песьнярок — Песьнярок (Пан-Рэкардз), Камэлот — У краіне талераў (Ton Records).

Сяргей Сахараў

## НАВІНКА!

***Biely Son — Biełastok, studyja Polskaha radyjo, 1995.***




Альбом «Biely son» задаволіць густы тых, хто разумее папулярную музыку як арганічнае спалучэньне музыкі, тэксту і вакалу: ад бард-року да бард-попу. Клявішы, бубны, і, натуральна, акустычная гітара робяць музыку гурта безаналягавай у беларускай сучаснай музыцы. За аснову ўзятыя вершы В.Стахвюка і В.Шведа, Л.Геніюш і Я.Купалы. Чароўны вакал Марты Драль выклікае незабыўныя пачуцьці.

***Hacker's Game. Plastic Hardcore Ultra — Homiel: recorded at Sin-Di-Cat Rave Studio, 1997.***




На вокладцы пазначана, што дадзены прадукт кампутарнай жыцьцядзейнасьці ёсьць «ня музыкай, а толькі саўндтрэкам да кампутарнай гульні». Але пытаньне: да якіх гульняў пісалася гэтая «ня-музыка»? Часам узьнікае ўражаньне, што для прадукцыі, клясам не вышэй за «Atari» сярэдзіны васьмідзясятых. Праўда, некаторыя трэкі сапраўды пакідаюць уражаньне прысутнасьці ў нейкім квэсьце (кампутарны баявік), падзеі якога разгортваюцца ў віртуальнай прасторы.

# ЭЎРАПЕЙСКАЯ КАНВЭНЦЫЯ АБ АБАРОНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Й АСНОЎНЫХ СВАБОДАЎ

*(Рым, 4 лістападу 1950 году) 1/*

## Пошук балянсу

Стваральнікі Эўрапейскай Канвэнцыі аб Абароне Правоў Чалавека й Асноўных Свабодаў ставілі перад сабою ўнівэрсальную задачу — гарантуючы правы чалавека, адначасова вызначыць балянс паміж правамі асобы і ўсяго грамадзтва. Канвэнцыя ўяўляе сабою спробу разьвязаньня гэтай вечнай праблемы праз апэляцыю да эўрапейскае спадчыны: кажучы пра правы чалавека, Канвэнцыя вызначае стандарты правоў асобы, а для дзяржавы высоўвае патрабаваньне вяршэнства права.

Тым ня менш, маюцца толькі чатыры правы, абвешчаныя ў Эўрапейскай Канвэнцыі абсалютнымі ў тым сэнсе, што іх прыпыненьне альбо абмежаваньне ня можа быць апраўданым пры любых абставінах: права ня зьведваць катаваньні ці бесчалавечнае абыходжаньне й пакараньне, а таксама абыходжаньне й пакараньне, якое прыніжае чалавечую годнасьць (Артыкул 3); права не знаходзіцца ў рабстве ці паднявольным стане (Артыкул 4, пункт 1); права ня быць асуджаным за ўчыненьні якога-небудзь дзеяньня, якое на момант яго зьдзяйсьненьня, згодна з унутраным ці міжнародным правам, не зьяўлялася правапарушэньнем (Артыкул 7, пункт 1); а таксама права ня несьці больш цяжкае пакараньне, чым тое, якое прымянялася ў момант учыненьня крымінальнага злачынства (Артыкул 7, пункт 1). Што тычыца іншых правоў, то для дзяржавы Канвэнцыя стварае шырокія рамкі паводзінаў — дзяржава ў стане сама вызначаць сытуацыю, калі ў часе вайны ці іншага надзвычайнага становішча, «якое пагражае жыцьцю нацыі, любы з Высокіх Дамоўных Бакоў можа рабіць захады дзеля адхіленьня сваіх абавязкаў паводле гэтай Канвэнцыі толькі ў такой ступені, у якой гэтага патрабуе вастрыня становішча, пры ўмове, што такія захады не зьяўляюцца несумяшчальнымі зь ягонымі іншымі абавязкамі паводле міжнароднага права» (Артыкул 15, пункт 1).

Пры першым прачытаньні Канвэнцыі можа скласьціся ўражаньне, што яна дае адною рукой тое, што адбірае другой, бо большасьць правоў, якія дзяржавы-падпісанты абавязаныя паважаць, абумоўленыя часам шматлікімі й няпэўнымі выключэньнямі ды абмежаваньнямі. Але у выніку судовае практыкі Эўрапейскага суда правоў чалавека й Эўрапейскай камісіі па правах чалавека кола абставінаў, пры якіх дзяржава можа абыходзіць гэтае права, не зьяўляецца такім адкрытым, як гэта можа падацца з тэксту. Гэта не азначае, што страсбурскія органы ўсталявалі цалкам здавальняючую ўзаемасувязь паміж правамі й выключэньнямі, а азначае толькі тое, што з моманту пачатку дзеяньня Канвэнцыі былі распрацаваныя пэўныя кіраўнічыя прынцыпы. Новыя Пратаколы да Канвэнцыі, якія прымаюцца ўвесь час, уносяць праўкі да розных Артыкулаў Канвэнцыі, у тым ліку й такіх прынцыповых, як Артыкул пра сьмяротнае пакараньне. У цэлым дзяржаве дадзеныя шырокія магчымасьці ацэнкі ў адносінах хутчэй пазытыўных, чым нэгатыўных абавязкаў, а таксама ў пытаньнях нацыянальнае бясьпекі.

І вось каб стрымаць дзяржаву ў злоўжываньні магчымасьцямі абмяжоўваць правы асобы, Канвэнцыя стварае цэлы шэраг працэдураў, паводле якіх могуць вырашаюцца ўсе спрэчныя праблемы паміж асобаю й дзяржаваю, а таксама паміж дзяржавамі. Таму большая частка Канвэнцыі прачытваецца з цікавасьцю толькі спэцыялістамі ў галіне юрыспрудэнцыі й правоў чалавека. Затое гэта вельмі эўрапейскі шлях — працэдуры супраць злоўжываньняў. Працэдуры скіраваныя на тое, каб захаваць гэтую каштоўную, але крохкую эўрапейскую спадчыну правоў асобы.

**Алег Дзярновіч**

Урады, якія падпісалі гэтую Канвэнцыю, зьяўляючыся членамі Рады Эўропы,

Беручы да ўвагі Ўсеагульную дэклярацыю правоў чалавека, абвешчаную Генэральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў 10 сьнежня 1948 году,

Улічваючы, што гэтая Дэклярацыя мае на мэце забясьпечыць усеагульнае й эфэктыўнае прызнаньне й выкананьне абвешчаных у ёй правоў,

Улічваючы, што мэтай Рады Эўропы зьяўляецца дасягненьне большага адзінства паміж яго членамі й што адным са сродкаў дасягненьня гэтай мэты зьяўляецца сьцьвярджэньне й далейшая рэалізацыя правоў чалавека й асноўных свабодаў,

Зноў пацьвярджаючы сваю глыбокую адданасьць гэтым асноўным свабодам, якія зьяўляюцца падмуркам справядлівасьці й міру ва ўсім сьвеце, і выкананьне якіх галоўным чынам залежыць, з аднаго боку, ад сапраўднай дэмакратычнай сыстэмы, і, з другога боку, ад агульнага разуменьня й выкананьня правоў чалавека, да якіх яны належаць,

Прасякнутыя рашучасьцю як урады эўрапейскіх краінаў, якія прытрымліваюцца адзіных поглядаў і маюць агульную спадчыну палітычных традыцыяў і ідэалаў, павагі свабоды й вяршэнства права вырашылі зрабіць першыя крокі на шляху калектыўнага ажыцьцяўленьня некаторых з правоў, што сфармуляваныя ва Ўсеагульнай дэклярацыі,

Пагадзіліся ў наступным:

Артыкул 1

Высокія Дамоўныя Бакі забясьпечваюць кожнаму чалавеку, які знаходзіцца пад іхнай юрысдыкцыяй, правы й свабоды, вызначаныя ў Разьдзеле I гэтае Канвэнцыі.

РАЗЬДЗЕЛ I

Артыкул 2

1. Права кожнага чалавека на жыцьцё ахоўваецца законам. Ніхто ня можа быць наўмысна пазбаўлены жыцьця, акрамя як дзеля выкананьня сьмяротнага прысуду, які абвешчаны судом за зьдзейсьненае злачынства, за якое закон прадугледжвае такое пакараньне.

2. Пазбаўленьне жыцьця не разглядаецца як парушэньне гэтага артыкула, калі яно зьяўляецца вынікам ужываньня сілы, абсалютна неабходнай у наступных выпадках:

a) дзеля абароны любой асобы ад незаконнага гвалту;

b) дзеля зьдзяйсьненьня законнага арышту ці папярэджаньня ўцёкаў асобы, якая затрыманая на законных падставах;

c) дзеля ўсьмірэньня, у адпаведнасьці з законам, бунту ці мяцяжу.

Артыкул 3

Ніхто ня можа зьведваць катаваньні ці бесчалавечнае абыходжаньне й пакараньне, а таксама абыходжаньне й пакараньне, якое прыніжае ягоную годнасьць.

Артыкул 4

1. Ніхто ня мусіць утрымлівацца ў рабстве ці паднявольным стане.

2. Ніхто ня мусіць прыцягвацца да прымусовай ці абавязковай працы.

3. Дзеля мэтаў дадзенага артыкула тэрмін «прымусовая ці абавязковая праца» ня ўлічвае:

a) любую працу, што звычайна мусіць выконваць асоба, якая знаходзіцца ў зьняволеньні згодна з палажэньнямя артыкула 5 гэтае Канвэнцыі альбо ўмоўна вызваленая ад такога зьняволеньня асоба;

b) любую службу вайсковага характару, а ў тых краінах, дзе ў якасьці законнага прызнаецца адмаўленьне ад вайсковай службы паводле рэлігійна-этычных матываў, службу, якая прызначаецца замест абавязковай вайсковай службы;

c) любую службу, абавязковую ў выпадку надзвычайнага становішча ці бедзтва, якія пагражаюць жыцьцю ці бясьпецы насельніцтва;

d) любую працу ці службу, якія складаюць звычайныя грамадзянскія абавязкі.

Артыкул 5

1. Кожны чалавек мае права на свабоду й асабістую недатыкальнасьць. Ніхто ня можа быць пазбаўлены свабоды інакш, як у наступных выпадках і ў парадку, усталяваным законам:

a) законнае ўтрыманьне асобы пад вартай на падставе прызнаньня яе вінаватай кампэтэнтным судом;

b) законны арышт ці затрыманьне асобы за невыкананьне законнай пастановы суда альбо з мэтай забесьпячэньня выкананьня любога абавязку, прадвызначанага законам;

c) законны арышт ці затрыманьне асобы, зробленыя з тым, каб яна паўстала перад кампэтэнтным судовым органам згодна абгрунтаванаму падазрэньню ў зьдзейсьненым правапарушэньні альбо ў выпадку, калі маюцца падставы меркаваць, што неабходна прадухіліць зьдзяйсьненьне гэтай асобай правапарушэньня ці не дазволіць ёй зьнікнуць пасля яго зьдзяйсьненьня;

d) затрыманьне непаўналетняй асобы паводле законнай пастановы дзеля выхаваўчага нагляду альбо яе законнае затрыманьне з тым, каб асоба паўстала перад кампэтэнтным органам;

e) законнае затрыманьне асобаў з мэтай папярэджаньня распаўсюджваньня інфэкцыйных захворваньняў, а таксама затрыманьне псыхічна хворых, алькаголікаў, наркаманаў, валацугаў;

f) законны арышт ці затрыманьне асобы з мэтай папярэджаньня яе незаконнага ўезду ў краіну альбо асобы, у дачыненьні да якой прымаюцца меры па высылцы ці выдачы.

2. Кожнаму арыштаванаму адразу паведамляюцца на зразумелай яму мове прычыны ягонага арышту й любое прад'яўленае яму абвінавачаньне.

3. Кожная арыштаваная ў адпаведнасьці з палажэньнямі пункту 1(c) гэтага артыкула асоба неадкладна дастаўляецца да судзьдзі ці іншай службовай асобы, упаўнаважанай законам ажыцьцяўляць судовыя функцыі, і мае права на судовае разьбіральніцтва на працягу прымальнага тэрміну альбо на вызваленьне да суда. Вызваленьне можа залежаць ад прадстаўленьня гарантыі яўкі ў суд.

4. Кожны, хто пазбаўлены волі з прычыны арышту ці ўтрыманьня пад вартай, мае права на разьбіральніцтва, у час якога суд неадкладна вырашае пытаньне аб законнасьці яго затрыманьня й выносіць пастанову аб яго вызваленьні, калі затрыманьне незаконнае.

5. Кожны, хто быў ахвярай арышту ці ўтрыманьня пад вартай, праведзеных у парушэньне палажэньняў гэтага артыкула, мае права на кампэнсацыю, якая мае іскавую сілу.

Артыкул 6

1. Кожны мае права пры вызначэньні яго грамадзянскіх правоў і абавязкаў ці пры разглядзе любога крымінальнага абвінавачваньня, прад'яўленага яму, на справядлівае публічнае разьбіральніцтва справы ў прымальны тэрмін незалежным і бесстаронным судом, створаным паводле закону. Судовае рашэньне аб'яўляецца публічна, аднак прэса й публіка могуць не дапускацца на ўсё судовае разьбіральніцтва альбо частку яго зь меркаваньняў маралі, грамадзкага парадку альбо дзяржаўнай бясьпекі ў дэмакратычным грамадзтве, калі гэта неабходна ў інтарэсах непаўналетніх ці для аховы прыватнага жыцьця бакоў, альбо — у той ступені, якая, на думку суда, неабходная — пры асобых акалічнасьцях, калі публічнасьць парушала б інтарэсы правасудзьдзя.

2. Кожны абвінавачаны ў крымінальным злачынстве ўважаецца за невінаватага, пакуль яго вінаватасьць ня будзе даказаная ў адпаведнасьці з законам.

3. Кожны абвінавачаны ва ўчыненьні крымінальнага злачынства мае як найменш наступныя правы:

a) неадкладна й падрабязна даведацца на зразумелай яму мове пра характар і падставы прад'яўленага яму абвінавачваньня;

b) атрымаць дастаткова часу й магчымасьцяў для падрыхтоўкі сваёй абароны;

c) абараняць сябе самастойна ці праз пасярэдніцтва абранага ім самім абаронцы альбо, калі ў яго няма дастатковых сродкаў для аплаты паслуг абаронцы, атрымаць прызначанага яму абаронцу бясплатна, калі гэтага патрабуюць інтарэсы правасудзьдзя;

d) допытваць сьведкаў, якія паказваюць супраць яго, альбо мець права на тое, каб гэтыя сьведкі былі дапытаныя, і мець права на выклік і допыт сваіх сьведкаў, на тых жа ўмовах, што й сьведкаў, што паказваюць супраць яго;

e) карыстацца бясплатнай дапамогай перакладчыка, калі ён не разумее мовы, якая выкарыстоўваецца ў судзе, ці не размаўляе на ёй.

Артыкул 7

1. Ніхто ня можа быць прызнаны вінаватым ва ўчыненьні якога-небудзь крымінальнага злачынства праз нейкае дзеяньне ці недагляд, якія на момант іх зьдзяйсьненьня згодна дзейснаму ўнутранаму ці міжнароднаму праву не зьяўляліся крымінальным злачынствам. Такім самым чынам ня можа прызначацца больш цяжкае пакараньне чым тое, што падлягала прымяненьню ў момант учыненьня крымінальнага злачынства.

2. Гэты артыкул не перашкаджае адданьню пад суд і пакараньню любой асобы за любое дзеяньне ці недагляд, якія ў момант зьдзяйсьненьня зьяўляліся крымінальным злачынствам згодна агульным прынцыпам права, прызнаным цывілізаванымі краінамі.

Артыкул 8

1. Кожны чалавек мае права на павагу яго асабістага й сямейнага жыцьця, недатыкальнасьць яго жыльля й таямніцу карэспандэнцыі.

2. Не дазваляецца ўмяшаньне дзяржаўных органаў у ажыцьцяўленьне гэтага права, за выключэньнем выпадкаў, калі гэта прадугледжанае законам і неабходна ў дэмакратычным грамадзтве дзеля інтарэсаў дзяржаўнай бясьпекі, грамадзкага парадку ці эканамічнага дабрабыту краіны, дзеля падтрыманьня парадку й прадухіленьня злачынстваў, дзеля папярэджаньня хваляваньняў ці злачынстваў, аховы здароўя ці абароны маральнасьці альбо абароны правоў і свабодаў іншых асобаў.

Артыкул 9

1. Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумленьня й рэлігіі; гэтае права ўлучае свабоду на зьмену сваёй рэлігіі ці перакананьняў і свабоду спавядаць сваю рэлігію альбо перакананьні як асабіста, гэтак і супольна зь іншымі, публічным альбо прыватным парадкам, у богаслужбе, вучэньні й выкананьні рэлігійных і рытуальных абрадаў.

2. Свабода спавядаць сваю рэлігію альбо перакананьні падлягае толькі такім абмежаваньням, якія ўсталяваныя законам і неабходныя ў дэмакратычным грамадзтве ў інтарэсах грамадзкага спакою, аховы грамадзкага парадку, здароўя й маральнасьці, альбо для абароны правоў і свабодаў іншых асобаў.

Артыкул 10

1. Кожны чалавек мае права на свабоду выяўленьня свайго меркаваньня. Гэтае права ўключае свабоду прытрымлівацца свайго меркаваньня, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю й ідэі без умяшаньня з боку дзяржаўных органаў і не зважаючы на дзяржаўныя межы. Гэты артыкул не забараняе дзяржавам уводзіць ліцэнзаваньне радыёвяшчальных альбо кінематаграфічных прадпрыемстваў.

2. Выкананьне гэтых свабодаў накладае абавязкі й адказнасьць і можа быць зьвязана з фармальнасьцямі, умовамі, абмежаваньнямі альбо штрафнымі санкцыямі, прадугледжанымі законам і неабходнымі ў дэмакратычным грамадзтве ў інтарэсах дзяржаўнай бясьпекі, тэрытарыяльнай цэласнасьці ці грамадзкага спакою, у мэтах папярэджаньня хваляваньняў і злачыннасьці, аховы здароўя й маральнасьці, абароны рэпутацыі альбо правоў іншых асобаў, папярэджаньня раскрыцьця інфармацыі, якая была атрыманая канфідэнцыяльна, альбо забесьпячэньня аўтарытэта й бесстароннасьці правасудзьдзя.

Артыкул 11

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і свабоду асацыяцыі зь іншымі, уключаючы й права ствараць прафсаюзы й уступаць у іх дзеля абароны сваіх інтарэсаў.

2. Рэалізацыя гэтых правоў не падлягае ніякім абмежаваньням, акрамя такіх, што прадугледжаныя законам і неабходныя ў дэмакратычным грамадзтве ў інтарэсах дзяржаўнай бясьпекі й грамадзкага спакою, у мэтах папярэджаньня хваляваньняў і злачыннасьці, абароны здароўя й маральнасьці альбо абароны правоў і свабодаў іншых асобаў. Гэты артыкул не перашкаджае ўвядзенню законных абмежаваньняў на выкананьне гэтых правоў асобамі, якія ўваходзяць у склад узброеных сілаў, паліцыі й дзяржаўнага кіраваньня.

Артыкул 12

Мужчыны й жанчыны, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту, маюць права браць шлюб і ствараць сям'ю ў адпаведнасьці з унутраным заканадаўствам, якое рэгулюе выкананьне гэтага права.

Артыкул 13

Кожны чалавек, чые правы й свабоды, выкладзеныя ў гэтай Канвэнцыі, парушаныя, мае эфэктыўныя сродкі прававой абароны перад дзяржаўнымі органамі нават у тым выпадку, калі такое парушэньне было ўчыненае асобамі, якія дзейнічалі ў якасьці афіцыйных.

Артыкул 14

Карыстаньне правамі й свабодамі, выкладзенымі ў гэтай Канвэнцыі, забясьпечваецца без дыскрымінацыі паводле якога б там ні было прызнаку, як: пол, раса, колер скуры, мова, рэлігія, палітычныя альбо іншыя перакананьні, прыналежнасьць да нацыянальных меншасьцяў, маёмаснае становішча, нараджэньне альбо іншыя акалічнасьці.

Артыкул 15

1. У час вайны ці іншага надзвычайнага становішча, якое пагражае жыцьцю нацыі, любы з Высокіх Дамоўных Бакоў можа рабіць захады па адхіленьню сваіх абавязкаў паводле гэтай Канвэнцыі толькі ў такой ступені, у якой гэтага патрабуе вастрыня становішча, пры ўмове, што такія захады не зьяўляюцца несумяшчальнымі зь ягонымі іншымі абавязкамі паводле міжнароднага права.

2. Гэтае палажэньне ня можа быць падставай для адхіленьня ад артыкула 2, за выключэньнем сьмерці ў выніку правамерных актаў вайны, альбо ад артыкулаў 3, 4 (пункт 1) і 7.

3. Любы з Высокіх Дамоўных Бакоў у выпадку, калі зьвяртаецца да права такога адхіленьня, інфармуе ў поўным аб'ёме Генэральнага сакратара Рады Эўропы пра ўведзеныя ім захады й прычыны іх прыняцьця. Высокі Дамоўны Бок таксама інфармуе Генэральнага сакратара пра спыненьне дзеяньня такіх захадаў і аднаўленьне поўнага выкананьня палажэньняў Канвэнцыі.

Артыкул 16

Нішто ў артыкулах 10, 11 і 14 ня можа разглядацца як перашкода для Высокіх Дамоўных Бакоў уводзіць абмежаваньні на палітычную дзейнасьць іншаземцаў.

Артыкул 17

Нішто ў гэтай Канвэнцыі ня можа тлумачыцца так, што якая-небудзь дзяржава, група асобаў альбо якая-небудзь асоба мае права займацца якой-небудзь дзейнасьцю ці ўчыняць нейкія дзеяньні, скіраваныя на зьнішчэньне любых правоў і свабодаў, выкладзеных у гэтай Канвэнцыі, альбо на іхнае абмежаваньне ў большай ступені, чым гэта прадугледжанае Канвэнцыяй.

Артыкул 18

Абмежаваньні, якія допушчае гэтая Канвэнцыя ў дачыненьні да зазначаных правоў і свабодаў, не ужываюцца для якіх-небудзь мэтаў, інакшых, чым тыя, дзеля якіх яны былі прадугледжаныя.

РАЗЬДЗЕЛ II

Артыкул 19

Дзеля забесьпячэньня выкананьня абавязкаў, прынятых паводле гэтай Канвэнцыі Высокімі Дамоўнымі Бакамі, утвараюцца:

a) Эўрапейская Камісія па правах чалавека, якая далей называецца «Камісія»;

b) Эўрапейскі Суд па правах чалавека, які далей называецца «Суд».

РАЗЬДЗЕЛ III

Артыкул 20 2/

1. Камісія ўтвараецца з колькасьці членаў, роўнай ліку Высокіх Дамоўных Бакоў. Ніякія два члены Камісіі ня могуць быць грамадзянамі адной дзяржавы.

2. Камісія працуе ў рамках пленарных паседжаньняў. Аднак яна можа ствараць Палаты, кожная зь якіх складаецца найменш зь сямі членаў. Палаты могуць разглядаць пэтыцыі, перададзеныя ў адпаведнасьці з артыкулам 25 гэтай Канвэнцыі, якія могуць быць разгледжаныя на падставе ўсталяванай судовай практыкі, альбо якія не выклікаюць сур'ёзных пытаньняў, што закранаюць тлумачэньне ці прымяненьне Канвэнцыі. Пры ўмове выкананьня гэтага абмежаваньня й палажэньняў пункта 5 гэтага артыкула, Палаты ажыцьцяўляюць усе паўнамоцтвы, ускладзеныя Канвэнцыяй на Камісію.

Член Камісіі, абраны ад імя Высокага Дамоўнага Боку, супраць якога пададзеная пэтыцыя, мае права засядаць ў той Палаце, куды была перададзеная пэтыцыя.

3. Камісія можа ствараць камітэты, кожны зь якіх складаецца найменш з трох членаў і мае права, на падставе аднагалоснасьці, абвясьціць непрымальнай і выключыць са свайго сьпісу справаў пэтыцыю, якая прадстаўленая згодна з артыкулам 25, калі такое рашэньне можа быць прынятае без далейшага разгляду.

4. Палата альбо камітэт могуць, калі заўгодна, адмовіцца ад сваёй юрысдыкцыі на карысьць пленарнага паседжаньня Камісіі, якая можа таксама распарадзіцца аб перадачы ёй любой пэтыцыі, якая была перададзеная ў Палату альбо Камітэт.

5. Толькі пленарнае паседжаньне Камісіі можа рэалізоўваць наступныя паўнамоцтвы:

a) разгляд заяваў, прадстаўленых на падставе артыкула 24;

b) перадача справы ў Суд у адпаведнасьці з артыкулам 48 a);

c) складаньне правілаў працэдуры ў адпаведнасьці з артыкулам 36.

*Працяг будзе.*

# Усебеларускі Зьезд 1917 г.

Працяг. са старонкі 6.

Прадстаўнік, здаецца, што «*Rady Polskiej ziemi Mińskiej*», вітаючы Зьезд, скончыў сваю прамову словамі: «*Niech żyje niepodległa Rzeczpospolita Polska! Niech żyje niepodległa Rzeczpospolita Białoruska*!» (Хай жыве незалежная Рэспубліка Польская! Хай жыве незалежная Рэспубліка Беларуская!). (...)

Прадстаўнік іншай нейкай дэмократычнай польскай арганізацыі вітаў Зьезд на беларускай мове.

Прадстаўнік арганізованых татараў Заходняга фронту, вітаючы зьезд, заявіў што 35 тыс. мусульман-вайсковых гатовы ў кожную мінюту актыўна падтрымаць Усебеларускі Зьезд. Але-ж гэта мусі былі толькі моцныя словы маладога «быўшага» афіцэра.

Віталі Зьезд прадстаўнікі менскага Губэрнскага Земства, Гародзкай Думы і інш. інстытуцыяў часаў Керэнскага.

Віталі і бальшавікі — самі народныя камісары — Бэрсон (нацыянальных справаў) і Рэзаускі (унутраных справаў). Першы ад імя P.P.S. левіцы, а другі ад менскага камітэту партыі бальшавікоў.

Прамова Бэрсона прайшла досіць спакойна, а Рэзаускага два матросы, дэлегаты Зьезду, проста вывялі пад рукі, калі ён абазваў беларускі штандар, вісеўшы над трыбунаю, «трехцветной тряпкою» і рэкамандаваў замяніць яго «красным знаменем интернаціонала».

Прывітаньняў саміх дэлегатаў ад розных беларускіх арганізацыяў нельга й пералічыць.

Адзначыць варта нязвычайную па сіле й праграмнасьці прамову поэта Алеся Гаруна (нябожчыка Аляксандра Прушынскага), які вітаў Зьезд ад імя менскае арганізацыі «Беларускай Соцыялістычнай Грамады». А.Гарун тады толькі што вярнуўся з Сыбіру, дзе адбываў палітычную ссылку; ён заклікаў усіх дэлегатаў да будаваньня лепшай будучыны нашае Бацькаўшчыны — Беларусі, якая павінна мець шчыра народную ўладу, дэмократычны лад і парадак, пры якім былі-б забясьпечаны правы ўсіх народаў Беларусі.

Грамавыя воклікі й аплёдысмэнты былі адказам на прамову поэта.

Прывітальныя прамовы аднялі шмат часу; аднак канец іх быў прысьпешаны і Зьезд падыйшоў да цяжкае практычнае працы.

Заснаваліся розныя, як іх называлі «дзелавыя» сэкцыі Зьезду й некаторымі зь іх была зроблена нялёгкая работа. На ўсе балючыя пытаньні, якія сталі перад Зьездам, трэ'было знайсьці адказ. А пытаньняў гэтых было шмат.

Нямецка-расейскі фронт разрэзаў Зямлю Беларускую на два кавалкі. Царскі Ўрад выгнаў з Горадзеншчыны і часьці Віленшчыны (забраных немцамі) каля 1 1/2 мільёна сялянства, якое распарушылася па ўсёй Расеі, не вылучаючы Сыбіру й Сярэдняе Азіі.

Гэту вялізную грамаду людзей трэ'было вярнуць на свае попелішчы, падняць на ногі, адбудаваць зруйнованыя вёскі й мястэчкі.

Замест разьбітага адміністрацыйнага апарату царскае ўлады, зараз-жа трэ'было нарыхтаваць новы.

Трэ'было скінуць цяжкае бярэмя вайны і даць магчымасьць кожнаму залячыць раны, зробленыя ёю: прытуліць сіротаў, удоваў, калекаў і г.д.

А тым часам на Бабруйшчыне стаяў корпус польскіх легіянэраў гэнэрала Довбор-Мусьніцкага, аточаны зусюль бальшавіцкімі недабіткамі разбэшчанай расейскай арміі. Насяленьне Бабруйскага павету стагнала пад, свайго гатунку, ваеннай дыктатурай польскага гэнэрала, што трымаў свой корпус цяжкімі рэквізыцыямі, бранымі з няцэлага аднаго павету.

Трэ'было й гэтае хворае месца залячыць.

Трэ'было, ачысьціўшы ад расейскае анархічнае армейскае масы родную зямлю, папрасіць і польскі корпус выбрацца на сваю бацькаўшчыну.

У Берасьці адбываліся міравыя перагаворы бальшавікоў з немцамі. Вайна Расеі з Нямеччынай, так ці йначай перарвалася на землях Беларусі і Беларусь, як зацікаўленая старана, павінна была мець слова на гэтых перамовах.

Аб гэтым праве Беларусі бараніць самой сваю долю Зьезд мусеў сказаць і сказаў сваё аўторытэтнае слова.

Трэ'было лічыцца ўсё-ж такі з фактам істнаваньня «Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта» і не заплюшчаць вачэй на магчымасьці няроўнае барацьбы зь ім. (...)

Праца перад Зьездам паўстала цяжкая і да яе трэ'было падыйсьці добра згарнізаваўшыся.

Каб пастановы прымаліся больш арганізованна і хутка, Зьезд пастанавіў разьдзяліцца на фракцыі.

Але з гэтай зусім разумнай пастановы дэмагогічныя асобы зрабілі бязглузды раскол, які немаль што не давёў да поўнага развалу Зьезду.

Беларускі пісьменьнік, вядомы яшчэ «Нашай Ніве» нябожчык Фабіян Шантыр, — які ня раз ужо заяўляў перад Зьездам, што ён бальшавік, але *беларускі* бальшавік, — адарваў немаль што большую палову дэлегатаў ад рэшты Зьезду простымі крыкамі: «Хто за савецкую ўладу — да мяне...» і інш.

Раскол гэты адбыўся ў Шляхоцкім Доме проці Гарадзкога Тэатру і Шантыр, падтрыманы поклічамі другога скарасьпейнага бальшавіка — Фальскага, пацягнуў за сабою частку Зьезду ў Губэрнатарскі Дом на Пляцы Волі (пры немцах і палякох — Катэдральны Пляц).

Зьезд раскалоўся, але не разарваўся саўсім.

Частка, пацягненая Шантырам улева, мела ў сабе сьвядомых бальшавікоў рабочых-беларусаў з петраградзкіх заводаў, але сярод сялянскае, салдацкае і іншае, асобна нез'арганізованае, масы дэлегатаў бальшавікі не маглі быць большасьцю.

«Правая» частка Зьезду ня мела аднаго поўнага лідэра і складалася ў значнай меры з працоўнае інтэлігенцыі.

Шантыр дашчэнту асіп, бяз толку агітуючы сярод паверыўшых яму людзей, каб выступалі за *савецкую*, хоць і *беларускую*, уладу.

Нарэшце, яму ўдалося камічна ахрысьціць сваю фракцыю, назваўшы яе: «левое течение» Усебеларускага Зьезду.

Калі імя гэткае было стаўлена на галасаваньне, дык раздаліся зусім зразумелыя пытаньні: «Куды-ж зацячэ гэтае цячэньне, што за праграма ўкладаецца ў словы «левае цячэньне?».

Аднак опозыцыя гэта не набрала большасьці і, пасьля ўвагі Шантыра, што ён праграму апрацуе, прапазыцыя яго, каб быць «левым цячэньнем», а ня іншым чым, была прынята.

Проці гэткай недапусьцімай работы Шантыра выступалі: ваш пакорны слуга, пскоўскі дэлегат Хаценка (быўшы рэдактар аднэй віленскай газэты) і Асьвяцімскі — цяперашні дзеяч Случчыны.

Моцная опозыцыя Шантыру ў левым яго цячэньні хутка перамагла яго, пакінутага Фальскім, і само «левае цячэньне», страціўшы павадыра, не магло нікуды йначай цячы, як на агульную працу з кірункам, калі так можна назваць яго, правым.

Пачуцьцё нацыянальнае еднасьці й вялікай адпавядальнасьці перад ідэяй адраджэньня брала сваё й раскол Зьезду быў толькі нейкім выпадковым непаразуменьнем.

Ня больш, як толькі два дні Шантыр меў нязьмерную ўдачу ў сваёй фракцыі і гэтыя два дні опозыцыя ня мела сілы зваліць яго. За гэткі кароткі час Шантыр пасьпеў выдрукаваць бязграматную, прынятую большасьцю яго фракцыі, рэзалюцыю, пайшоў зь ёю да народнага камісара Бэрсона і іншых. Там з расколу вельмі цешыліся, аднак рэзалюцыя была бальшавіком гэтак нясмачнаю, што яе прыказана было конфіскаваць. Шантыру, відаць, недвазначна было сказана, што калі Зьезд не пагодзіцца з народнымі камісарамі, дык ён будзе сілаю разагнаны.

Знаёмячы з гэтым сваю фракцыю Шантыр не адважыўся запрапанаваць згоду з бальшавікамі-камісарамі, але не прапанаваў таксама адкінуць усялякую думку аб перагаворах з імі.

Гэтая апошняя прапазыцыя была выстаўлена тымі, хто ўвесь час выступаў у «левым цячэньні» проці Шантыра і тут яго павадырская роля была скончана. Фальскі тут-жа адрокся, як ён сказаў «от демагогій товарища Шантыра» і, бліснуўшы яркай лідэрскай маланкаю, Шантыр за адну ноч зьнік, выехаўшы ў Бабруйск, адкуль ён быў дэлегаваны на Зьезд.

Апрача расколу на *правых* і *левых*, Зьезд пачаў дзяліцца на зямлячаствы — дэлегаты з Магілёўшчыны складалі Магілёўскае зямлячаства, дэлегаты зь Меншчыны — Менскае зямлячаства і г.д.

Зямлячаствы шмат памаглі злучэньню Зьезду, бо ў іх сходзіліся і, так званыя, левыя і правыя і пераконваліся, што яны ня маюць за што сварыцца.

Мелі зямлячаствы і свой слабы бок, як напрыклад, выстаўляньне сваіх дробных, провінцыяльных інтарэсаў, але гэтым займалася, наколькі помніцца, толькі немаль што адно Магілёўскае зямлячаства.

Самі-ж магілёўцы й выдумалі гэты спосаб — арганізоўвацца ў зямлячаствы.

На гэтых аўторах зямлячестваў і на самых зямлячаствах мы мусім крыху затрымацца.

Рэч у тым, што на Зьезьдзе яны выказвалі адкрытае масквафільства, але яно тлумачылася проста.

Рэч у тым, што аўторы зямлячстваў складаліся на Зьезьдзе з тае групы, якая прыехала ў Менск з Петраграду, як «Областной Белорусскій Комитет при Всероссійском Совете Крестьянских Депутатов». Гэтую групу на Зьезьдзе так і называлі «областниками». На чале іх стаялі змаскалеўшыя беларусы — Вазіла, Канчар і інш. «Областники» былі павадырамі свайго — магілёўскага — зямлячаства і пёрлі ў Маскву сьлепатою.

Вазіла, трапляючы да трыбуны (а ён любіў яе) дэклямаваў вершы... Некрасава і іншыя расейскія народніцкія творы, але гэта дэклямацыя падабалася шчыра толькі двом-тром яго зямляком з народных вучыцялёў, моцна змаскаленых пабеданосцаўскімі школамі.

Нельга абмінуць таго, што магілёўцы з «Областного Комитета при Всероссійском»... і г.д., апынуўшыся ні пры чым пасьля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе, пасьпешна залажылі там-жа свой «Областной Комитет» і, не прызнаючы, пакуль што, за цэнтр «Вялікай Беларускай Рады» прабавалі з Петраграду склікаць у... Менску Ўсебеларускі Зьезд, гэта значыць, якраз тое самае, што ўжо рабіла Вялікая Рада.

На скліканьне зьезду Канчару было выдана на рукі з Смольнага інстытуту (бальшавіцкі цэнтр у Петраградзе) 50.000 рублёў. Трэба сказаць праўду, што частка гэтых грошай, пасьля няўдачы магілёўцаў склікаць «свой» Зьезд, была аддана Канчарам на расходы па арганізацыі, ужо скліканага Вялікаю Радаю, Усебеларускага Зьезду, на які былі дапушчаны і «областники». Сярод гэтае групы была грэнадзерскага выгляду, паненка Юр'ева, якая ўжо навет пачала, — галоўным чынам сялянам, — раздаваць «свае» дэлегацкія білецікі на Зьезд, але ў гэта ўмяшаліся сябры Зьезду беларусы-матросы з Петраграду, і, растлумачыўшы сялянам у чым рэч, прыгразілі Юр'евай, што яе правакацыя будзе спынена, калі гэтага трэ'будзе, сілаю. Сшытак нарыхтованых білетаў «областников» быў перададзены прэзыдыуму Зьезду і гэткія штукі больш не паўтараліся. Магілёўцы з петраградзкага абласнога камітэту зьехалі да першых роляў у сваім землячасьцьве і там маглі сабе дэклямаваць аб Вялікай Расеі, сколькі хацелі. Сьледам за магілёўцамі пачалі гуртавацца ў зямлячаствы: менчукі, віцебляне, віленцы, смаленцы, горадзенчукі.

Зямлячаствы пачалі рыхтаваць свае дэклярацыі, раскол Зьезду на правых і левых, пасьля банкруцтва Шантыра, сам сабою ліквідаваўся, чаму памаглі шмат два вольных даклады-лекцыі: 1) ксяндза Гадлеўскага аб полацкім пэрыядзе беларускай гісторыі і 2) вялікага вучонага-беларуса проф. Карскага аб асаблівасьцях беларускай мовы, тэрыторыі, этнографіі Беларусі і інш.

Нельга абмінуць аднаго дробнага здарэньня, якое гэтак сама моцна памагло Зьезду, зьліцца ў адно цэлае — гэта *нацыяналізацыя Менскага Шляхоцкага Дому*.

Па прапазыцыі П.Аляксюка Зьезд аднагалосна пастанавіў абвясьціць Шляхоцкі Дом уласнасьцю Беларускага Народу.

Гэтае пяцьмінютнае здарэньне давяло ўсіх да зразуменьня таго, што ўсе сябры Зьезду — дзеці аднаго народу. Ніводзін голас проці нацыяналізацыі панскага дому не протэставаў, бо ніводнага *пана* на Зьезьдзе ня было.

Такім чынам, Зьезд, усе неспакойныя момэнты перажыў і хутка падходзіў да свайго апошняга слова — да галасаваньня тых палажэньняў, якія былі апрацованы ў сэкцыях, камісіях, фракцыях, землячаствах і Радзе Зьезду.

Зямлячаствы ўжо агаласілі на Зьезьдзе свае дэклярацыі. Дэклярацыя магілёўскага зямлячаства выйшла, як і раней думалася, моцна масквафільская; крыху мягчэйшаю ў гэтым сэнсе была дэклярацыя віцеблян. Найбольш «сэпаратызму» мела ў сабе дэклярацыя горадзенскага зямлячаства, якое мела ў сабе гэткіх сяброў, як Язэп Варонка, аб якім казалі, што ён ужо з тыдзень насіў у кішэні «самастойніцкі» унівэрсал, які зьбіраўся падаць на галасаваньне Зьезду. За горадзенскім ішлі: віленскае, смаленскае і менскае зямлячаствы з крыху слабейшымі, у незалежніцкім сэнсе, дэклярацыямі.

Зьезд прыняў да ведама ўсе гэтыя дэклярацыі, якія, паступіўшы ў Раду Зьезду, паслужылі новым матар'ялам да агульных палажэньняў апрацованай Радаю рэзалюцыі.

Апрача гэтага цяпер, пасьля зложэньня дэклярацыяў зямлячаствамі, выявілася, што на зьезьдзе будуць змагацца, не якія-нібудзь «правыя» і «левыя» кірункі, а, галоўным чынам, два нязгодныя кірункі: 1) *усходні*, або *масквафільскі* начале з абласьнікамі-магілёўцамі і 2) *заходні*, больш нацыянальна сьвядомы й больш незалежніцкі на чале з элемэнтамі, згрупаванымі ў Вялікай Радзе, якая склікала самы Ўсебеларускі Зьезд.

Мы спамянулі некалькі разоў аб Радзе Зьезду. Аб ёй цяпер мусім сказаць крыху ясьней.

Рада Зьезду была зложана, як толькі Зьезд сабраўся. У Раду Зьезду ўходзілі прадстаўнікі ўсіх чыста груповак, быўшых на Зьезьдзе. Найбольшыя фракцыйныя і партыйныя групы, а нароўні зь імі і самыя дробныя лікам аб'яднаньні мелі сваіх прадстаўнікоў у Радзе Зьезду.

Гэткім чынам, Рада Зьезду зьяўлялася, якбы Малым Зьездам, органам больш рухавым у практычнай працы і спачатку яна гэтак, навет і называлася Радаю Старэйшых (сеньёрэн-конвэнт).

Рада Зьезду, разумеецца, не магла выносіць тых, ці іншых пастановаў ад імя Зьезду без агульнага (пленарнага) пасяджэньня яго.

Але гэты, проста утвораны, орган вельмі прыдаўся пасьля таго здарэньня, якое нікім тады, напэўна, ня было прадугледжана.

Здарэньне гэтае — *гвалтоўны разгон* Зьезду бальшавікамі. (...)

Усебеларускі Зьезд займаў амаль што лепшыя будынкі ў Менску. У тэатры «Акварыум» на Юраўскай вул. была арганізована дарэмная сталоўка для сяброў Зьезду. Сэкцыямі, камісіямі і фракцыямі Зьезду займаўся быўшы Губэрнатарскі Дом, што на Пляцы Волі (Катэдральны Пляц), агульныя (пленарныя) пасяджэньні Зьезду адбываліся ў Гарадзкім Тэатры, і, калі тэатр бываў заняты, у Шляхоцкім Доме. Абодва гэтыя апошнія будынкі зьмяшчаюцца адзін проці аднаго па Петрапаўлаўскай вуліцы.

У гістарычны дзень свайго разгону Зьезд засядаў у быўшым Шляхоцкім Доме.

Рада Зьезду ўжо ня мала часу разважала ў бакавым пакоі вялікай залі над тэзісамі агульнае рэзалюцыі, якую меў прыняць Зьезд. Абласьнікі цьвёрда трымаліся сваіх масквафільскіх паглядаў, іх праціўнікі цягнулі ў іншы бок, у бок найбольшае самастойнасьці Беларусі.

Пакрысе, адна старана зьбліжалася да другой у аснаўных пунктах і, нарэшце, агульная мова была знойдзена, хаця спрэчныя месцы ў рэзалюцыі яшчэ былі. Гэтыя спрэчныя месцы Рада пастанавіла вытлумачыць Зьезду праз двох аратараў: аднаго з абласьнікоў і аднаго з праціўнікаў іх.

Да гэткага рашэньня Рада Зьезду прышла каля першае гадзіна ўночы з 17 на 18 дзень сьнежня (ст.ст.).

Агульная рэзалюцыя была агалошана на Зьезьдзе цалкам і, перад тым, як галасаваць яе па пунктах, слова было дана аднаму з масквафілаў-абласьнікоў.

Ў залі запанавала нейкая ўрачыстая ціша, якраз, як часам бывае перад бураю.

Толькі падыйшоў да трыбуны аратар і сказаў некалькі слоў, як раптам прашарахцела нейкая лёгкая трывога. Усе неяк замітусіліся, напружыўшы нэрвы. Да стала прэзыдыуму Зьезду падыйшлі дзьве шэрыя фігуры ў салдацкіх шынялёх. Старшыня Зьезду грам. Янка Серада пытаецца ў іх дакумэнтаў. Фігура ў новай шапцы зь вельмі даўгім брылём голасна заяўляе: «Я начальник гарнизона»... ды яшчэ нешта, але нічога ня чуваць, бо ў залі даволі значны неспакой, усе абураны тым, што «начальнік гарнізону» гаворыць, ня зьнімаючы шапкі. Гэта начальнік гарнізону (...) Крывашэін. Ён скідае шапку пасьля таго, як раздаюцца галасы «скінуць шапку!» Пачынае гаварыць; але сіплівасьць відочна п'янага камісара, агульны гоман і няскладнасьць словаў п'янага начальства дае толькі магчымасьць чуць першыя словы Крывашэіна, якія ён кажа, зьнімаючы шапку. Чуваць толькі: ...«под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели»... І далей: .. «призываю президіум к... порядку»...

Другая фігура ў стаўбунаватай шапцы з нейкае рыжае скуры — народны камісар унутраных справаў Рэзаускі, бачачы гэткі слабы толк у прамове Крывашэіна, прапануе Старшыне Зьезду: «Лишите его слова»... І пасьля агалашае: «Об'являю С'езд роспущенным, а президіум арестованным»...

Тады ўжо пачынаецца гэткі галас, што нічога разабраць не ўдаецца.

Адным з таварышоў Старшыні за сталом прэзыдыуму быў, «областник» Вазіла.

Нягледзячы на тое, што Старшыня (Серада) яму не передаваў свае ролі, Вазіла хапаецца за званчык і сваім пісклівым голасам крычыць: «Об'являю заседаніе закрытым»...

Гэта выклікае страшэны гук протэсту ўсяго Зьезду і Серада абвяшчае, што пасяджэньне цягнецца далей. Вазіла ўдае, што ён нібыто абамлеў. Чуваць галасы: «вады, вады!» Магчыма, што й сапраўды Вазіла аслабеў, але з якой прычыны?

Тым часам, трэцяя шэрая фігура з шашкаю пры баку і «наганам» у руцэ праціскалася йдучы да прэзыдыуму праз густую масу сяброў Зьезду, гэтак сама, шэрых сялян, рабочых і салдатаў. Гэтым трэйцім быў не народны камісар, а проста камандзер «Першага Рэвалюцыйнага палку імя Менскае Работніцкае й Салдацкае Рады» Ремнёв, быўшы штабс-капітан (*голас з месца*: «прапаршчык, са мною ў адным полку служыў!»)

Уся шэрая маса дэлегатаў Зьезду шчыльна стулілася ў купу, паўставаўшы з сваіх крэслаў, недаючы Ремнёву магчымасьці прайсьці да Прэзыдыуму. Ремнёв паднімае ўгару «наган», націскае за цынгель, але рэвольвэр чамусьці не страляе.

Усё завалтузілася, загуло, як пчолы ў вульлі. Пачалася арыгінальная барацьба ўзброеных і безаружных шэрых фігураў паміж сабою. Некаторыя з сялян папрытуляліся ў кутках, але адважная іх большасьць зьмяшалася разам з рабоча-салдацкімі дэпутатамі і шчыльнаю сьцяною загароджвае «рэвалюцыйнаму палку» дарогу да Прэзыдыуму.

Адзін селянін, стаўшы на крэсла, з каменным спакойствам шле праклёнствы збройцам, паказваючы ім свае мазольныя далоні. Яго не чапаюць. Дзе-хто з сялян з халопскай пакорнасьцю моляць і просяць, каб іх выпусьцілі, бо яны, быццам, ня ведаюць, што тут робіцца... І, апынуўшыся ўжо каля дзьвярэй, Крывашэін літасьціва пацягвае іх за рукавы: «Проходите... проходите»...

Прэзыдыум, такі, арыштоўваюць і выводзяць. Разьлягаецца дружны сьпеў «Марсэльезы»; у кутку сьпяваюць марсэльезу беларускую: «Адвеку мы спалі»...

Загрымелі крэсламі, складаючы барыкады пасярод залі. У мінюту выбіраецца новы Прэзыдыум.

З аднаго боку барыкадаў новы прэзыдыум абвяшчае рэзалюцыю протэсту, а з другога боку Крывашэін, Ремнёв і Рэзаускі абмяркоўваюць свае стратэгічныя пляны.

Больш ніхто ўжо не пакідае сходу, усе цеснаю грамадаю стуліліся, слухаючы рэзалюцыю протэсту.

Нягледзячы на тое, што камісар Резаускі запрапанаваў «товарищам, стоящим на стороне советской власти» пакінуць Зьезд, — яны, гэтыя таварышы-бальшавікі, найбольш протэстуюць. Сам народны камісар апекі (призрения) матрос Муха (беларус) тут-жа заяўляе, што ён нязгодзен з гэткім гвалтам і, дзеля гэтага, падаецца ў адстаўку. Слова сваё Муха датрымаў. Ён выйшаў са складу народных камісараў «Заходняй абласьці і фронту».

Заява Мухі — ня спыняе Крывашэіна і ён далей камандуе арыштаваць новы прэзыдыум Зьезду. «Полк» Ремнёва разьбірае крэслы, абаронцы барыкадаў іх ізноў складаюць. Ізноў разьлягаюцца рэвалюцыйныя гімны... «Полк» адходзіць назад да дзьвярэй... Кінуўшыся ўперад, Ремнёв ізноў вядзе яго ў атаку... Лезуць праз барыкады, хватаюць новы прэзыдыум, хватаюць, каго могуць, ды выпіхаюць у дзьверы...

Зразумеўшы, што далейшая барацьба дарэмная, Зьезд выходзіць, сьпяваючы «Жалобны марш».

«Полк» акружыў усіх і падпіхаў з-заду ў дзьверы.

На сходах стаялі па баках выстраіўшыся салдаты «рэвалюцыйнага палку». Пры выхадзе з дзьвярэй на Падгорную вуліцу можна было бачыць чалавек дваццаць бальшавіцкай кавалерыі на белых конях і два панцырных самаходы.

Арыштаваных павялі па Падгорнай вуліцы да Комэрцыйнага вучылішча, дзе зьмяшчаўся «Совет народных комиссаров». Гэтае вучылішча беларусы называлі, жартуючы «Менскім Смольным Інстытутам».

Большасьць дэлегатаў Зьезду пайшла за арыштованымі, сьпяваючы рэвалюцыйныя песьні.

Разгон адбыўся пасьля больш, як 2 1/2 гадзін арыгінальнае бяскроўнае барацьбы.

Арганізованая воля беларускага народу бароцца за сваю лепшую будучыню была парушана, але ня зьнікла яна зусім.

Рада Зьезду ня ўся была арыштована і яе вольная частка пастанавіла сабраць Зьезд у той самы дзень 18 сьнежня (ст.ст.) для перадачы ёй, — Радзе Зьезду, — поўнамоцтваў на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасьці.

Зьезд сабраўся тайна ад бальшавікоў, у будынку чыгуначнага дэпо і Рада Зьезду была ўпаважнена стварыць выканаўчы орган і забраць у патрэбны момэнт улады ў свае рукі.

Гэтага момэнту прыйшлося чакаць ня надта доўга.

Рада Зьезду выбрала зь ліку сваіх сяброў «Выканаўчы Камітэт», на які ўпаў цэлы цяжар беларускае нацыянальна-дзяржаўнае справы.

Але аб працы Рады Зьезду і Выканаўчага Камітэту мы яшчэ пагаворым другім разам на тэму «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі».

**Краўцоў Макар**

Сяргей Паўлоўскі

# Сьмяротны двубой

*(Вострая Брама і Курган Славы)*

*Мы крочым праз вострыя брамы,*
*якія ўтварае пара дарагая,*
*мая залатая пара.*
*Але нас ня золата вабіць,*
*што ўрэшце абернецца*
*бруднай іржою і гноем,*
*а готыка голых таполяў,*
*што рукі скрыжоўваюць*
*недзе ля самага шэрага, шэрага,*
*шэрага неба.*

*Мы рушым праз новыя*
*вострыя брамы старыя,*
*як некалі, поруч,*
*і вера вяртаецца нам,*
*і нешта нам кажа,*
*што мы не адзіныя ў сьвеце.*



Вострае Брамы няма ў Энцыклапэдыі Архітэктуры Беларусі. Гэты помнік дойлідзтва — хрысьціянская рэлігійная сьвятыня, адна з брамаў старажытнае Вільні — апынулася за дзяржаўнай мяжой нашай краіны. Сёньня гэта Летува, Вільнюс. Але праз тое Вострая Брама не апынулася за межамі нашай культуры, беларускай паэзіі XIX і XX ст. Нездарма адзін зь беларускіх нацыянальных гімнаў ужо ў трэцім радку згадвае пра яе:

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах,*
*Успомню Вострую Браму сьвятую*
*І ваякаў на грозных канях.*

Прызнацца, я доўга шукаў якіх іншых канкрэтных сьвятыняў, якія б згадваліся і апяваліся ў нашай клясычнай паэзіі гэтак часта, як Вострая Брама. Шэраг вымалёўваецца незвычайны: касьцёл сьвятой Ганны, гара Гедыміна... Усё Вільня. Яшчэ, можа быць, полацкая Сафія або наваградзкі замак разглядаюцца як унівэрсальная беларуская сымболіка. Але на паўнавартасную паэтычную анталёгію можа прэтэндаваць толькі Вострая Брама, у якой месьціцца цудатворны абраз Божае Маці, аднолькава дарагі як для каталікоў, так і для праваслаўных.

*... Твар то збляднее, то зробіцца ў плямы...*
*Стане прад маткай сьвятой з Вострай Брамы,*
*Просіць: «Прачыстая, згінуць ня дай,*
*Гора адкінь, ад бяды захавай!» —*

гэтак Алесь Гарун распавядае пра пакуты гераіні свае «Засьцянковае аповесьці». На мяжы мінулага й нашага стагодзьдзя абразкі Вострабрамскай Божай Маці былі ў хатах па ўсёй Беларусі — як галоўны абярэжны знак. А яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя Янка Лучына апісаў такі абразок у сваіх «Паляўнічых акварэльках з Палесься»...

*Гаспода вось. На градцы посуд. Чыста ў хаце.*
*Абраз з выявай Божай Вастрабрамскай Маці*
*На покуці ў вянку. Таўстуха-печ. Вакол*
*Абеглі лавы проста змайстраваны стол.*
*На ім выглядваў хлеб з-пад чыстай палатніны,*
*Нож побач, соль на сподку.*
*Ток чысьцюткі з гліны,*
*Заместа мосту, — гаспадыніна хвала.*
*Пры печы вілы, качарга і чапяла.*

Дарэчы, зьвярніце ўвагу на дэталь: абразок Вострабрамскай Марыі ў палескай хаце — на покуці. Гэта значыць, што гаспадары хаты — праваслаўныя, што лішні раз пацьвярджае міжканфэсійнасьць цудадзейнага абраза і самой Вострай Брамы. Хоць найчасьцей апявалі ў нас гэтую сьвятыню каталікі, паэты-ксяндзы:

*О, Маці Божая, што ў слаўнай Вострай Браме,*
*Як зорка ясная, нам сьвеціш заўсягды...*

пачынае сваю «Малітву» Андрэй Зязюля. У другога паэта-сьвятара Казімера Сваяка верш на гэтую тэму аказаўся адным зь лепшых у творчым даробку:

*Вострабрамска Маці Божа*
*Краска чыстая, прыгожа.*
*Міласэрдзе Твае волі*
*Сьвеціць Вільні у нядолі.*

*Ў краі нашым Ты у чэсьці,*
*Нясеш зь неба добры весьці!*
*Шчасьце для нашага краю*
*Даеш нам ад Бога з раю!*

*Ўся Цябе Русь славіць Бела*
*І Літва і Польшча цэла,*
*Бо Ты маці міласьціва,*
*Сваім дзеткам дабратліва. —*

*Іх у смутку пацяшаеш,*
*Слабых, хворых папраўляеш!*
*І хто толькі к Табе прыйдзе,*
*То бяз радасьці ня выйдзе.*

*Ты так кожнаму дагодзіш,*
*Што надзею ў сэрцы зродзіш;*
*Празь Цябе усе правіны,*
*Даруюцца ў Бога Сына!*

Сьвятыня краю магла служыць для паэтаў і проста адметным будынкам, які сваім старажытным духам удзячна ўваходзіць у страфу, і тапаграфічным арыенцірам у горадзе, як, напрыклад, у Міхася Кавыля. Ён усю ноч шпацыраваў з каханаю па Вільні, а разьвіталіся яны раніцою каля Вострай Брамы. Такіх згадак у беларускай паэзіі шмат. Мяне ж цікавяць сапраўд-

Сяргей Харэўскі

# Менск з птушынае вышыні

## Палац Рэспублікі

Седзячы ў кавярні на 22-м паверсе гатэлю «Беларусь», я бачу за шклом панараму роднага гораду. Гледзячы на шырокія разлогі новага Менску, я спрабую ўзнавіць у сваёй памяці шлях, па якім некалі хадзіў у школу: ад парку Горкага да Верхняга Места, праз старую Нямігу, Ракаўскае прадмесьце да Юбілейнае плошчы... Я спрабую прыгадаць, што было ў тыя часы на месцы праспэкта Машэрава, як колісь выглядаў стадыён на Замчышчы, велізарныя вербы, у засені якіх бегла празрыстая Сьвіслач, як травеньскі ветрык разносіў пахі са старое кандытарскае фабрыкі... Я гляджу на горад з птушынае вышыні, і нічога не магу пазнаць. У гэтым сэнсе я мала адрозьніваюся ад прыежджых гасьцей, якія сядзяць за столікамі побач.

З гэткае вышыні Менск выглядае выгодна: зіхаціць срэбра вады, Траецкае прадмесьце, як лялечны набор для дзіцячай чыгункі, Верхняе Места з ацалелымі бажніцамі, усё магло вымалявацца ў хрэстаматыйную панараму сталіцы, па абрысах якое мы беспамылкова пазнавалі б Менск, як пазнаем Рыгу, Піцер ці Парыж... Але сёньня па-над усім запанавала спаруда Палацу Рэспублікі... Яна пануе над старым горадам, ціснучы на яго. Яшчэ незакончаны будынак дасьціпныя менчукі называюць то «саркафагам», то «маўзалеем». Аўтар палацу Міхаіл Пірагоў шчыра крыўдуе:

«Калі мастак піша карціну, ён яе нікому не паказвае. У мяне такой магчымасьці няма, вось і чую «кампліменты». А як, напрыклад, можна ацаніць жанчыну, ня бачыўшы яе ног?»

Квартал паміж вуліцай Энгельса і палацам прафсаюзаў не забудоўвалі доўга. Яшчэ пры царах тут і быў цэнтар Менску. На тэрыторыі сёньняшняе Кастрычніцкае плошчы знаходзіліся галоўныя будынкі: ад Дзяржаўнае кантрольнае палаты да каталіцкае сэмінарыі. За Саветамі тут быў, да 30-х гадоў, цэнтар улады. А як узьвялі будынак ЦК КПБ (сёньня адміністрацыя Лукашэнкі), то прастору перад ім (Аляксандраўскі сквэр і будынкі) плянавалася расчысьціць пад найбуйнейшую ў Эўропе плошчу!

Па вайне гэтак і сталася. Вывезьлі друз і забрукавалі велізарны пляц. Ацалеў, праўда, касьцёл і кляштар дамініканаў, які лічыўся помнікам аж з 1929 году. У 1944 годзе савецкія танкісты спачатку расстралялі хворых і параненых нямецкіх жаўнераў з лязарэту, які быў у кляштары, а пасьля з танкаў пачалі расстрэльваць касьцёл. Умяшальніцтва расейскіх архітэктараў уратавала ўнікальную бажніцу. Але ненадоўга. У 1949-м яе ўзарвалі. Ніхто не пярэчыў. На плошчы мусіў стаяць помнік Сталіну. Недзе ў той час тут жа зруйнавалі палацык Сапегаў, у якім кватараваў Пётар І. Пасьля Масква пажурыла, ды ладна. Калі архітэктара, які кіраваў будаўніцтвам помніка Сталіну спыталі, навошта заліваць бэтонам аж трохмэтровае глыбіні катлаван, ён адказаў, што за гэта яго ніхто не папракне, але калі помнік адхіліцца хоць на тры сантымэтры, яму зьвернуць галаву. Праз тры гады цішком зьвярнулі і Сталіна. Пастамэнт, што праўда, прастаяў аж да 1983 году. Штодзень, ідучы ў школу, я дзівіўся на яго...

З вакна кавярні на 22-м паверсе гатэлю «Беларусь» гэтага месца ўжо не відаць, затое я бачу, як там кіпіць будоўля.

З 60-х гадоў беларускія камуністы мітусіліся з ідэяй паставіць на Кастрычніцкай плошчы найбуйнейшы ў сьвеце музэй Леніна. Сваім багацьцем гэты музэй мусіў пераўзыйсьці музэй ў Маскве. На страсе мусіў стаяць помнік Леніну, натуральна, найбуйнейшы ў сьвеце: ад 30 да 40 мэтраў вышынёй! Верхні Горад, за выключэньнем катэдральнага сабору, падлягаў зьнішчэньню, а на ягоным месцы мусілі паўстаць грамады дамоў са шпілямі накшталт маскоўскіх. Але недарэчы для праектантаў грымнула хрушчоўская пастанова пра барацьбу з «архитектурными излишествами»...

У 70-я КПБоўцы ізноў захапіліся ідэяй стварэньня «сур'эзнага» цэнтру Менску. Калі зазірнуць у даведнікі, атрымліваецца цікавая рэч: сярод кіраўнікоў праектаў ніводнага «тутэйшага» чалавека, а ў складзе аўтарскіх калектываў — адзінкі... Ізноў усплыў музэй Леніна. Да 80-га году дзясяткі такіх музэяў ужо былі ў Расеі, у Кіеве, Баку, Эрэване, нават у Ташкенце... Беларускія «товарищи» відавочна адставалі. Але чужыя людзі, што панаехалі ў Менск з усіх канцоў СССР, маглі мысьліць толькі катэгорыямі разбурэньня. Як зруйнаваць Менск, яны ўяўлялі, а што збудаваць — не. Сярод праектаў мне запомніўся адзін — бэтонная зорка, кшталтам як у Брэсцкай крэпасьці, але паверхаў у 20 вышынёю, пад сьціплым дэвізам: «Ленін просты, як праўда...»

Прытомленыя бясплённасьцю ўласных пошукаў праектанты астылі й да сваіх ленінскіх ідэяў. Галоўны архітэктар гораду Грыгор'еў, родам з Ноўгарадзкай вобласьці, які прыехаў у Менск у 60-я, прапанаваў наогул «геніяльную» ідэю: зрыць старое места, зрабіць каскад фантанаў да Сьвіслачы, на месцы Траецкага —выспу з атракцыёнамі, Аляксандраўскі сквэр — перад ЦК —высекчы... Калі б так і здбылося, я б зараз бачыў з 22-га паверху гатэлю толькі Адміністрацыю Лукашэнкі. На слушны запыт калегаў: «А што ж будзе бачыць чалавек, праяжджаючы паміж вуліцай Энгельса й Палацам прафсаюзаў?», «мэтр» Грыгор'еў з годнасьцю парыраваў: «Неба!»

І тут усплывае ідэя Палацу Рэспублікі... У Менску няма канцэртнае залі — дык зробім адразу некалькі ў адным будынку. Ізноў конкурс, ізноў дзясяткі праектаў. Абралі праект Пірагова. Міхаіл Пірагоў, родам з Краснаярскага краю, прыехаў у Беларусь у 1975 годзе, а ў 1983-м стаў аўтарам самага прэстыжнага аб'екту ў краіне.

Сам ён кажа: «... Палац плянавалася адкрыць у 1992 годзе да зьезду КПБ. Каб не развал СССР, то аб'ект здалі б своечасова. Партыя вельмі жорстка кантралявала такія аб'екты. Нават калі б будаўнікам загадалі працаваць круглыя суткі...»

У 1985 годзе быў зарыты першы кубамэтар бэтону. Сыпалавалі ўнікальныя прысады экзатычных шурпатых вязаў і крымскіх соснаў. Пасьля зьнесьлі пару старасьвецкіх будынкаў...

Пірагоў камэнтуе: «Беларускаму палацу не пашанцавала ў тым сэнсе, што астатнія рэспублікі ўжо пасьпелі пабудаваць сабе аналягічныя гмахі: у Кіеве і Ташкенце па 4 тысячы месцаў, у Алма-Аце і Кішынёве па 3. Мы не пасьпелі».

Будова йдзе марудна. На ўсім цыкляпічным аб'екце працуе сёньня 200 чалавек, хоць мусіла б працаваць у дзесяць разоў болей. Але пакрысе спаруда набывае сваю форму. Ужо амаль гатовыя гранітныя прыступкі. Завяршаецца праца ў канцэртнай залі на 2700 месцаў, абсталяванай аўстрыйскімі сцэнічнымі мэханізмамі. Тут будуць праводзіцца эстрадныя й опэрныя канцэрты, а таксама міжнародныя сустрэчы: эмантаваная сыстэма перакладу на 8 моваў. Малых заляў будзе тры: Тэатральная на 500 месцаў, канфэрэнцыйная на 200 зь перасоўнымі

ныя паэтычныя пэрліны, настраёвыя або хрэстаматыйныя, якія запамінаюцца адразу і назаўсёды. Адзін з такіх твораў належыць пяру Алеся Салаўя, які ў 44-м разьвітаўся зь Вільняй, яшчэ ня ведаючы, што ўсё астатняе жыцьцё яму давядзецца пражыць у Аўстраліі. Верш называецца «Ля Вострай Брамы».

*І прашчуры схілялі тут галовы...*
*Мінаю я праход Яе сьвяты,*
*а вусны шэпчуць дабравесьця словы:*
*— Сьвятая Ты!*

*За Ёй — і старадаўная сталіца*
*мае радзімы ў чарах пекнаты.*
*Ізноў табе прыехаў пакланіцца —*
*— Сьвятая Ты!*

У вершы іншай эмігранткі, Натальлі Арсеньневай Вострая Брама ўяўляецца індульгенцыяй, прошчай. А ірваныя строфы верша гучаць роспачна і зусім непадобна на звычайна мэлядычныя творы паэткі.

*Выходжу й гукаю,*
*гляджу, выглядаю — нямашка...*
*У ходзішча шчырбах каштанавы тае сьнег.*
*Праз дошкі кастрывыя*
*крыва ўсьміхаюцца крамы.*
*(На яве ўсё гэта? У сьне?)*
*Чыйсь крок невясёлы і важкі.*
*— Дзе Вострая Брама?*
*— Нямашка.*

Кажучы пра шэраг нацыянальных сымбаляў, якія апетыя нашай паэзіяй, я да часу ня згадваў савецкія вершы. Там мы знойдзем індустрыйны Менск, гіганты прамысловасьці, якія цяжка ўпісаць у шэраг нацыянальных сьвятыняў, а найперш — Хатынь і Курган Славы. У савецкай сыстэме каардынат уласна беларушчына пачынаецца зь мінулай вайны. Гэтаксама як дзень незалежнасьці сёньня прызначаны на дату вызваленьня Менску ад немцаў.

Дзьве сыстэмы сымбаляў — Вострая Брама і Курган Славы — нібы ртуць і вада, ніякім чынам не спалучаюцца, не ўзаемапранікаюць. Немагчыма ўявіць сабе паэтычны твор, дзе б згадваліся абедзьве гэтыя сьвятыні. Як, зрэшты, немагчыма ўявіць сабе верш Максіма Багдановіча пра Хатынь. Тут нам адкрываецца вельмі глыбокі раскол нацыянальнае сьвядомасьці. Напэўна, нават больш глыбокі, чым падзел на канфармізм і нонканфармізм, савецкую і несавецкую беларускую культуру. Верш пра Курган Славы цалкам мог напісаць Купала, зрэшты, Курган —гэта ягонае слова, назва хрэстаматыйнай паэмы. Але пра Вострую Браму Купала не пісаў ніколі. Дый вершы пра Вільню ў яго выходзілі нейкія непаважныя, гратэскавыя, як бы з падскокам.

*Над Вяльлёй-ракой,*
*Па гары крутой*
*Туман сьцелецца;*
*Ні то лом-ламок,*
*Ні то дом-дамок*
*Там віднеецца...*

Найлепей вытлумачвае такія адносіны да Вільні і Вострае Брамы Міхась Машара ў сваёй паэме «Падарожжа». Дарэчы, часам можна пачуць думку, што менавіта такі падыход — сапраўды беларускі,ісьцінна народны.

*Іду далей... вось Востра-брама.*
*Зьнімаю шапку (трэба тут).*
*Малітвай раньняю сабраны*
*Каля муроў таўпіцца люд.*

*Я не малюсь мурам і тайнам*
*Незразумелым і пустым.*
*Мой Бог — такі прасты, звычайны,*
*Але магутны і жывы.*

Вось у чым справа. Тое, што ў нас называлі народнасьцю ў дачыненьні да літаратуры — гэта насамрэч паганства, дух паганства. Вострая Брама і Курган Славы ўступаюць у этычны і эстэтычны канфлікт менавіта як хрысьціянская і паганская сьвятыні. Можна працягнуць гэтую палярызацыю на ўсё, што сёньня адбываецца ў Беларусі. Ледзьве абазначыўся ў нас эўрапейскі, хрысьціянскі тып цывілізацыі, як зараз жа быў зломлены і адмоўлены рэваншам паганства.

Падзел сьвядомасьці паміж Вострай Брамай і Курганом Славы — і этычны, і эстэтычны. Можна разглядаць яго таксама як падзел паміж пралетарскімі і арыстакратычнымі ўяўленьнямі, паміж стыхіяй душы і культурай сэрца. Праекцыя гэтага ўнутранага расколу праглядаецца ў беларускіх палярызацыях «захад —усход», «каталіцызм — праваслаўе». Вынікі гэтага падзелу — у неаб'яднанасьці свайго. Калі цётка гаворыць «па-нашаму», але не прызнае, што па-беларуску. Калі намэнклятура адчувае проста фізычную няпрыязь да фактаў і асобаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Калі народ хоча жыць як жыве, але пры гэтым не згаджаецца абазначыць стан краіны як незалежную Беларусь і галасуе за СССР.

Даводзячы гэты раскол да зусім канкрэтнага знакавага ўзроўню, я спрабую паставіць эстэтычную задачу: верш, у якім бы апяваліся Вострая Брама і Курган Славы адначасова. Вострая Брама — міжканфэсійны сымбаль. Для курганаслаўшчыкаў ён незразумелы і чужы. Курган Славы — для вастрабрамшчыкаў — сымбаль чужое вайны на беларускай зямлі. Хоць нішто не замінае разглядаць яго як сымбаль перамогі над фашызмам, а супраць гэтага, думаю, ня будзе выступаць ніхто. Так ці інакш, уся справа ў трактоўках, якія яшчэ трэба будзе стварыць. Сёньня ж найвялікшай недарэчнасьцю ўяўляецца думаць пра Вострую Браму, схіліўшы галаву ля падножжа Кургана Славы, або ўяўляць сабе Курган Славы, уваходзячы ў Вострую Браму. Можа быць, калі такі верш усё ж зьявіцца, тады адбудзецца і наша нацыянальная кансалідацыя. У прынцыпе магчымасьць такога твору — гэта ёсьць магчымасьць кансалідацыі. Калі ж я памыляюся, і два сымбалі ніколі ня ўступяць у эстэтычную сувязь, а будуць працягваць сьмяротны двубой, то аднаму зь іх рана ці позна давядзецца капітуляваць, загінуць, прапасьці. Але гэта будзе ўжо зусім іншая краіна або тэрыторыя.

*Вострая брама. Атвор*
*у нязвыклую глыб,*
*дзе нэафіт пачувае сябе*
*як на Марсе,*
*ну, а заўсёднік*
*утульных кавярняў, прынамсі,*
*можа сядзець за ажурнымі*
*кратамі шыб,*
*каву смакуючы і пазіраючы на*
*шыльду насупраць,*
*якая цямнее на муры*
*помніка вельмі далёкае*
*архітэктуры,*
*і, не стрываўшы,*
*міжволі ўздыхнуць*
*— даўніна...*





сьценкамі, тут можна будзе ладзіць скокі, і самая малая на 100 месцаў. Пад залямі размесьціцца комплекс рэстаранаў, кавярняў, казіно, більярду. Неўзабаве загудуць 6 эскалятараў.

Пірагоў працягвае: «... Унутраны інтэр'ер Палацу распрацаваны з улікам мясцовых, беларускіх традыцыяў. У Барысаве ўжо чакаюць 6 велізарных габэленаў. А завод Вавілава зрабіў стальныя жырандолі ў форме саламяных вырабаў...»

Дарэчы, менавіта тут будзе вісець найбуйнейшы ў сьвеце габэлен мастака Кішчанкі «XX стагодзьдзе», на якім сярод беларускіх дзеячоў вяўлены Ленін, Сталін, Мао і Лукашэнка.

Са словаў Пірагова, здача першага пускавога комплексу плянуецца сёлета да сьвята Вялікага Кастрычніка. Цалкам самы вялікі гмах у Беларусі будзе адкрыты ў 1999 годзе!

Зрэшты, з кавярні на 22-м паверсе гатэлю «Беларусь», я яго бачу ўжо сёньня...

## Падземны горад

Седзячы ў кавярні, на паддашку самага высокага будынку ў Менску, азіраючы навакольле, я прыгадаў адну зь бясконцых менскіх гісторыяў. Гэты гатэль будаваў архітэктар Пагарэлаў, адзін са старэйшых архітэктараў Беларусі, родам з Ачакава, з Украіны. Аб'ект мусілі здаць да 70-х угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, сьпяшаліся. У 1984-м хмарачос гатэлю быў амаль гатовы. Ды раптам... пахіснуўся. Балотныя менскія глебы ня вытрымалі цяжару бэтону. Дырэктара інстытуту геадэзіі, у якім рабіліся досьледы пад будаўніцтва, «зьнялі». Інжынэр-геадэзіст, які непасрэдна кіраваў досьледаваньнямі, павесіўся, баючыся суда. Аднак усё абыйшлося... Да таго боку, які даў усадку, прыбудавалі рэстаран і саўну. Аб'ект быў здадзены сваечасова.

Менская зямля малапрыдатная для будаўніцтва хмарачосаў, танэляў ці яшчэ чаго такога. Паў-Менску стаіць на балоце. Каб збудаваць плошчу Коласа й вуліцу Харужай, давялося стварыць гіганцкую бэтонную падушку. Мэтрапалітэн узводзілі ў суцэльнай твані, таму ён у Менску неглыбокі. Зрэшты, з вышыні, на якой я сяджу, гэтага не відаць. Відаць гару Верхняга Гораду, на якой вырас Палац. Дарэчы, менскія горы цалкам прыдатныя для любых інжынэрных працаў, бо ў іх у сярэдзіне шчыльная гліна. Таму старыя менскія камяніцы мелі глыбокія сутарэньні, часам у некалькі паверхаў.

У сярэдзіне XIX ст. Шпілеўскі пісаў: «Гасьцінны двор (на Верхнім Месьце) напоўнены лепшымі крамамі і піўніцамі... У сутарэньнях уладкаваныя галянтарэйныя, мускатыльныя й садавінавыя крамы; перад садавінавымі ў прамой лініі расстаўленыя квадратныя зялёныя сталы, на якіх у любы час году, асабліва летам і ўвосень, знойдзеце цытрыны, памаранчы, сьлівы і розных гатункаў яблыкі і йгрушы...».

Але задоўга да крамнікаў, з сярэдзіны XVII стагодзьдзя, гару Верхняга Места прарэзалі падземныя хады паміж каталіцкімі кляштарамі. Напэўна, каталіцкім мніхам было што хаваць ад хцівых рук акупантаў. У наш час гэты падземны горад быў знойдзены выпадкова. Зянон Пазьняк апісвае гэта такім чынам:

«Падчас будаўніцтва кінатэатру «Перамога», каля руінаў колішняга кляштару бэнэдыктынак, коўш эскаватара праваліўся пад зямлю. Перад рабочымі раскрыліся сярэднявечныя сутарэньні. Некалькі чалавек са сьвечкамі спусьціліся туды й пабачылі прасторны ход у бок плошчы Свабоды. Яны прайшлі каля 150 (!) мэтраў, як сьвечкі пачалі гаснуць. Гэта азначала, што наперадзе скапленьне вуглекіслага газу...»

Па вайне сутарэньні засыпалі, было не да таямніцаў. Недзе ў гэты ж час быў знойдзены другі ход, у двары колішняга кляштару бэрнардынак, які стаў жылым домам. Па вайне, раптам пасярэдзіне двара пачала правальвацца зямля, аж пакуль не адкрыўся ўваход у глыбокія лёхі. Туды памкнуліся дзеці, якія натыкнуліся на груду шкілетаў. Бацькі напалоханых дзяцей завалілі ўваход сьмецьцем. Урэшце насыпалі вялікую клюмбу ў мэтар вышынёю.

Пра падземны горад загаварылі йзноў, калі пачалося будаўніцтва мэтро. Але дзе там! Трэба было ратаваць хаця б тыя помнікі, што былі зьверху. Аднак археолягі ўсё ж цягнуліся да разгадкі таямніцы менскіх падзямельляў... Калі ўявіць якой яны даўжыні (ад кінатэатру «Перамога» да Сьвіслачы), то там абавязкова мусілі быць вэнтыляцыя, прылады да забору вады, магчыма, нейкія асобныя памяшканьні, пераходы... Зусім нядаўна я бачыў, як археоляг Валянцін Собаль знайшоў галерэю, перакрытую цыліндрычнымі скляпеньнямі зусім побач са Сьвіслаччу, на вуліцы Гандлёвай, а Ігар Чарняўскі спрабаваў раскапаць уваход у двары таго кляштару бэрнардынак... Але сам лёс сьцеражэ падземны горад. У абодвух археолягаў не хапіла фінансаваньня й часу... Спадзяваліся на незалежнасьць...

Мала хто зь менчукоў здагадваецца і пра другую таямніцу. Шмат гадоў таму пад Кастрычніцкай плошчай быў запраектаваны падземны горад. Да часоў галоснасьці было далёка, а неўзабаве пачаўся карагод уладаў. Улады незалежнае Беларусі пра недабудаваны Менск пад зямлёю ўжо нічога ня ведалі.

Пад час будаўніцтва Палацу Рэспублікі пра яго раптам згадалі. Слова архітэктару Пірагову, кіраўніку праекту Палаца: «Мы плянавалі да завяршэньня палацу раскрыць усю дзялку, выканаць апорныя канструкцыі, добраўпарадкаваць. Ужо гатовыя выхады зь дзьвух лініяў мэтро. Але сёлета ўсё засыпалі пяском...»

Можна зразумець крыўду Пірагова, бо ён стаў бы аўтарам ня толькі нечуванага па памерах гмаху, але й цэлага падземнага гораду, цэнтрам якога стаў бы Палац. Гэта бадай, чыста менская ідэя. Ідэя, народжаная ў горадзе, дзе ўсё шматкроць спляжана, альбо зьменена. Ні я, ні хто іншы не пакажа ў Менску кутка, у якім за апошнія дваццаць гадоў нічога не зьмянілася. А пад зямлёю... Што там зруйнуеш? Сёлета нешта падобнае было зробленае ў Маскве, на Манежнай плошчы: сыстэма стаянак, зоны адпачынку, крамы. Але ў Менску задумана ўсяго значна болей і больш грандыёзна. Гаворыць суаўтар Пірагова, архітэктар Лявонці Зданевіч: «Калі Аляксандар Грыгор'евіч Лукашэнка быў у нас на суботніку, я далажыў яму пра падземны горад. Ён аднёсся станоўча...»

Не сумняваюся, падземны Менск будзе. Будзе горад у тры паверхі ўніз паміж трыма лініямі мэтрапалітэну, зьвязаны зь імі. Сыстэма гаражоў, крамаў, рэстаранаў, выставачных заляў.

Каўтаючы каву на 22-м паверсе гатэлю «Беларусь, з насьцярогаю пагладаю ўніз. Напэўна мне было б спакайней, каб ня ведаў, якая няпэўная ў Менску глеба. Балотная...

*Працяг у наступным нумары.*



Адам Глёбус

# ЗАМЕЖНІКІ

*Геаграфічнае апавяданьне*

Дзіўныя людзі — замежнікі. Павер, я паезьдзіў, паглядзеў, пазьдзіўляўся...

З каго пачаць? Пачну з расейцаў, людзей недалёкіх. Ты б толькі паглядзеў, як іншы зьдзіўляецца, калі нехта не разумее ягонае мовы... Я ж ім рускай моваю кажу, а яны, сабакі, не разумеюць! І ледзь ня плача бедны расеец, што не шануюць вялікай і магутнай, як ён маракуе, мовы.

А палякі? Здаецца, таксама побач жывуць, у адных краявідах зь беларусамі ходзяць, а бульбу, картоплі нашыя, называюць земнякамі. Як толькі пачуеш земнякі, так адразу апынесься на чужыне. Палякі, яны, вядома, нам бліжэй за расейцаў, у якіх навет інтэлігентны чалавек трымае каля правай нагі пад сталом адкаркаваную бутэльку гарэлкі і без нагоды прапаноўвае сто грамаў франтавых. Пшэк, як і бульбаш, знойдзе нагоду на тую чарку, але, каўтануўшы, пачне, як і расеец, разважаць пра імпэрыю ад мора да мора, добра, што не ад акіяну да акіяну, як сёньня будуюць тутсі.

Добра піць з эстонцамі. Эстонцы абодвух палоў любяць добра ўзяць чаго-небудзь моцнага, градусаў пад пяцьдзесят, а выпіўшы, абавязкова заўважаць, што не напіваюцца, як мы — славяне, і пачынаюць сьпяваць немэлядычныя, як у немцаў, песьні. П’яны эстонец не расьпярэзваецца, яе маскаль, а сыходзіць і сыходзіць у сябе, пакуль не засьне.

Літоўцы ў п’янцы шмат чым падобныя да эстонцаў, калі ад тых адшкрэбсьці нямецкае й падфарбаваць польскім. Выпіўшы, літоўцы сыходзяць у сябе яшчэ хутчэй за эстонцаў, бо нараніцу ім трэба сядаць у старыя мэрсэдэсы й ехаць капаць бульбу, ці, як кажуць, палякі: земнякі. Цікавыя людзі — лабасы, езьдзяць выбіраць бульбу на мэрсэдэсах.

Паміж Літвою й Эстоніяй - Латвія. Ты ж ведаеш геаграфію. А латышоў у Латыскай краіне, з шэрагу прычынаў, меней за палову. Мала іх, латышоў. Так мала, што самі латышы гавораць: «Латыш — гэта не нацыянальнасьць, латыш — гэта прафэсія». Вось як. А беларус, у такім разе, што! Аматарства рамантычнае, ці проста адзнака ў пашпарце й лёсе! Ай... Ня будзем пра кепскае.

Вось чэхі вельмі вясёлы народ, піва любяць, гумар шануюць. А калі прусак або маскаль побач, чэх адразу робіцца бравым салдатам Швэйкам; а зьніклі прадстаўнікі магутных імпэрыялістычных народаў, і чахол сам робіцца імпэрыялістам, дый яшчэ якім, гэткім праскім генэралісімусам, ня менш! Усіх цыганоў у рэзэрвацыю! Жыдоў высяліць! А славакаў, усіх да апошняга, адправіць рабочымі на чэскія заводы! Няпраўда? Праўда! Чуў на свае вушы, ад самых розных чэхаў і дзівіўся ня менш за цябе. У кожнай, навет найменшай нацыі, жыве й квітнее надзея на вялікую імпэрыю.

У грузінаў імпэрскія замашкі ня меншыя, чым у чэхаў. Але яны ўжо рэалізаваліся ў генэралісімусе Сталіне, можа таму грузіны шчодрыя. Іх шчодрасьць сваесаблівая, азіяцкая, ці што. Грузіны любяць адорваць гасьцей грашыма, паперкамі й манэткамі. Грашовыя падарункі выклікаюць у беларуса ніякаватасьць.

У падобны стан ты патрапіш, калі ў абхаскай рэстарацыі гаспадар прапануе есьці мяса рукамі. Маўляў, так яно смачнейшае. Спрабаваў. Апускаўся ў барбарства. У каўкаскім рэстаране шашлык смачнейшы, калі ясі рукамі й без нажа. Ясі, ясі і пачынаеш рыкаць, як зьвер. Ловіш сябе на азьвярэньні й думаеш, што есьці рукамі — не тваё. Пара, Глёбус, вяртацца дамоў, у цэнтральную Эўропу, да нашага, лыжкі й відэльца.

Толькі характар у мяне няўседлівы, некуды цягне, нібыта нехта вялікі й нябачны кліча... Паехалі ў Эгіпэт, на піраміды паглядзім, на сфінксаў, на залаты твар Тутанхамона. І купляю квіток, і еду, і зьдзіўляюся... Арабы не ўжываюць алькаголю, праз гэта мала жывуць, бо пакутуюць ад страўнікавых хваробаў і розных вантробных інфэкцыяў. Іх праблемы, іх мусульманскія завядзёнкі, іх лад і парадак. Але, скажы ты мне, нашто пісаць у пашпарт вялікімі кручкамі пра тое, што я набыў у Эгіпце тры пляшкі віскі. Як і кожны замежнік, я меў права на тры адзінкі алькаголю за адзін візыт. А яны ўзялі і напісалі пра тое ў пашпарт. Дзівакі.

Галяндцы мне ў пашпарце ніякіх запісаў не рабілі. Хоць я ў Амстэрдаме ня тое, што бутэлькі набываў, я там купляў і какаін з марыхуанаю. Пі, куры, нюхай, адно ведай сваю меру й не кладзіся спаць на дарозе. Галяндцы — самая эратычная нацыя ў Эўропе, пэўна таму яны так спакойна ставяцца да ўсіх задавальненьняў. Весяліся колькі хочаш і як хочаш, адно не зьвярэй. Так што захочаш павесяліцца — купляй квіток у Амстэрдам.

Яшчэ добра павесяліцца можна ў Тайляндзе. Галяндчыкі, прусакі, аўстрыякі так і робяць, на Новы год едуць у Бангкок і Патаю да тайцаў і таек, якія страшэнна ня любяць насіць абутак. Вось патрапілі машыны ў дарожны корак (у Бангкоку можна прастаяць гадзіны з чатыры) і ўсе кіроўцы паскідалі пантофлі. Ці бармэн — зайшоў за стойку і ціхенька разуўся. Цікава. Такое ўражаньне, што ва ўсіх тайчыкаў абутак неадпаведнага памеру: ці то цісьне, ці то звальваецца.

А ў італьянцаў іншы бзік. Ты ж

# Джойс і Борхес добрыя й бяз Нобэлеўскай прэміі



Нобэлеўская прэмія памерла. «Экспэрты» з Швэдзкай Акадэміі, якія, апрача ўсяго іншага, апошнім часам моцна перагрызьліся між сабою, забілі сёлета апошні цьвік у труну гэтай некалі самай прэстыжнай у сьвеце літаратурнай прэміі. Сярод верагодных кандыдатаў на яе атрыманьне гэтым разам называліся: партугальцы Жозэ Сарамагу і Антоніу Лобу Антуніш, бразылец Жоржы Амаду, бэльгіец Хуга Клаўс, Цэс Нотэбом зь Нідэрляндаў, альбанец Ісмаіл Кадарэ, амэрыканцы Джон Апдайк і Норман Мэйлер, эстонец Яан Кроcс, латышка Візма Бэлшавіца, мэксыканец Карлас Фуэнтэс, трынідадзец Відзьядгар Сураджпрасад Найпаўл, кітайскі паэт-выгнанец Бэй Дао, француженка Наталі Сарот, пэруанец Марыё Варгас Льёса.

Ну й ясная справа, усе мы спадзяваліся, што некалі будзе належна ўшанаваны й беларускі пісьменьнік — Васіль Быкаў выглядае і ў сусьветным кантэксьце зусім ня горш за названых.

Насуперак усялякай лёгіцы й здароваму глузду «акадэмікі» аддаюць прэмію маладомаму італьянскаму клоўну. Вось і ўся літаратура. Можна зачыняць краму.

**Сяргей Шупа,**

*Прага*

# Сто беларускіх кніг

*Чарговыя зьмены ў рэйтынгу «Нашае Нівы»*

Абдзіраловіч. Адвечным шляхам (11)
Адамовіч, Брыль, Калесьнік. Я з вогненнай вёскі (11)
Аляхновіч. У кіпцюрах ГПУ (17)
Арлоў. Таямніцы полацкай гісторыі (12)
Арсеньнева. Пад сінім небам (16)
Багдановіч. Вянок (25)
Беларусь. Энц. даведнік (12)
Быкаў. Знак бяды (20)
Быкаў. Сотнікаў (14)
Віцьбіч. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (14)
Гарун. Матчын дар (11)
Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры (13)
Гарэцкі. Дзьве душы (11)
Гарэцкі. Рунь (16)
Геніюш. Ад родных ніў (10)
Геніюш. Споведзь (22)
Дайнека. Сьлед ваўкалака (10)
Доўнар-Запольскі. Гісторыя Беларусі (10)
Ермаловіч. Па сьлядах аднаго міта (16)
Ермаловіч. Старажытная Беларусь (21)
Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (16)
Караткевіч. Дзікае паляваньне караля Стаха (21)
Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі (12)
Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім (17)
Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (13)
Караткевіч. Чорны замак Альшанскі (17)
Кіпель. Беларусы ў ЗША (10)
Колас. На ростанях (13)
Колас. Новая Зямля (21)
Колас. Сымон-музыка (10)
Купала. Жалейка (16)
Купала. Спадчына (18)
Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (11)
Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі (17)
Ластоўскі. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (13)
Маўр. Палескія рабінзоны (13)
Мележ. Людзі на балоце (16)
Разанаў А. Вастрыё стралы (11)
Сагановіч Г. Невядомая вайна (19)
Смоліч. Геаграфія Беларусі (19)
Сямашка. Армія Краёва на Беларусі (10)
Тарасаў. Памяць пра легенды (15)
Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школаў (23)
Ткачоў. Замкі Беларусі (12)
Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (17)
Цётка. Хрэст на свабоду (10)
Чаропка. Імя ў летапісе (13)
Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі I і II т. (13)

Кнігі, якія дадаліся ў сьпіс самых папулярных — «Гісторыя Беларусі» М.Доўнар-Запольскага і «Сымон-музыка» Якуба Коласа.

Чытач і аўтар «НН» з Баранавічаў Руслан Равяка дапоўніў наш агульны сьпіс назвамі 12-ці кніг, якія раней нашымі ня згадваліся. Цяпер у агульным сьпісе «НН» ужо больш за 600 пазыцыяў. Але, нагадаю, публікуем мы толькі тыя, якія згадваюцца нашымі чытачамі дзесяць і болей разоў (гэтая колькасьць паказаная ў дужках пась-



ведаеш, як макароньнікі любяць пад'есьці. Такое ўражаньне, што за піцу галодны італьянец аддасьць апошняе, навет амэрыканскі пашпарт аддасьць. Італьянцы ядуць, ядуць і мараць пра пахудненьне. Яны наварочваюць на відэлец спагеці й глядзяць у тэлевізар, дзе рэклямуюцца разнастайныя вібратары для згонкі лішкаў тлушчу і спартовыя снарады для падтрымкі паставы. Італьянцы так захопленыя рэклямаю, нібыта ад аднаго глядзеньня на яе яны скідваюць непатрэбную вагу.

Пра дзіўныя рысы народаў, у чыіх краінах давялося пабываць, я табе расказаў. Хацелася яшчэ сказаць пра габрэяў, цыганоў, армянаў, вэнграў, але ня быў я ў іх. А вось у Каталуніі быў. Каталунія яшчэ ходзіць пад гішпанцамі, а таму пра каталунцаў асобна і напрыканцы.

Каталунцы — цудоўны, прыгожы, таленавіты народ. Каталунцы пры сустрэчы і разьвітаньні цалуюцца ў абедзьве шчакі, нібыта падкрэсьліваюць цеплыню ўзаемаадносінаў.

*Барсэлёна, 3 жніўня 1997 году*

# XX ст.

ля назвы кнігі).

Алесь Лямец з Масквы піша: «Троху захваляваўся, — каб фармуемая «сотка» беларускіх кніг XX ст. атрымалася, наколькі магчыма, адэкватнай абліччу нашага нацыянальнага кнігазбору, Беларусі наогул. Таму й рашаюся прапанаваць братом-«рэйтынгістам» пад развагу дальшы мінімум аўтараў і твораў». А.Лямец пералічвае зборнікі: «Памяці Івана Луцкевіча», «400-лецьце беларускага друку», «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны», а таксама аўтарскія кнігі: К.Чорнага («Зямля»), А.Станкевіча («Хрысьціянства і беларускі народ»), А.Луцкевіча («Адбітае жыцьцё»), а. Надсона («Сьвяты Кірыл Тураўскі»), П.Урбана («У сьвятле гістарычных фактаў»), Ул.Конана («Ля вытокаў самапазнаньня»), Г.Кісялёва («Ад Чачота да Багушэвіча») ды іншыя. Напрыканцы ліста Алесь Лямец дадае: «А таксама Біблія (зь яе можна пачынаць пералік). Факсымільнае ўзнаўленьне Бібліі, выдадзенай Францішкам Скарынам у Празе ў 1517-1519 гадох».

Усе наступныя зьмены ў сьпісе залежаць толькі ад Вас, нашых чытачоў. Нагадаю, што Вам ужо неабавязкова называць усе сто кніг. Вы можаце выказаць Вашую згоду або нязгоду з тым сьпісам, які надрукаваны сёньня і прапанаваць свае дадатковыя пазыцыі. Чакаем Вашых лістоў.

**Крыт.**

Ралян Барт

# МІТ ПРА НЭГРАЎ

Часопіс «Пары-Матч» неяк распавёў гісторыю, якая яскрава адлюстроўвае дробнабуржуазны міт пра нэграў: сям'я маладых выкладчыкаў пабывала ў краі канібалаў, каб пазаймацца там жывапісам; пры гэтым яны бралі з сабою свайго зусім маленькага сына Бішона. Журналіст доўга захапляецца сьмеласьцю бацькоў і дзіцяці.

Перш за ўсё, нічога ў сьвеце не раздражняе болей за бязмэтны гераізм. Нядобра, калі грамадзтва бяз дай прычыны бярэцца трэніраваць свае станоўчыя якасьці. Калі для Бішона гэтая вандроўка сапраўды была ў пэўнай ступені небясьпечнай (горныя рэкі, драпежнікі, хваробы ды й г.д.), то цягнуць яго за сабой — толькі дзеля таго, каб намаляваць колькі афрыканскіх краявідаў, задаволіўшы сваё сумнеўнае вычварнае жаданьне перанесьці на палатно «оргіі сонца й сьвятла», — сапраўдная дурасьць. Яшчэ большае ідыёцтва — выдаваць гэтую дурасьць за прыгожанькую й кранальную сьмеласьць. Як функцыянуе сьмеласьць у дадзеным выпадку, выдатна зразумела: гэта чыста выглядны бессэнсоўны акт, і чым меней ён матываваны, тым большую павагу ўнушае. Вось яна, сапраўды, скаўцкая цывілізацыя, дзе кодэкс пачуцьцяў і каштоўнасьцяў абсалютова адарваны ад канкрэтных праблемаў салідарнасьці й прагрэсу. Гэта стары міт пра «выхаваньне характару», г.зн. пра «выпрабаваньні». Подзьвігі Бішона нагадваюць відовішчныя штурмы вяршыняў, дэманстрацыі этычнага тыпу, канчатковая вартасьць якіх залежыць толькі ад выкліканага імі розгаласу. Нароўні з сацыялізаванымі відамі спорту ў нас часта існуюць ягоныя найвышэйшыя элітныя формы, калі фізычныя высілкі не стаюць падставаю для ўзаемапаразуменьня паміж людзьмі, а выхоўваюць мараль фанабэрыі, экзотыку загартаванасьці, танную містыку прыгодаў, цалкам адарваныя ад рэальных праблемаў зносінаў паміж людзьмі.

Для апісаньня вандроўкі бацькоў Бішона ў нейкую мясцовасьць, (месцазнаходжаньне якой, дарэчы, апісана досыць цьмяна й якую ў артыкуле найчасьцей называюць Краінай Чырвоных Нэграў — гэткую рамантычную старану, рэальныя рысы якой неўпрыкмет затушоўваюцца, але ўжо сама красамоўная назва якой нагадвае пра жудаснае супадзеньне паміж колерам скуры яе жыхароў і чалавечаю крывёю, якую яны нібыта там п'юць), дык вось, для апісаньня гэтай вандроўкі ўжываецца заваёўчая тэрміналёгія. Магчыма, сьмелае сямейства едзе туды й няўзброеным, аднак з «палітраю й пэндзлем у руцэ й мальбэртам за плячыма», нібыта распавядаецца пра паляваньне ці вайсковую экспэдыцыю, зарганізаваную ва ўмовах браку фінансавых сродкаў (усё ж такі нашыя героі бедныя, бо бюракратычнае грамадзтва шчэ не настолькі шчодрае, каб аплочваць пышныя экспэдыцыі), але выбітную сваёй сьмеласьцю. І сваёй блііскучай, нават гратэскавай непатрэбнасьцю. Малы Бішон грае ролю Парсіфала, ён процістаўляе бель сваёй скуры й ясь валасоў, сваю ўсьмешку й цноту пякельнаму сьвету чорна-чырвонае скуры, скарыфікацыяў* і пачварных масак. Натуральна, перамагае пяшчота белае скуры: Бішон прычароўвае «людажэраў» і становіцца іхным кумірам (белыя, бясспрэчна, створаныя дзеля таго, каб быць багамі). Бішон, слаўны маленькі французік, зьмякчае душы дзікуноў і зь лёгкасьцю падпарадкоўвае іх сабе: у свае два гады, замест таго, каб тупаць па алеях Булонскага лесу, ён ужо працуе на карысьць айчыны, рыхтык ягоны бацька, які, халера ведае чаму, далучаецца да атраду французскіх каляніяльных войскаў, вырашыўшы пажыць іхным жыцьцём, і прыймае ўдзел у паляваньні на «бандытаў», што хаваюцца ў лесе.

Мы ўжо вызначылі асноўныя рысы вобразу нэгра, які паўстае між радкамі нашага кароткага й міленькага раману: па-першае, нэгар выклікае жах, ён канібал; Бішона лічаць героем, бо ён рызыкуе быць зьедзеным. Бяз гэтае падсьвядомае рызыкі гісторыя згубіла б усю шокавую эфэктнасьць, чытачу не было б страшна; канфлікт узрастае, калі белае дзіцё — адно, безабароннае і бясклапотнае — да таго ж апынаецца ў акружэньні чорных, што ўяўляюць патэнцыйную пагрозу (адзіным бясьпечным вобразам нэгра з усіх, намаляваных у артыкуле, можа быць вобраз слугі, прыручанага дзікуна, аднак і ён суправаджаецца стэрэатыпам, агульным для ўсіх баек пра Афрыку: слуга-рабаўнік зьнікае разам з рэчамі гаспадароў). У любым выпадку чытач павінен трэсьціся ад страху перад тым, што магло б адбыцца: у артыкуле так і не ўдакладняецца, што менавіта пагражала падарожнікам, ні разу не ўдакладняецца: захоўваецца выглядная «аб'ектыўнасьць» апавяданьня; насамрэч жа, яно трымаецца на патэтычным супрацьпастаўленьні белай і чорнай скуры, цноты і жорсткасьці, духоўнасьці і магіі; Красуня ўтаймоўвае Пачварыну, Даніла дазваляе львам лізаць сваё цела, барбарства інстынкту падпарадкоўваецца цывілізацыі душы.



Цымус усяе гісторыі зь Бішонам заключаецца ў тым, што чытач бачыць нэгрыцянскі сьвет вачыма белага дзіцяці. Відавочна, для малога нэгры падаюцца нейкімі лялькамі. А паколькі такое бачаньне цалкам аналягічнае таму, як сярэдні чалавек успрымае любыя экзатычныя традыцыі й звычаі, то чытач «Пары-Матча» толькі ўмацоўваецца ў сваіх па-дзіцячаму наіўных уяўленьнях пра сьвет, страчваючы ўсялякія рэшткі здольнасьці ўявіць сабе іншага і іншае, што я ўжо адзначаў, гаворачы пра дробнабуржуазныя міты. Па сутнасьці, — лічыць ён, — жыцьцё нэгра не зьяўляецца самастойным і паўнавартасным; нэгр — гэта дзіўны аб'ект, паразытычная роля якога зводзіцца да абавязку цешыць сваім дзівацтвам і неакрэсьленай варожасьцю. Афрыка для большасьці — гэта і сьмешны, і страшнаваты лялечны тэатар.

Цяпер, супаставіўшы тыя стэрэатыпы, якія эксплюатуе «Пары-Матч» (а яго чытаюць прыкладна паўтара мільёны чалавек), з намаганьнямі этнолягаў, скіраванымі на тое, каб разьвеяць міты адносна фэномэну чорнае скуры, з той ёмкай асьцярогай, зь якой яны ўжо даўна ставяцца да двухсэнсоўных азначэньняў «першабытнага» і «архаічнага», з інтэлектуальнай сумленнасьцю такіх людзей, як Мос, Леві-Строс альбо Лёруа-Гуран, якія змагаюцца супраць састарэлай тэрміналёгіі з расысцкім падтэкстам, — мы лепей зразумеем, што за ланцуг скоўвае нашае мысьленьне: гэта варты жалю разрыў паміж ведамі й міталёгіяй. Навука мкліва крочыць наперад, але калектыўныя ўяўленьні ня йдуць за ёю, не даганяюць, а адстаюць ужо на шмат стагодзьдзяў, бо ўлады, прэса й ерархія каштоўнасьцяў культывуюць аблуды.

Сьветапогляд людзей застаецца яшчэ ў даасьветніцкім стане, і пра гэта зноў і зноў трэба біць у званы. Бо калі ў эпоху Мантэск'ё й Вальтэра і дзівавіліся на пэрсаў і гуронаў, то ўсё ж прызнавалі, што яны лепшыя за нас чысьцінёю душы. Калі б Вальтэр жыў сёньня, ён не апісваў бы прыгоды Бішона, як робіць гэта «Пары-Матч», а хутчэй, стварыў бы вобраз нейкага Бішона-людаедзіка (альбо карэйца), які змагаецца з заходнімі «лялькамі», узброенымі напалмавымі бомбамі.

**Пераклад з францускай Міколы Шакеля**

**Рытуальныя надрэзы на скуры (заўвага перакладчыка).*

У сваёй кнізе «Міталёгіі» (1957) Ралян Барт расшыфроўвае сучасныя міты й забабоны: ад харчовых звычак (француская цывілізацыя) да культаў багацьця, хуткасьці, «зорак» — і робіць гэта бязьлітасна.

Яшчэ гадоў дзесяць таму ў нас вельмі моднай была тэма «мяшчанства», «абывацельскай сьвядомасьці». Пра гэта пісалі артыкулы, ставілі п'есы, штампавалі вершы. Пасьля яна была адпраўленая ў адстаўку, як і, напрыклад, крытыка урбанізму, «гораду, які высмоктвае сокі са сваіх ачмурэлых ад тлуму дзяцей», або тэма «экалёгіі». Барт імкнецца разьвянчаць сьветапогляд і каштоўнасьці менавіта гэтага мяшчанства або, у адпаведнасьці з марксысцкай тэрміналёгіяй, дробнай буржуазіі. За звычкамі й традыцыямі, стэрэатыпамі й агульнапрынятымі каштоўнасьцямі хаваюцца фальш, глупства і тандэтная фанабэрыя, — дaказваў Барт, узброіўшыся апошнімі — на той час, і як хутка ўсё мяняецца — дасягненьнямі антрапалёгіі, псыхааналізу й лінгвістыкі. Найбольшую цікавасьць у «Міталёгіях» уяўляе, мабыць, аналіз таго, як адбываецца «натуралізацыя» прадуктаў ідэалёгіі пэўнага грамадзтва; прасачыць гэта было б прасьцей па поўным тэксьце працы, але ж Барт на беларускую мову перакладаўся досыць спарадычна («ЗНО», «Фрагмэнты»), дый якасьць тых урыўкавых перакладаў абыякая. Як толькі да перакладу Барта падабралася Сорасава сэрыя «Адкрытае грамадзтва», улады пасьпяшаліся прыкрыць фонд.

Ралян Барт памёр у 1980 годзе, не адыйшоўшы ад наступстваў дарожнага здарэньня; тым самым ён пражыў нашмат менш, чым звычайна жывуць францускія філёзафы й каля-філёзафы, якія ўвогуле адрозьніваюцца зайздросным доўгажыхарствам: ужо гэтым ён ня можа ня быць цікавы.

Асноўныя працы Барта: «Нулявы ўзровень пісьма» (1953) — рэфлексія пра літаратурную мову й яе гістарычныя перадумовы; «Мішле» (1954), «Расін» (1957), што напісаныя ў рэчышчы «новай крытыкі»; «Элемэнты сэміялёгіі» (1964), «Сыстэма моды» (1967); «С/З» (1970), «Сад, Фур'е, Лаёла» (1971); «Імпэрыя знакаў» (1970) — дасьледаваньне цесных сувязяў між знакамі й чалавекам на нязвыклым і складаным грунце краіны Японіі; «Асалода тэксту» (1973); «Ралян Барт пра Раляна Барта» (1975), дзе ўзносіцца тое задавальненьне, якое тэкст дастаўляе чытачу.

На фотаздымках Ралян Барт выглядае чалавекам ураўнаважаным і даволі сытым. Што да нэграў, то 45% беларускіх бацькоў «не дапусьцілі б», каб іх дзіця ў школе сядзела за адной партай з чорным, а яшчэ 38% не хацелі б гэтага. Спадара Жыльбэра Макіту, ураджэнца Конга, што выкладае францускую мову ў БДУ і МДЛУ, білі ў Менску за колер скуры двойчы, сям'ю ягоных суайчыньнікаў, парафіянаў касьцёла Залатога Роха, — пакуль ні разу.

**Андрэй Дынько**

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ

# Манумэнт Перамогі



Не пасьпеў састыць попел на менскім друзе, а на цнатлівых аркушах ватману, у цішы майстэрняў, нараджаўся новы Менск. Зруйнаваная сталіца па вайне набывала цалкам новыя рысы, новы колер, новы маштаб. Можа таму Менск да сёньня выглядае пакварэльнаму празрыста, як і ў архітэктурных праектах, дзе сухія краськлюнкі адухоўленыя пяшчотнымі адмыўкамі й лесіроўкамі. Паўматэрыяльная прастора красьлюнкаў увасобілася ў паўматэрыяльнай прасторы Менску...

... У 1947-51 гадах быў створаны праект плошчы Перамогі, у распрацоўцы якога бралі ўдзел архітэктары Аранаўскас, Заборскі, Баршч і Мацкевіч. Пакуль прыступілі да ягонае рэалізацыі, на адхоне Траецкае гары пабудавалі велічны будынак штабу, паводле праекта Гусева і шыкоўную (па тым часе) гранітную набярэжную паводле праекта яшчэ аднаго архітэктара з птушыным прозьвішчам — Бакланава. Як толькі ў 1952 годзе быў скончаны новы мост цераз Сьвіслач, прыступілі да пабудовы комплексу велізарнае плошчы (225x170 м)...

... Адпраўною кропкаю ансамблю новай плошчы сталі два паўкруглыя дамы, будаўніцтва якіх пачалося яшчэ ў 1939 годзе. Яны мусілі стаць часткаю калясальнае задумы Лянгбарда, аўтара менскае Опэры, які задумляў Менск як горад будучыні з прамымі магістралямі й нізкамі пляцаў простых канфігурацыяў. Аўтарам самых гэтых дамоў быў Столер, які вярнуўся ў Менск, каб давяршыць свой праект. Аднак праект рэалізаваўся напалову, паваенны трыюмфатарскі патас патрабаваў большых маштабаў. Два паўкруглыя дамы былі скончаныя ў 1947 годзе (маста яшчэ не было!) і з таго часу і па сёньняшні дзень плошча завецца ў народзе Круглай. Але тут і была закладзеная горадабудаўнічая хіба... У 30-я гады за гэтай плошчаю цягнуліся драўляныя хаціны, могілкі, а далей — Камароўскае балота. Таму грандыёзны пляц падцягнулі бліжэй да цэнтру, у выніку чаго ён апынуўся ў лагчыне. Атрымліваецца, у палёце фантазіі ўтапістаў 30-х усё ж былі свае межы. Каб пляц быў разьбіты за якіх 500 мэтраў далей ўгару, то сёньняшні манумэнт Перамогі мы б бачылі зь любое кропкі Менску...

... Пасьля 1947 году пачалося будаўніцтва новага ансамблю. Паводле праекту Аранаўскасаў і Баршча абапал плошчы былі ўзьведзеныя сымэтрычныя групы па тры дамы ў кожнай. Ад праспэкту іх аддзялілі зялёныя палосы, якія пераходзяць у зеляніну менскіх набярэжных паркаў. Увесь гэты комплекс стаў ці ня самым гуманістычным ансамблем Менску. У гэтым засталася нейкая таямніца...

... Колішні генэральны консул колішняе ГДР у Менску часам распавядаў, што ён ня любіць бываць на гэтай плошчы, хоць тая зусім блізка ад консуляту. «Я працаваў на яе будоўлі, і для мяне гэта ня самы лепшы ўспамін», — гаварыў ён. Сапраўды, плошчу Перамогі (ці Круглую) спачатку будавалі палонныя немцы пад рулямі савецкіх карабінаў. Савецкаму рэжыму паваеннае трыюмфаваньне надалося для ўзмацненьня ўласнае міталёгіі. Ужо мала хто сёньня згадвае, што ў сьцены будынкаў на плошчы былі ўмураваныя кавалкі друзу з гарадоў-герояў СССР. Хоць якіх гадоў дваццаць таму любы падлетак мог паказаць «дом героя Савецкага Саюзу Паўлава», у якім замураваная цагліна са Сталінграду. Хто такі Паўлаў? Дзе той Сталінград? Стаяць па-просту імпазантныя дамкі зь вежкамі-бэльвэдэрчыкамі, з балясінкамі, з шыкоўнымі портыкамі, кахлянымі аканічкамі, маскарончыкамі. Чалавечная, зразумелая архтэктура. Вельмі чалавечная...



*Манумэнт Перамогі, бэтон, граніт, бронза, 40 м, 1954 г. (архітэктары Г.Заборскі, У.Кароль; скульптары А.Бембель, С.Селіханаў, З.Азгур, А.Глебаў, С.Салтыкоў, С.Адашкевіч)*

Апошняю кропкаю ў сфармаваным ансамблі стаў Манумэнт Перамогі. Яго будаўніцтва доўжылася з 1954 па 1955 год. Рэкордныя нават на тыя часы тэрміны! Аўтарамі праекту сталі Георгі Заборскі і Ўладзімер Кароль. Ізноў жа па тых часах цікавая акалічнасьць: абодва архітэктары — беларусы, Заборскі родам зь Менску, а Кароль з Чэрвеня.

Сам манумэнт — клясычны гранёны абяліск з шэрага граніту на вялікім ступенчатым стылябаце. Абяліск увянчала груваcткая выява савецкага ордэну Перамогі. У той жа час не забылі і пра нацыянальны калярыт (дарэчы, адпаведна традыцыі ўсёй той эпохі) — па стэле разьмешчаныя рэльефныя паскі зь беларускім арнамэнтам. Стэла стала галоўнаю дамінантаю ня толькі плошчы Перамогі, але і зьвязала кампазыцыйна ўвесь праспэкт Сталіна (сёньня Скарыны).

Над мастацкай плястыкаю Манумэнта працавалі ўсе найбуйнейшыя скульптары Беларусі. Насуперак уяўленьням, гарэльефы атрымаліся рознымі, як розны быў талент гэтых творцаў, розны тэмпэрамэнт і розныя школы. Цэнтральную кампазыцыю «9 траўня 1945 году» выканаў Бембель. Яна ўяўляе сабою алегорыю трыюмфу перамогі савецкіх войскаў і беларускіх савецкіх партызанаў. Адна дэталь зь цягам часу была падпраўленая: з бронзавага сьцяга, які лунае над людзьмі — героямі... зьнік з часам профіль Сталіна, а Ленін атрымаў вуха. Паводле дзіўнага зьбегу абставінаў у 5 томе «Гісторыі беларускага мастацтва» за 1992 год зьмешчаны здымак гэтага гарэльефу ўсё з тым жа Сталіным, якога няма ў рэальнасьці ўжо тры дзясяткі гадоў. Нягледзячы на самае пачэснае месца і простую, у параўнаньні зь іншымі скульптурамі, задачу, гэты гарэльеф — самы нягеглы з усіх. Кампазыцыя апынулася разбэрсанай. Штучны патас фігураў на другім пляне недарэчна кантрастуе са статычнымі фігурамі на першым.

Кампазыцыя Селіханава «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны», зьлепленая імпэтна, сакавіта, амаль імпрэсіяністычна, спускаючыся ад алегорыі да рэалізму, прадстаўляе матыў бою. Гэты гарэльеф, як і паралельны яму гарэльеф «Партызаны» Глебава, які адлюстроўвае эпізод рэйкавае вайны, скіраваны ў бок галоўнага рэльефу. Азгур выканаў тыльную кампазыцыю, ці не найбольш адпаведную прызначэньню Манумэнту — «Слава палеглым героям». Пры абсалютнай ляпідарнасьці й статычнасьці гэты гарэльеф апынуўся самым цэласным паводле кампазыцыі і ўнутранага эмацыйнаму строю.

Складаныя й шматслоўныя рэльефы былі аблямаваныя дэкаратыўнымі элемэнтамі. Па гранітных тумбах, якія з чатырох кутоў флянкуюць, разьмешчаныя бронзавыя вянкі з пальмавых галінаў і кветак, ля падэшвы стэлы ўскладзены меч, спавіты галінкаю ляўра. Гэтае ўбраньне было відавочна залішняе, бо звычайны мінак пра гэтыя прыдаткі й не здагадваецца.

У 1961 годзе пад стэлаю быў запалены «вечны» агонь, які гарыць з папераменным посьпехам і да сёньня. Але пад манумэнтам ужо няма зямлі... У 1984 годзе, пры будаўніцтве мэтрапалітэну тут прайшла траса мэтро, а вакол самой стэлы створаная падземная галерэя. Насуперак чаканьням, людзей перад гэтай рэліквіяй стала меней. Галерэя стала звычайным пераходам, дзе гандлююць бабкі й сьпяваюць студэнты... А 9 траўня 1995 году Георгія Заборскага з кветкамі амонаўцы не прапусьцілі да Манумэнту Перамогі, бо стары чалавек, вэтэран-франтавік, народны архітэктар СССР, ішоў пад іншым сьцягам. Пад нашым сьцягам...

**Сяргей Харэўскі**

"Наша Ніва"
незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991
заснавальнік ........ Павал Жук
рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ БГФ "Наша Ніва"
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі ........ Зьміцер Бартосік

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: edit@niva.minsk.by



Наклад 2660. 12 палос фармат А2 нумар папісаны ў друк 23:46, 19/10/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6143. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12